Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 10 (4554) 12 сакавіка 2010 г.

## У нумары:





Ярaслава Пархуту, якому ў гэтыя дні споўнілася б 80 гадоў, я магу назваць сваім сябрам, тым болей, што мы землякі, блізкія па ўзросту людзі — ён маладзейшы за мяне ўсяго на два гады, і вучыцца ў БДУ мы пачыналі ледзь не разам — ён ішоў на год пазней, і мы добра ведалі адзін аднаго яшчэ студэнтамі, а потым і па працы, хоць у яго працоўная біяграфія была больш пакручастая. Яму давялося павандраваць па рэспубліцы, змяніць не адно месца працы — у раённых газетах, на Брэсцкай студыі тэлебачання, пасля асесці ў Мінску, працаваць у часопісе "Вожык", і нарэшце — у "Роднай прыродзе".



# Дапытлівы шукальнік Яраслаў

Можна сказаць, што Яраслаў Пархута тут як знайшоў сябе: прырода стала для яго той крыніцай, з якой ён чэрпаў увесь свой літаратурны матэрыял, шмат падарожнічаў, знаёміўся з новымі людзьмі, якія потым рабіліся героямі яго нарысаў. Трэба заўважыць, што яго нечакана стала падводзіць здароўе, хоць з выгляду ён быў дужым мужчынам, сынам каваля, аднак сэрца было нечым надарвана, ён моцна захварэў, а потым хадзіў, як сам казаў, на трох нагах — трэцяй была кавенька, з якою не разлучаўся. І з ёю ён перамерыў столькі дарог па роднай Беларусі, што невядома, хто зрабіў бы такое на здаровых нагах. Многія жартам называлі яго нашым Міклуха-Маклаем.

Яраслаў Пархута пачынаў з вершаў, з вершаваных казак для дзяцей, потым перайшоў на прозу, але пераважна дакументальную, пайшоў, можна сказаць, у народ, збіраць свае сюжэты для падарожных нарысаў, і выдаў некалькі кніжак. Фактычна ён "знайшоў" сябе на сцежках роднай зямлі, яго падарожныя нататкі чытаюцца цікавей, чым нашы апавяданні, менавіта з іх пазнаём мы наш край, яго людзей, нашу цудоўную прыроду, у пэўнай меры нашу гісторыю, асабліва сучасную, нядаўна перажытую — апошнюю вайну з яе шматлікімі ахвярамі, са спаленымі вёскамі і людзьмі. Але Яраслаў спыняецца на такіх гісторыях як бы па дарозе, яго цікавяць не толькі трагічныя сюжэты, а і звычайныя жыццёвыя гісторыі і з'явы. Можна сказаць, што ён піша кнігу пра край і яго насельнікаў, пра прыроду і нас з вамі, бо мы звязаны ў адно не ўчора і не сёння, а ўсё жыццё — яго цікавіць "зямля бацькоў нашых", а пішучы пра зямлю, нельга абыйсці лёсы людзей, якія тут жылі і жывуць.

Рэчкі, азёры, крынічкі, пагоркі, лясы і пералескі, дарогі — шасэйныя, палявыя, сухія і гразкія, вёскі і вёсачкі, якія рассыпаны па ўсім краі ад далягляду да далягляду, людзі з тэхнікай і без яе, з коньмі і каровамі — усё гэта ў цэнтры ўвагі пісьменніка, і ўсё гэта пададзена як праз павелічальнае шкло, выпукла і рэзка, што можна разгледзець шмат якія дэталі, гатовыя ўзрадаваць душу і пацешыць вока ўдзячнага чытача.

Жывыя пейзажы, нацюрморты можна пісаць з таго, што расказаў і паказаў нам Яраслаў Пархута, нястомны падарожнік і збіральнік скарбаў, на якія нам няма часу азірнуцца і падзівіцца. Узяць толькі назвы падарожных нататкаў — і мы адразу зразумеем шырыню абсягаў аўтара: "Крутагор'е" — Койданаўшчына, "Гарывада" — беларуская нафта, "Граніт Палесся" — сама назва гаворыць за сябе, "Соль зямлі", "Белавежа", "Сталіца валявах" — пра птушак на Прыпяці, "Музей у Гудзевічах", "Гожа над Нёманам", "Нарач" — і іншае, — усё гэта сабрана ў адной кнізе "Зямля бацькоў нашых".

Другую кніжку — "Крыніца ёсць у родным краі…", аўтар мне падпісаў проста і традыцыйна: "Уладзіміру Дамашэвічу — ад шчырага сэрца і на добрую памяць. 20.03.92 г."

Пачнеш чытаць-перачытваць — і не адарвацца, бо ўсё цікава, і ўсё гэта ляжала непадалёк ад нашага жыцця, але без Пархуты магло б прапасці, згубіцца для нашай культуры.

І дзякуеш у душы, і радуешся, што вось быў такі неспакойны чалавек, непаседлівы і рухавы, які так шмат сабраў дарагіх самародкаў і аддае іх нам поўнаю жменяй: карыстайцеся на здароўе, больш ведайце свой край і сваіх людзей.

Гэтая кніжка яшчэ цікавейшая за "Зямлю бацькоў нашых", бо тут больш пра мясціны, звязаныя з памяццю нашых знакамітых людзей, а мо наадварот — пра нашых знакамітых людзей і тыя мясціны, дзе яны нарадзіліся ці жылі. Запамінальныя старонкі пра артыста і драматурга Галубка, Зоську Верас, Тарашкевіча, Новіка-Пеюна і іншых цікавых людзей. А падарожжа па Прыпяці — цэлая аповесць пад назвай "Палескі дзённік" — колькі там усяго змястоўнага і адметнага для чалавека, які там ніколі не быў!

Хочацца прывесці два абзацы, у якіх аўтар звяртаецца да свайго чытача: "Збылася яшчэ адна мара: за плячыма многія сотні кіламетраў па зямлі бацькоў нашых… З кожнага падарожжа (а іх на гэты раз было дваццаць шэсць) вяртаўся дадому болей відушчы і дабрэйшы душою. А цяпер вось аддаю табе, дарагі чытач, усё тое маё багацце…"

Можна толькі пашкадаваць, што Яраслаў Пархута рана пакінуў гэты свет, але тое, што ён зрабіў, застанецца ў нашай літаратуры залатым скарбам, будзе прыкладам для літаратурнай моладзі, якую ён вучыў любіць сваю зямлю, свой народ, яго мову, гісторыю і культуру.

Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

## Пунктірам

•Як паведамілі ў прэс-службе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб узнагароджанні 16 грамадзян краіны. Сярод іншых, медаля Францыска Скарыны ўдастоены галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі, а таксама артыст вышэйшай катэгорыі Беларускага дзяржаўнага цырка Сяргей Бандарчук..

•Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 60-годдзем мастацкага кіраўніка Маладзёжнага тэатра эстрады, народнага артыста Беларусі Васіля Раінчыка, паведамілі ў прэс-службе Кіраўніка дзяржавы. Бліскучым талентам і нястомнай плённай творчасцю вы зрабілі значны ўнёсак у развіццё нацыянальнай музычнай культуры, гаворыцца ў віншаванні. З вашым імем звязаны лепшыя старонкі гісторыі легендарнага ансамбля "Верасы", дзякуючы якому беларуская эстрада атрымала міжнародную папулярнасць і прызнанне.

•"Залаты дуэт" Лунінецкай дзіцячай школы мастацтваў у чарговы раз захапіў сваёй творчасцю сталічную публіку. Канцэрт выкладчыкаў ДМШ — спявачкі Наталлі Мурко і акампаніятара Валянціны Савінкінай — для ўдзельнікаў літаратурнага ваенна-патрыятычнага клуба "Доблесць" у актавай зале бібліятэкі Дома афіцэраў у Мінску адзначаны як адно з важнейшых дасягненняў у сферы культуры раёна.

•Да 14 сакавіка ў сталічным кінатэатры "Цэнтральны" праходзіць тыдзень французскага кіно, які арганізаваны пры падтрымцы пасольства Францыі ў нашай краіне. Распачаўся тыдзень 9 сакавіка з паказу камедыі рэжысёра Паскаля Томаса "Нуль". У кінаманаў яшчэ ёсць магчымасць паглядзець 12 сакавіка "Берні" Альбера Дзюпантэля, 13 і 14 — "Кірыку і вядзьмарка" Мішэля Асела.

•18 сакавіка на гастролі ў Эстонію адправіцца сімфанічны аркестр Маладзечанскага музычнага вучылішча імя Агінскага. Калектыў запрасілі дырыжор сімфанічнага аркестра Таліна "XXI стагоддзе" і Талінскай оперы Эркі Пехк і дырыжор оперных фестываляў Эстоніі Томас Кутэр. Сімфанічны аркестр плануе даць тры канцэрты. Эстонскія слухачы пачуюць творы Мікалая Рымскага-Корсакава, Пятра Чайкоўскага ды іншых кампазітараў. Вакальную праграму прадставяць салісты Анатоль Сіўко, Наталля Шыбко, Андрэй Саўчанка.

•У Мінску прайшло ўручэнне штогадовай музычнай прэміі "Рок-каранацыя". Гуртам года стала каманда "Без білета", "Лепшую песню" атрымаў гурт "Ляпіс Трубяцкі" за кампазіцыю "Ружовыя акуляры". Дэбютантамі года сталі хлопцы з The Toobes. За адданасць жанру ўзнагародзілі "Князя Мышкіна", у намінацыі "Традыцыя і сучаснасць" перамагла "Крама", Наста Шпакоўская з гурта "Нака" атрымала сёлета карону "рок-князёўны". Канцэрт N.R.M., прысвечаны яго 15-годдзю, стаў "Падзеяй года". Лепшым леташнім выканаўцам прызнаны Зміцер Вайцюшкевіч.

Падрыхтавалі
Павел РАДЫНА
і Таццяна КАНАПАЦКАЯ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Паяднаў патрыятызм

**Кожная сустрэча членаў Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі з маладымі воінамі — гэта сапраўды ўрок выхавання патрыятызму, свяшчэннай любові да Айчыны, адказнасці перад народам і будучым.**

Нядаўна з воінамі 103-й гвардзейскай асобнай мабільнай брыгады сустрэліся лаўрэат Міжнароднай імя Сімяона Полацкага і Усерасійскай імя Ф. Цютчава літаратурных прэмій Тамара Краснова-Гусачэнка, лаўрэат абласной літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча Барыс Бележэнка і лаўрэат рэспубліканскага літаратурнага конкурсу Міністэрства абароны Беларусі Генадзь Катляроў.

Паэты чыталі хвалюючыя вершы, прысвечаныя Айчыне, яе гераічнаму мінуламу. Захапіла прысутных сваёй горкай праўдай і апавяданне Генадзя Катлярова "Ротны", у аснову якога пакладзены ўспаміны ветэранаў пра першыя дні Вялікай Айчыннай. Загадчыца бібліятэкі воінскай часці Лідзія Гардзіеўская падрыхтавала выставу кніг гасцей.

Творы, што гучалі ў выкананні аўтараў, кранулі ўсіх удзельнікаў сустрэчы. Гвардыі палкоўнік А. Лычкоўскі ўручыў гасцям памятныя знакі з эмблемай брыгады і пісьмо, дзе камандаванне 103-й гвардзейская асобнай мабільнай брыгады выказвае шчырую падзяку пісьменнікам Віцебшчыны за актыўны ўдзел у духоўна-маральным і патрыятычным выхаванні маладых абаронцаў Радзімы.



На заканчэнне сустрэчы пісьменнікі падарылі бібліятэцы свае кнігі. За апошнія тры гады гэта была пятнаццатая сустрэча віцебскіх творцаў з дэсантнікамі.

Леся КРАСАВІК

## Культурная прастора

**По запрашэнні міністра культуры Беларусі Паўла Латушкі ў Мінск наведаўся міністр культуры Літоўскай Рэспублікі Рэмігіюс Вілкайціс. Пасля падпісання Праграмы культурнага супрацоўніцтва паміж міністэрствамі культуры абедзвюх краін на 2010 — 2011 гады адбылася прэс-канферэнцыя.**

# Супрацоўніцтву — планамернасць



Павел Латушка зазначыў, што праграмай прадугледжваецца стварэнне адмысловай рабочай групы на чале з намеснікамі міністраў, якая будзе займацца пашырэннем супрацоўніцтва ў галіне культуры, каардынаваць дзейнасць мерапрыемстваў. Так, у бягучым годзе плануецца правесці Дні культуры Беларусі ў Літве і Дні культуры Літвы ў Беларусі.

Дадзенай праграмай акрэслены асноўныя кірункі будучага супрацоўніцтва ў сферы культуры паміж нашымі краінамі на бліжэйшыя два гады. Міністр культуры Беларусі акрэсліў пашырэнне актывізацыі супрацоўніцтва ў галіне музычнага мастацтва: абменныя канцэрты дзяржаўных сімфанічных, камерных аркестраў. Таксама будуць развівацца прамыя кантакты паміж тэатрамі дзвюх краін шляхам арганізацыі гастроляў і выступленняў тэатральных калектываў і асобных выканаўцаў.

Не застанецца ў баку і супрацоўніцтва ў галіне кінематаграфіі, уключаючы сумесную беларуска-літоўскую кінавытворчасць. У нашай краіне плануецца правесці Дні літоўскага кіно, а літоўскія гледачы азнаёмяцца з нашымі лепшымі стужкамі. Да таго ж літоўскіх кінематаграфістаў чакаюць на фестывалях "Лістапад" у Мінску і "Анімаёўка" ў Магілёве.

Будзе наладжана непасрэднае супрацоўніцтва паміж Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі і Літоўскім мастацкім музеем, музеем Марка Шагала ў Віцебску, Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы і Літоўскім музеем тэатра, музыкі і кіно, а таксама садзейнічанне арганізацыі абмену выстаўкамі і адукацыйнымі праграмамі. Больш цесныя кантакты будуць наладжаны між Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і Літоўскай нацыянальнай бібліятэкай імя Марцінаса Мажвідаса.

Павел Латушка запрасіў свайго літоўскага калегу Рэмігіюса Вілкайціса ўзяць удзел у святкаваннях з нагоды 600-годдзя Грунвальдскай бітвы: мерапрыемствы адбудуцца 26 — 27 чэрвеня ў Навагрудку. У старажытны горад мяркуюць прыехаць міністры культуры Расіі, Польшчы і Украіны.

Таксама закраналіся пытанні ўліку, даследаванняў і аховы размешчаных на тэрыторыях нашых краін аб'ектаў гістарычнай і культурнай спадчыны, звязаных з агульнай гісторыяй і культурай Беларусі і Літвы. Падпісаная праграма садзейнічае абмену дэлегацыямі спецыялістаў з мэтай правядзення даследаванняў аб'ектаў нерухомай культурнай спадчыны, працы ў сховішчах музеяў, бібліятэк ды архівах па вывучэнні і зборы неабходнай інфармацыі пра культурную спадчыну абедзвюх краін.

У сваіх выступленнях міністры культуры абмяркоўвалі магчымасць стажыровак выкладчыкаў, студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў, кіна- і тэатральных рэжысёраў у Літве і сумеснай прэзентацыі нашых культур у Бруселі.

Павел Латушка выказаў спадзяванне, што падпісанне Праграмы культурнага супрацоўніцтва з Міністэрствам культуры Літоўскай Рэспублікі з'явіцца дадатковым імпульсам да далейшай актывізацыі і паглыблення беларуска-літоўскага супрацоўніцтва ў сферы культуры, захавання сумеснай гісторыка-культурнай спадчыны і ўключэння сумесных праектаў ў агульнаеўрапейскае культурнае супрацоўніцтва.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: міністры культуры Літвы і Беларусі Рэмігіюс Вілкайціс і Павел Латушка.

Фота аўтара

## Імпрэзы

# Пра паэзію і час

Буду жыць пад сонечным крылом,
Спадзявацца і любіць,
і верыць.
Я прыйшоў да вас
усіх з дабром,
Калі ласка, адчыніце дзверы.

Гэтыя радкі з першага прачытанага верша лаўрэата літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча і прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, ганаровага члена СПБ Алега Салтука адразу настроілі ўсіх прысутных на даверлівую размову — размову пра паэзію, час і сябе. Слова пра госця і яго творчасць сказаў дэкан факультэта беларускай філалогіі і культуры Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П. Машэрава Віктар Несцяровіч.

І загучалі пранікнёныя радкі нашага земляка, у якіх спляліся ў адно радасць і смутак, боль і асалода, смяшынка і слязінка. Адкрытасць і нязмушанасць, уласцівыя творчасці гэтага паэта, захапілі студэнцкую аўдыторыю. Паэт чытаў ужо надрукаваныя вершы і тыя, што яшчэ ў рукапісе.

Размова вялася на роўных. Сам Алег Салтук — былы філфакавец — разважаў з маладымі філолагамі пра роднае слова, іхнюю будучую настаўніцкую прафесію. Прысутным жа тут студэнтам аддзялення журналістыкі газетчык з 40-гадовым стажам, уладальнік прэміі БСЖ "Залатое пяро", параіў быць заўсёды прынцыповымі і праўдзівымі ў кожным напісаным радку.

Было шмат пытанняў і адказаў на іх. Вяла сустрэчу кандыдат філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай літаратуры, паэтэса Вольга Русілка.

Ілона КАВАЛЁВА

## Прэміі

# Уганараваныя за майстэрства

Прэмію "Чалавек года" па выніках 2009 года ўручылі 15 заслужаным жыхарам Магілёўскай вобласці, якія дасягнулі ў сваёй справе вяршынь майстэрства. Прынамсі, сярод узнагароджаных — дырэктар Цэнтральнай сістэмы дзяржаўных публічных бібліятэк горада Магілёва Галіна Краўчанка і кіраўнік гуртка заслужанага аматарскага калектыву тэатра-студыі "Вясёлка" Цэнтра пазашкольнай работы ўпраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама Людміла Смірнова.

Ужо два дзесяцігоддзі працуе з кнігай Галіна Краўчанка, чатыры гады таму яе, як вопытнага спецыяліста, назначылі на пасаду дырэктара. Летась пад кіраўніцтвам Галіны Іванаўны пачалі ажыццяўляцца праекты "Калядныя чытанні", "Літаратурны дэсант", "Гэты горад нас аберагае ...", быў распрацаваны электронны даведнік "Іх подзвіг жывы, непаўторны і вечны", рыхтуецца да выдання краязнаўчая энцыклапедыя для дзяцей пра горад — "Магілёў ад А да Я".

Як паведамілі ў галоўным ўпраўленні ідэалагічнай работы аблвыканкама, у дзейнасці бібліятэк з'явіліся новыя формы: праект"Бібліятэка пад парасонам", перасоўныя кніжныя выстаўкі і віртуальныя — на бібліятэчным сайце і інш. Да ўсяго, бібліятэкі выдаюць уласную друкаваную прадукцыю — серыю метадычных дапаможнікаў, інфармацыйна-бібліяграфічныя выданні, зборнікі сцэнарыяў.

У тэатры-студыі "Вясёлка" займаецца сёння больш як сто дзяцей ад 5 да 17 гадоў. Менавіта Людміла Смірнова стварыла танцавальную групу, якая ў 1984 годзе ўвайшла ў склад гэтага калектыву. "Вясёлка" папулярная і вядомая ў нашай краіне, юныя артысты неаднаразова і паспяхова выступалі ў Германіі, Францыі, Бельгіі. Танцавальная група двойчы атрымоўвала Гран-пры , дзесяць разоў станавілася лаўрэатам і пяць разоў дыпламантам рэспубліканскіх і міжнародных фестываляў, конкурсаў і аглядаў. У 2009 годзе — лаўрэат абласнога конкурсу "Танцавальная карусель", рэспубліканскага фестывалю "Юныя таленты", міжнародных фестываляў "Залатая пчолка" і "Дзіцячыя тэатры з-за мяжы" (Польшча), дыпламант рэспубліканскага конкурсу "Танцавальная карусель".

Да слова, Людміла Міхайлаўна з'яўляецца таксама балетмайстрам адзінага ў нашай краіне дзіцячага цыганскага ансамбля "Тэрнэ-Бэрша", які станавіўся лаўрэатам шматлікіх конкурсаў і фестываляў. У 2002 годзе яму прысвоена званне "ўзорны".

Раіса МАРЧУК

## Літ-абсягі

# Праз лонданскі туман




**У Вялікабрытаніі адбылася прэзентацыя новай кнігі прафесара Лонданскага універсітэта Арнольда Макміліна "Пісанне ў халодным клімаце: беларуская літаратура з 1970-х да нашых дзён" ("Writing in a Cold Climate: Belarusian Literature from the 1970s to the Present Day"). Гэта пятая кніга вядомага англійскага даследчыка пра нашу літаратуру.**

Працу над манаграфіяй Арнольд Макмілін распачаў у 2002 годзе. Па яго асабістым прызнанні, агляд сучаснай беларускай літаратуры даўся яму нашмат цяжэй і заняў больш часу, чым ён разлічваў. Літаратура ад 1970-х да нашых дзён у пераасэнсаванні навукоўца змясцілася на 1136 кніжных старонках — тут знайшлі месца артыкулы, прысвечаныя больш як 200 пісьменнікам (узроставы дыяпазон: ад аўтараў 1935 года нараджэння да 1984-га — ад Рыгора Барадуліна да Валерыі Куставай). Але Арнольд Макмілін не прэтэндуе на вычарпальнасць сваёй выбаркі найбольш значных літаратараў: "У кнізе я згадаў шмат беларускіх аўтараў — добрых і сярэдніх. Але, упэўнены, нямала пісьменнікаў у ёй адсутнічаюць з прычыны майго няведання. Калі б пісаў такую кнігу яшчэ раз (не дай Бог), абавязкова дадаў бы некалькі асоб, пра якіх забыўся. Цяжка пісаць пра сучасную літаратуру, бо сучаснасць не стаіць на месцы".

Беларускія аўтары ў кнізе размеркаваныя па раздзелах: "Пісьменнікі старога пакалення", "Паэты старога пакалення", "Тутэйшыя", "Сучаснікі "Тутэйшых", "Бум-Бам-Літ", "Сучаснікі "Бум-Бам-Літа", "Аўтары гістарычных раманаў", "П'есы", "Правінцыйная літаратура". А творчасць найбольш значных, на думку Арнольда Макміліна, літаратараў — Рыгора Барадуліна, Алеся Разанава, Адама Глобуса, Анатоля Сыса ды іншых — разглядаецца асобна. Усе артыкулы напоўненыя біяграфічнай інфармацыяй, цытатамі і асабістымі ацэнкамі даследчыка.

Цяпер рыхтуецца пераклад кнігі на беларускую мову.

Дарэчы, новая кніга Арнольда Макміліна пакуль застаецца цяжка даступнай для беларускай аўдыторыі з-за яе непад'ёмнага кошту. Аўтар патлумачыў, што выданне прадаецца па-рознаму: "У Англіі і Еўропе — за 75 фунтаў, у ЗША — за 100, у іншых краінах свету — за 150. Спадзяюся, што калі кніга будзе прадавацца ў Беларусі, то каштаваць яна будзе нашмат танней. Але хопіць гаварыць пра грошы!".

Два гады таму ў інтэрв'ю "ЛіМу" Арнольд Макмілін абяцаў, што наступным разам прыедзе ў Беларусь са сваёй новай кнігай. Гэтай вясной даследчык збіраецца ў Мінск на Міжнародны кангрэс беларусістаў і, напэўна ж, прывязе некалькі асобнікаў, каб пачуць меркаванне шматлікіх знаёмых пісьменнікаў, крытыкаў, літаратуразнаўцаў, сустрэчамі з якімі напоўнены кожны яго візіт у Беларусь.

Саша ДОРСКАЯ

## Арт-лінія

# Папера і нажнічкі-чараўнічкі

**Напэўна, кожны з нас хоць аднойчы ў дзяцінстве выразаў з папяровых сурвэтак навагоднія белыя сняжынкі. Але мала хто здагадваецца, што ўжо тады сваімі маленькімі нясмелымі пальчыкамі мы спрабавалі стварыць адно з самых загадкавых цудаў беларускіх народных промыслаў — выцінанку.**



Выстава выцінанкі пад назвай "Нібы казка, нібы цуд", якая праходзіць у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, — гэта не проста няўмелыя дзіцячыя сняжынкі. Гэта цэлы свет невераемных раслін, жывёл, міфічных істот, старажытных палацаў… На экспазіцыі прадстаўлены выцінанкі сяброў Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Наталлі Гамаюнавай і Алены Шалімы. Дастаткова толькі паперы і нажніц, каб праз некаторы час у руках такіх выдатных майстроў з'явілася сапраўднае ажурнае дзіва, быццам бы ірэальнае, зусім бязважкае, эфемернае… Не выпадкова выстава адбываецца менавіта ў музеі Купалы. У беларускага песняра для кожнай выцінанкі знайшліся радкі з вершаў, якія вельмі дакладна характарызуюць вырабы.

Каб стварыць такі шэдэўр, мала валодаць тонкасцямі выцінанкавай тэхнікі, трэба яшчэ мець багатую фантазію, цікавіцца роднай гісторыяй, міфалогіяй і самае галоўнае — любіць тое, што ты робіш, захапляцца сваёй працай. Так, творы Наталлі Гамаюнавай і Алены Шалімы ў поўнай меры даказваюць, што іх від мастацтва нічым не горшы, скажам, за жывапіс ці скульптуру. Гэта такі ж індыкатар унутранага свету майстра, яго пачуццяў і інтарэсаў.

А вось калі звярнуцца да гісторыі выцінанкі, то пачалося ўсё з банальнага недахопу грошай. Проста нашым вясковым бабулям, якія цікавіліся не толькі хатняй жывёлай і гародам (некаторыя так лічаць), але і прагай да гармоніі, хацелася, каб у іх на вокнах быў такі ж шыкоўны цюль, як у панскіх палацах. І што скажаш — такі з'яўляўся — толькі зроблены з паперы і з дапамогай нажніц. Пазней гэты від аздаблення хаты так спадабаўся беларускім жанчынам, што многія з іх нават цэлыя бабіны куты абклейвалі сваімі выцінанкамі.

Дарэчы, ў наш час выцінанка можа стаць яшчэ і добрым бізнесам. Пагадзіцеся, складана знайсці чалавека, які адмовіўся б атрымаць у падарунак замест звычайных магазінных паштовак такую маленечкую чароўную казку!

На жаль, зараз майстэрства выцінанкі такое ж экзатычнае, як і большасць традыцыйных беларускіх промыслаў. Але ад гэтага яна не перастае быць дзівам, няхай і сфакусіраваным у межах адной выставы.

Надзея ПЯКАРСКАЯ

На здымку: стваральніцы выцінанак Наталля Гамаюнава і Алена Шаліма падчас вернісажа.

Фота аўтара

## Повязі

# Узнаўленне стасункаў

**Сярод шматлікіх экспанентаў XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу былі, як вядома, і прадстаўнікі Таджыкістана. Як зазначыў таджыкскі пісьменнік, перакладчык і выдавец Ато Хамдам, яго краіна ўжо трэці раз паспяхова ўдзельнічала ў гэтым прадстаўнічым кніжным форуме, таму да яго выдаўцы падрыхтаваліся належным чынам.**



Ато Хамдам засмучаны, што пасля распаду Савецкага Саюза не было ніякіх літаратурных сувязей паміж нашымі краінамі, і ганарыцца тым, што, так бы мовіць, пасля доўгага маўчання менавіта ён стаў як бы звёнцам, якое лучыць нашы літаратуры.

Шмат што зроблена за апошнія два гады супрацоўніцтва з беларускімі пісьменнікамі. Так, у Таджыкістане выдадзеныя зборнік паэзіі і прозы беларускіх літаратараў пад назвай "Вечерний костёр", прэзентацыя якога ладзілася ў мінскім Доме дружбы, кніга Г. Марчука "Голоса и слова".

Таксама за два гады паспелі выдаць да мінскай выстаўкі-кірмашу чатыры кнігі на таджыкскай мове: зборнікі вершаў Міколы Мятліцкага "Бессмертник" (пераклалі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Таджыкістана Нізом Касім, лаўрэат прэміі імя Турсунзадэ Ато Мірхаджа і Адзіна Мірак) і Юрыя Сапажкова "Точка невозврата" (пераклад Зіё Абдуло). У кнізе "Дружба народов — дружба литератур", што пабачыла свет на рускай і таджыкскай — распавядаецца пра тое, як Таджыкістан удзельнічаў у міжнародных выстаўках, чаго дасягнуў у галіне літаратурных сувязей, пра тое, як узнікла ідэя перакладу твораў беларускіх і таджыкскіх літаратараў.

А яшчэ, усяго за два тыдні да выстаўкі-кірмашу падрыхтавалі і выдалі анталогію "Гостинец", у якой змешчаны творы Мікалая Чаргінца, Аляксея Дударава, Наталлі Пархімовіч, Георгія Марчука і інш. Калі раней — гады два-тры таму — у Таджыкістане сярэдні наклад выданняў складаў 400 — 500 экземпляраў, то цяпер пачалі ўжо выдаваць кнігі па 2 — 3 тысячы асобнікаў.

— Такім чынам, сяброўскія стасункі паміж нашымі краінамі наладжаны, сталі трывалымі. У Таджыкістане людзі ўжо ведаюць не толькі творы і імёны беларускіх класікаў, але і сучасных празаікаў, паэтаў і драматургаў, — запэўнівае Ато Хамдам. — А надалей наша супрацоўніцтва будзе толькі мацнець і пашырацца, нягледзячы на адлегласць і фінансавыя цяжкасці, бо мы адносімся з павагай адно да аднаго.

Дарэчы, у таджыкскіх чытачоў найбольшым попытам карыстаюцца гістарычныя раманы і дэтэктывы. І, мабыць, як і ў іншых краінах свету, вельмі запатрабаваныя казкі і дзіцячая літаратура.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: Ато Хамдам.

Фота аўтара

## З-пад пяра

У мерапрыемстве, прысвечаным Міжнароднаму дню роднай мовы, у Літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Сярод выступоўцаў былі літаратары Навум Гальпяровіч, Алена Масла, Рагнед Малахоўскі, а таксама сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч. Н. Гальпяровіч падкрэсліў, наколькі важна сёння кожнаму карыстацца роднай мовай, бо гаварыльняй пра яе цяжкі стан праблему не вырашыць. Цікава было пачуць аповед маладога, але ўжо вядомага паэта Р. Малахоўскага пра тое, як яго сям'я берагла матчына слова, жывучы за межамі Беларусі. На сучасным этапе, сказаў Рагнед, беларуская мова стала прэстыжнай — і не толькі сярод інтэлектуалаў, але і ў асяродку моладзі. Асаблівую ўвагу выклікала ў аўдыторыі выступленне сына Якуба Коласа. Міхась Канстанцінавіч распавёў пра дзейнасць свайго славутага бацькі па падтрымцы роднай мовы. Гучалі і вершы — найперш пра мову і радзіму.

Анатоль ТРАФІМЧЫК

Жанчынамі года Гродзенскай вобласці па выніках абласнога конкурсу прызнаны 18 прадстаўніц розных прафесій. Як паведамілі ў галоўным упраўленні ідэалагічнай работы аблвыканкама, сем з іх перамаглі ў намінацыі "За ўклад у духоўна-маральнае адраджэнне". Гэта настаўніца гісторыі Дзятлаўскай гімназіі № 1 Жана Навагонская, загадчыца аддзела радыёвяшчання смаргонскай газеты "Светлы шлях" Галіна Козел, бібліятэкар Спондаўскай бібліятэкі (Астравецкі раён) Іяланта Равойць, захавальніца гісторыка-краязнаўчага музея СВК "Свіслач" (Гродзенскі раён) Зінаіда Шыдлоўская, настаўніца музыкі Ашмянскай агульнаадуацыйнай школы-інтэрната Вольга Емяльянава, выкладчыца Лідскай школы мастацтваў Тэрэса Кедык і кіраўнік гуртка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Слонімскага раённага цэнтра рамёстваў Таццяна Буланава.

Бажэна СТРОК

Тры гады таму намаганнямі сяброў мастака Анатоля Каплана яго карціны былі перададзены з Дрэздэна ў Нацыянальны мастацкі музей Беларусі. Сярод гэтых работ ёсць серыя афортаў "Успаміны пра Рагачоў". У іх паказаны быт горада, яго адметныя мясціны, адчуваюцца лірычны настрой, глыбокія перажыванні мастака. Анатоль Каплан — ураджэнец Рагачова. Ён рабіў літаграфіі паводле твораў Шолам Алейхема, ствараў карціны на іншыя тэмы і сюжэты. Альбом з аўтографам мастака захоўваецца ў мясцовым музеі народнай славы. Нядаўна дырэктар НММ Беларусі Уладзімір Пракапцоў перадаў свайму калегу з рагачоўскага музея Андрэю Чарняўскаму адну з работ Анатоля Каплана і выказаў спадзяванне, што Рагачоў зойме належнае месца сярод гарадоў — цэнтраў мастацкай культуры.

Міхась КАВАЛЁЎ

Новыя калекцыі старых дакументаў і рэчаў стварае Лунінецкі раённы краязнаўчы музей. Цяпер у асноўным фондзе налічваецца больш як 9700 экспанатаў, з іх 1200 паступілі летась. Усе яны ўведзены ў электронную базу дадзеных. Для папаўнення фондавых калекцый прыярытэтнымі выбраны тэмы "Дакументальныя матэрыялы XIX — XX стагоддзяў", "Асабістыя архівы". Распрацоўваецца тут і новая паслуга. Ідэю яе падказаў адзін з індывідуальных прадпрымальнікаў. У час здымкаў жаніха і нявесты на цэнтральнай плошчы Лунінца нечакана пайшоў дождж. Ад непагадзі схаваліся ў будынку музея. Аператар прапанаваў працягнуць творчы працэс на фоне экспазіцыі. Фота аказаліся незвычайнымі і прывабнымі. Цяпер музей стварае праграму для абслугоўвання шлюбных урачыстасцей.

Таццяна КАНАПАЦКАЯ



# Пра беларускую блажэнную — кожнаму

На фоне таго, які шырокі рэзананс мела і як высока было адзначана (прэмія "За духоўнае адраджэнне") факсімільнае выданне беларускага рарытэта Слуцкае Евангелле, ажыццёўленае Выдавецтвам Беларускага Экзархата, выпуск кнігі "Святая блажэнная Валянціна Мінская" прайшоў, можна сказаць, незаўважана. Як бачым, гэта і апраўдана, бо згаданая кніга працягвае серыю аналагічных выданняў, што ўяўляюць сабой літаратурную апрацоўку жыцій святых і ў першую чаргу адрасуюцца дзецям. Тым не менш, усё ж ёсць падставы гаварыць аб тым, што гэта не проста чарговы зборнік бібліятэчкі, якая набыла папулярнасць, няхай і, як папярэднія, прыгожа аформлены, з прыцягненнем багатага ілюстрацыйнага матэрыялу, а першы выпуск, так сказаць, духоўнай серыі, у якім расказваецца не проста пра святую, а пра святую беларускую.

— Святая блажэнная Валянціна Мінская — распавядае дырэктар Выдавецтва Беларускага Экзархата Уладзімір Грозаў, — па сутнасці наша сучасніца: нарадзілася 7 красавіка (па старым стылі) 1888 года ў невялікай вёсцы Коскі – гэта непадалёку, у вярстах сямі ад Станькава (цяперашні Дзяржынскі раён), у сям'і святара Чарняўскага. Валянціна Чарняўская была чалавекам вельмі сціплым, а таму і замоўчвала той факт, што ў жылах блажэннай цякла кроў князёў Свірскіх. Яна шмат клапацілася пра іншых, тых, каму, неабходна была дапамога. Канацізавана яна была 6 лютага 2006 года — праз сорак гадоў пасля таго, як спачыла. У блажэннай Валянціны — цяжкі, складаны лёс. Пасля таго, як у трыццатыя гады мінулага стагоддзя арыштавалі, а потым расстралялі яе мужа, пазакрывалі цэрквы – застаўся толькі адзін дзеючы храм у Бабруйску, у Валянціны Чарняўскай, якая з маленства з'яўлялася шчырай верніцай, гора адняло ногі. Амаль сорак гадоў праляжаўшы ў ложку, Валянціна малілася за краіну і людзей. Празорліва прадказвала чалавеку лёс, лячыла ад, здавалася б, невылечных хвароб. Дый сёння людзі штодня ідуць на магілу блажэннай у дамок, дзе яна жыла — ён захаваўся. Многія вылечваюцца, пазбаўляюцца ад жыццёвых нягод.

— Хто ж аўтар гэтай кнігі?

— Пісьменніца Тацяна Дашкевіч, якая разам са святаром Фёдарам Крываносам склала жыціе блажэннай Валянціны. Будзем спадзявацца, з цягам часу з'явіцца больш грунтоўная кніга пра яе, у якой знойдзецца і месца малітвам і духоўным песнапенням святой — захаваліся некалькі сшыткаў, у якіх блажэнная Валянціна вяла запісы. Ёсць сведчанні людзей, хто ў розны час атрымліваў ад яе дапамогу. Зберагліся паяскі, тасёмкі, зробленыя ёю рукамі, іконкі, што пастаянна знаходзіліся пры ёй. Дый шмат якія іншыя матэрыялы, якія гаворыць на карысць таго, што ў сваёй выдавецкай дзейнасці мы яшчэ звернемся да асобы блажэннай Валянціны Мінскай. Неўзабаве выйдзе яшчэ некалькі кніг са згаданай серыі, адрасаваных дзецям; пра беларускую святую Юльяну Гальшанскую, пра святую Сафію Слуцкую.

— Такім чынам, серыя знойдзе свой працяг?

— Так. На падыходзе кніга пра святых страстацерпцаў імператара Мікалая ІІ і ягоную сям'ю. Два выданні раскажуць пра пецярбургскіх святых – Іаана Кранштадскага і Ксенію Пецярбургскую. Добры тэкставы і ілюстрацыйны матэрыял сабраны пра святую блажэнную Матрону Маскоўскую. Паколькі гэтая серыя карыстаецца асаблівым попытам, у ёй не толькі выпускаем новыя кнігі, але і перавыдаём тыя, якія выйшлі раней. Як, скажам, пра Сергія Раданежскага, святога князя Уладзіміра — хрысціцеля Русі, пра Аляксандра Неўскага. Магчыма, у перспектыве з'явіцца аднатомнік, а то і двухтомнік, у якім аповеды пра святых будуць сабраны разам. Кнігі гэтыя, без сумнення, знойдуць свайго чытача і не толькі сярод вернікаў. З выдавецтвам актыўна супрацоўнічае аўтар Сергій Багіян, ужо вядомы кнігамі "Праваслаўныя святыні свету" і "Праваслаўныя святыні Расіі" — фундаментальныя даведнікі. Гэткім жа дапаможнікам для ўсіх, хто хоча лепш спазнаць Беларусь праваслаўную, стане і новая, трэцяя кніга Багіяна. Як і папярэднія, яна выйдзе ў палепшаным паліграфічным выкананні, багата ілюстраваная. Кожны раздзел выдання будзе прысвечаны адной з епархій, якіх, як вядома, на Беларусі адзінаццаць, а ў раздзелах пойдзе гаворка пра святыя месцы ў кожнай з іх, пра храмы і манастыры, што знаходзяцца там. І многія святыні добра вядомы нават за межамі нашай краіны, як, да прыкладу, Свята-Еўфрасіньеўскі манастыр, Свята-Багаяўленскі кафедральны сабор у Полацку, ці святая абіцель у Жыровічах. Дарэчы, у пачатку кожнага раздзела будзе змешчаны артыкул, што раскажа пра гісторыю хрысціянства на тэрыторыі пэўнай епархіі. Выданне будзе карысным і цікавым не толькі для вернікаў, а і для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй, культурай Беларусі.

— А што яшчэ ёсць, калі можна так сказаць, у партфелі Выдавецтва Беларускага Экзархата?

— Такога партфеля, — засмяяўся Уладзімір Усеваладавіч, — пры ўсім жаданні не знойдзеш. Мяркуйце самі: за год выйдзе прыкладна 170 назваў самай рознай літаратуры агульным тыражом звыш 2 млн. 100 тысяч асобнікаў. І гэта рэальныя планы, бо толькі за студзень пабачыла свет каля 30 найменняў. Самае галоўнае — гэта выпуск факсімільнага выдання Полацкага Евангелля, напісанага ў XII стагоддзі; у пяці кнігах рыхтуецца да выхаду "Закон Божы". Пры падрыхтоўцы яго да друку складальнікі, абмежаваныя аб'ёмам выдання, імкнуліся перадаць дзецям не проста веды па Законе Божым, але і, наколькі гэта магчыма для дзіцячага ўспрымання, поўны і цэласны праваслаўны светапогляд. Ажыццяўляем таксама выпуск духоўна-філасофскай серыі, у якую ўвойдуць кнігі знакамітых філасофаў праваслаўнай веры. Не толькі тых, хто ўжо адышоў ад нас, але і тых, хто жыве па сённяшні дзень. Гэта своеасаблівы духоўна-філасофскі алфавіт, паколькі назва кожнага тома пачынаецца на пэўную літару. Выйдзе 29 кніг. Хутка пабачыць свет зборнік рэлігійна-павучальных твораў, артыкулаў, пісем Мікалая Гогаля «Нужно любить Россию». Нарысы вучэнняў Праваслаўнай царквы аб'яднаны ў кнізе Сяргея Булгакава "Православие". Выйдуць кнігі Мікалая Гаўрушына «Этюды о разумной вере», Канстанціна Лявонцьева «Храм и Церковь», Льва Ціхамірава «Личность, общество, Церковь», Івана Аксакава «О державности и вере»… Не абыходзім мы ўвагай і 65-годдзе Вялікай Перамогі. Прынамсі, выходзіць аповесць-казка Ільі Турычына "Крайні выпадак". Будзе і кніга да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы. Акрамя таго, з году ў год мы перавыдаём творы класічнай літаратуры, якія запатрабаваны не адным пакаленнем чытачоў.

Гутарыў
Юрась ДЗЕМ'ЯНОВІЧ

# Спадчыннікі бібліятэкі Святой Сафіі

Ужо ў XI стагоддзі пры Сафійскім саборы ў Полацку функцыянавала бібліятэка. Сёння ў гэтым старажытным горадзе працуе сетка з дзесяці бібліятэк, самая старэйшыя з якіх — цэнтральная бібліятэка г. Полацка — у мінулым годзе адсвяткавала свой дзевяностагадовы юбілей, а самая маладая — спецыялізаваная бібліятэка для людзей са слабым зрокам — пачала сваю дзейнасць у 2009 годзе.

Бібліятэка ёсць у кожным мікрараёне горада, і чытачу не трэба ехаць у цэнтр, каб атрымаць патрэбную яму кнігу. Мажа, таму і колькасць аматараў чытання ўражвае: іх у Полацку каля 30 тысяч (што складае звыш 35 працэнтаў ад усяго насельніцтва горада).

Па словах дырэктара Полацкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Тацяны Савельевай, бібліятэкі добра забяспечаны літаратурай на беларускай мове. (50 тысяч асобнікаў). Кніжныя фонды ўвесь час папаўняюцца новымі творамі беларускіх мастакоў слова. Найбольш запатрабаванымі з'яўляюцца творы сучасных пісьменнікаў і кнігі, што ўваходзяць у школьную праграму па літаратуры. Зрэшты, беларуская літаратура на рускай мове папулярнасцю не карыстаецца, гэтак жа як і творы сусветнай літаратуры па-беларуску. Маюць свайго чытача і беларускія перыядычныя выданні — часопісы "Маладосць", "Полымя", "Нёман", штотыднёвік "Літаратура і мастацтва".

Праца з чытачамі і кніжнымі фондамі — не адзіны абавязак бібліятэкараў Полацкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы. У 2009 годзе яны адны з першых у рэспубліцы стварылі рэгіянальную сістэму выкарыстання інфармацыйных тэхналогій у бібліятэчным абслугоўванні насельніцтва, рэалізавалі шэраг асветніцкіх і краязнаўчых праграм, праводзілі актыўную дабрачынную працу з інвалідамі і дзецьмі, што засталіся без апекі бацькоў. За рэалізацыю гэтых праграм калектыву была прысуджана спецыяльная прэмія Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва за 2009 год.

Праца па інфарматызацыі і камп'ютэрызацыі бібліятэк працягваецца і ў бягучым годзе — пашыраецца прастора інфармацыйнага ўзаемадзеяння са школамі і прадпрыемствамі горада. Цяперашнім часам калектывам бібліятэчнай сістэмы распрацоўваюцца спісы літаратуры па эканоміцы, якімі маглі б карыстацца попытам на буйных прадпрыемствах горада. Працягваецца і фарміраванне паўнатэкставай электроннай базы "Полаччына", у якой будзе прадстаўлены матэрыял па гісторыі і сучаснасці Полацкай зямлі.

Калектыў бібліятэчнай сістэмы працягвае рэалізоўваць і праграму працы з сацыяльна неабароненымі. У мінулым годзе яна заключалася ў правядзенні сустрэч, вечарын для людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі. У гэтым годзе сутнасць праграмы змянілася: калектыў бібліятэкі накіруе сваю дзейнасць на індывідуальную працу з людзьмі сталага веку, а таксама з тымі, хто не можа самастойна прыйсці ў бібліятэку. Будзе наладжана супрацоўніцтва з іншымі ўстановамі, чыя дзейнасць накіравана на сацыяльную абарону і рэабілітацыю насельніцтва.

Членамі калектыву Полацкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы актыўна ажыццяўляецца і краязнаўчая праграма. Мерапрыемствы, што ў яе ўваходзяць, праводзяцца на аснове індывідуальных творчых планаў і праграм бібліятэкараў. Гэта, з аднаго боку, дае магчымасць рэалізацыі патэнцыялу кожнага работніка, з іншага — пашырае сферу дзейнасці бібліятэкі. На сённяшні дзень двума супрацоўнікамі бібліятэк, размешчаных у новых мікрараёнах Полацка, праводзіцца конкурс, мэта якога — краязнаўчае выхаванне школьнікаў. Яго сутнасць заключаецца ў напісанні сачыненняў на тэмы "Мой горад — Радзімы часціна", "Полацк літаратурны". Правядзенне такога конкурсу дапамагае вучням развіваць творчыя здольнасці, а таксама спрыяе фарміраванню зацікаўленасці гістарычным мінулым і сучаснасцю Полаччыны, лёсамі землякоў-літаратараў.

Бібліятэкі Полацка актыўна супрацоўнічаюць з іншымі гісторыка-культурнымі ўстановамі горада, а менавіта з музеем-бібліятэкай Сімяона Полацкага, які ўваходзіць у Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік. Імі ладзяцца сумесныя вечарыны, сустрэчы, а пры фарміраванні сучасных фондаў бібліятэк некалькі старых каштоўных кніг з цэнтральнай бібліятэкі было перададзена музею-бібліятэцы Сімяона Полацкага.

Зараз калектыву Полацкай гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы рыхтуецца да правядзення тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі, які распачнецца ў бібліятэках горада 25 сакавіка. Полацк названы культурнай сталіцай Беларусі 2010 года, гэта дасць падставу большай колькасці беларускіх пісьменнікаў завітаць у Полацк, і іх сустрэчы з чытачамі адбудуцца і ў гарадскіх бібліятэках.

У XI стагоддзі бібліятэка Сафійскага сабора адыгрывала асаблівую ролю ў духоўным і культурным развіцці Полацка. Няма сумнення, што і ў 2010 годзе дзейнасць бібліятэк культурнай сталіцы Беларусі стане адным з асноўных чыннікаў духоўнага развіцця жыхароў горада. Гэта важна і для полацкага чытача, і для сучасных бібліятэк: для таго, каб яны сапраўды маглі лічыцца спадчыннікамі бібліятэкі Святой Сафіі.

Марына ВЕСЯЛУХА

## Кніжная паліца



Выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла ў свет кнігу п'ес-казак Сяргея КАВАЛЁВА "Шлях да Бэтлеему". Гэта творы вельмі разнастайныя паводле жанру (міфалагічныя, чарадзейныя, авантурныя, філасофскія), прызначаныя як для чытання, так і для школьных тэатраў.



У выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў зборнік літаратурна-публіцыстычных артыкулаў пра Максіма БАГДАНОВІЧА "Я хацеў бы спаткацца з Вамі…" Артыкулы падрыхтаваны супрацоўнікамі Літаратурнага музея М. Багдановіча і вядомымі даследчыкамі літаратуры. Выданне дапоўненае выбранымі вершамі М. Багдановіча, ілюстравана фотаздымкамі з фонду музея. Укладанне Тацяны Шэляговіч.



У выдавецтве "Кнігазбор" пабачыла свет кніга прозы Сяргея ШАМІЁНКА "Лішандскі кур'ер". У кнігу ўключаны аднайменная фантастычная аповесць, дэтэктыўны аповед і прыгодніцкія апавяданні.



Выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла кнігу дакументальных нарысаў Славаміра АНТАНОВІЧА "Ушедшие в бессмертие". Кніга напісана на аснове унікальных архіўных дакументаў КДБ, на якія да гэтай пары стаіць грыф "совершенно секретно". Гэта аповед пра рэпрэсіі ў Беларусі ў складаны перыяд жыцця савецкай дзяржавы, звязаныя з імем Сталіна.



У выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла кніга Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА "Лебядзіны скіт" (казкі). Укладальнік А. Масла. Мастак М. Купава. Дзеці з цікавасцю прачытаюць творы "Жабкі і чарапаха", "Верабей, сава і птушыны суд", "Вясна ўвосень", "Касцёл з каменьчыкамі", "Вужыная каралева". Дарослы чытач таксама адкрые для сябе новага Уладзіміра Караткевіча — геніяльнага пісьменніка-казачніка.



У выдавецтве "Кнігазбор" выйшаў у свет чарговы (трэці) выпуск літаратурнага альманаха навучэнцаў ліцэя БДУ "Nota Bene" (з лацінскай: "зàўваж добра"). У зборніку больш за дваццаць аўтараў які пішуць у розных літаратурных жанрах.



У выдавецтве "Современная школа" выйшла кніга казак Георгія МАРЧУКА "Нестерка" на рускай мове. Гэта прыгоды Несцеркі — героя казак, якімі зачытваліся некалькі пакаленняў дзяцей. Тут — народны фальклор, дзе дабро перамагае зло, а бескарыслівасць і смеласць герою выпадае самая нечаканая ўзнагарода.



Сёння ў кнігарнях і на кніжных развалах можна знайсці шмат выданняў на самыя розныя тэмы, на вокладках якіх выдрукавана красамоўнае слова — "энцыклапедыя". Але нярэдка змест такой кнігі ды яшчэ пад такім акадэмічна-аўтарытэтнымназовам, шчыра кажучы, не зусім адэкватны. Бо на самай справе энцыклапедыя — гэта карпатлівая, велізарная навуковая праца, на артыкулы якой можна заўсёды спасылацца з упэўненасцю. Такой думкі прытрымліваецца дырэктар выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" Таццяна Бялова.

# Здабыткі і перспектывы

Пасля такой прамовы Таццяна Уладзіміраўна і яе супрацоўнікі распавялі карэспандэнту "ЛіМа" пра адметныя серыі і выданні, якія пабачылі свет у мінулым годзе, і падзяліліся планамі выдавецтва на бліжэйшы час.

Так, Ларыса Языковіч, загадчык рэдакцыі навуковага і літаратурнага кантролю, акрэсліла кнігі, якія сталі важкай старонкай у гісторыі айчыннай кнігавыдавецкай справы. Па-першае, "Беларусь — Масква: Энцыклапедыя Перамогі" — сумесны праект выдавецтва, Міністэрства інфармацыі нашай краіны і ўрада горада Масквы, прысвечаны 65-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Была праведзена вялікая работа: збіралі звесткі па ўсёй тэрыторыі былога Савецкага Саюза. У кнізе знітаваны ўспаміны ветэранаў, як масквічы ўдзельнічалі ў вызваленні Беларусі, а беларусы, у сваю чаргу, ў абароне Масквы. Акрамя таго, выданне змяшчае шмат карт, ілюстрацыйнага матэрыялу як сучаснага, так архіўнага. Таксама тут ёсць падрабязная інфармацыя пра беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі — Героях Савецкага Саюза і поўных кавалераў ордэна Славы. Адным словам, па гэтым выданні можна вывучаць гісторыю Вялікай Айчыннай вайны.

Пры канцы года выйшаў першы том энцыклапедыі "Гісторыя беларускай кнігі", а сёлета плануецца выданне другога. Пабачыў свет першы том "Археалогіі Беларусі". Бо за апошнія 10 — 15 гадоў шмат што змянілася, распрацаваны новыя канцэпцыі, знойдзены новыя помнікі. Зараз ідзе праца над другім томам.

Наша краіна набыла суверэнітэт, мае свае Узброеныя Сілы, ваенныя навучальныя ўстановы і сваю ваенную дактрыну. Акрамя таго, мы маем багатую ваенную гісторыю, якую можам весці са старажытных часоў. Таму рыхтуецца да друку цікавае выданне, якога ў нашай краіне яшчэ не было, — "Ваенная энцыклапедыя Беларусі". У працяг тэмы плануецца выданне, прысвечанае Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь, і, так бы мовіць, стварэнню беларускай ваеннай школы, яе канцэпцыі.

Загадчык рэдакцыі літаратуры і мастацтва Ганна Малей зрабіла акцэнт на тым, што хутка пабачыць свет, а дакладней у гэтым месяцы, першы з шасці тамоў энцыклапедыі "Культура Беларусі". У 1984 — 1986 гадах выйшла пяцітомнае выданне "Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі". Але тая тэматыка, зразумела, у некаторай ступені застарэла, і ўзнікла думка, стварыць такую энцыклапедыю, каб яна змяшчала не толькі розныя літаратурныя ды мастацтвазнаўчыя тэрміны і кірункі, але каб там знайшлі адлюстраванне артыкулы, прысвечаныя як культуры беларускага народа, так і культуры іншых народаў і дыяспар, якія пражываюць на тэрыторыі нашай краіны. У нас вялікая колькасць аб'яднанняў і дыяспар, якія займаюцца вялікай культурнай дзейнасцю, арганізоўваюць суполкі, школы, праводзяць мерапрыемствы. У першым томе змешчаны матэрыялы па літаратуры, мастацтве, культуралогіі, этналогіі, музыцы, архітэктуры, а таксама артыкулы, прысвечаныя армянам і азербайджанцам, у якіх апісваецца не толькі тое, што гэта за народы і дзе яны пражываюць, але і як уплывае іх культура на нашу, і адначасова — наша на іхнюю. Таму выданне "Культура Беларусі" з'яўляецца першым на тэрыторыі нашай краіны, якое выдаецца ў такім фармаце. Мэта яго — паказаць разнастайнасць і багацце культуры Беларусі, яе ўнёсак у сусветную скарбніцу.



У планах выдавецтва пазначана яшчэ адно выданне — да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча, якое ўлучыць артыкулы пра творчасць паэта і эстэтычныя погляды, лірыку, пераклады, крытыку, публіцыстыку, сувязь творцы з народнай паэзіяй і іншымі літаратурамі, увасабленне яго тэматыкі ў выяўленчым мастацтве, у музыцы, тэатры, кіно.

Таццяна Жукоўская, загадчык рэдакцыі прыродазнаўчых і дакладных навук, зазначыла, што выйшаў у свет першы том адметнага 12-томнага выдання "Энцыклапедыя для школьнікаў і студэнтаў. Інфармацыйнае грамадства. XXI стагоддзе". Такі праект у нашай краіне таксама ажыццяўляецца ўпершыню. Каб не расцягваць выданне на доўгі тэрмін, на гэты год запланавана выпусціць яшчэ два тамы. Другі носіць назву "Фізіка. Матэматыка" і выйдзе ў жніўні, да новага навучальнага года. У кнізе тлумачацца ўсе сучасныя паняцці фізікі, матэматыкі, і ўсё гэта паказана ва ўзаемасувязі з іншымі галінамі прыродазнаўства. Энцыклапедыя мае два раздзелы: эксперыментальная і тэарэтычная фізіка, дзе акадэмічны матэрыял адаптаваны для старшакласнікаў і студэнтаў першых курсаў, у другім даходлівай мовай тлумачацца асноўныя паняцці матэматыкі. Таксама тут коратка адлюструецца гісторыя гэтых дакладных навук у Беларусі. Трэці том — "Зямля. Сусвет" — выйдзе пры канцы года. Гэта тэма цікавая не толькі для школьнікаў і студэнтаў, але і для дарослых, да таго ж, выданне будзе багата ілюстравана.

Як зазначыла Таццяна Бялова, кожны год будзе выдавацца па некалькі тамоў "Энцыклапедыі для школьнікаў і студэнтаў". Але калегіяльна было вырашана, што ў пачатку 2011 года выйдзе апошні, дванаццаты том, каб пазначыць межы праекта. Ён будзе насіць назву "Моладзь Беларусі" і змяшчаць прававую інфармацыю, законы ў інтарэсах моладзі, матэрыялы пра адукацыю, моладзевую палітыку нашай краіны…

Таццяна Уладзіміраўна падкрэсліла, што мы жывём у XXI стагоддзі, таму распачынаецца этап распрацоўкі электроннай энцыклапедыі з пастаянна ўзнаўляемай базай. Першы такі крок мяркуецца зрабіць з Мінскім гарвыканкамам. Бо даўно надышоў час, каб на сучасным узроўні з'явілася энцыклапедыя нашай сталіцы. Другі этап — зрабіць тое ж ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

Нядаўна распачалася вялікая адметная акцыя, арганізаваная сумесна з Міністэрствам інфармацыі нашай краіны, — энцыклапедычная экспедыцыя па Беларусі. Падчас яе адбудуцца сустрэчы з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны і Героямі Савецкага Саюза. Усе яны атрымаюць экземпляры кнігі "Беларусь — Масква: Энцыклапедыя Перамогі" ў падарунак. А завершыцца яна напярэдадні Дня перамогі ў Доме Масквы ў Мінску.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымках: разгорнутыя старонкі энцыклапедыі "Гісторыя беларускай кнігі"; супрацоўнікі выдавецтва Ганна Малей, Ларыса Языковіч і Таццяна Жукоўская.

Фота аўтара

## Моладзь ідзе

# Прысвячэнні роднаму краю

Мінскі абласны камітэт БРСМ пры падтрымцы аддзела па справах моладзі Мінскага аблвыканкама і Інстытута журналістыкі БДУ арганізаваў конкурс творчых работ маладых журналістаў "Родная зямлі прысвячаецца…". Гэты конкурс праводзіцца на Міншчыне ўжо пяты год і паспеў набыць папулярнасць сярод творчай моладзі.

Удзельнікам было прапанавана некалькі тэматычных намінацый: "Усё гэта — мая родная зямля!", "З фотаапаратам па родным краі", "Мой зямляк будуе планы", "Лепшая радыёперадача", "Час мужнасці". У "журналісцкіх спаборніцтвах" узялі ўдзел не толькі юныя карэспандэнты, але і творчая моладзь ва ўзросце да 31 года, якая не мае спецыяльнай адукацыі, а таксама маладыя журналісты — супрацоўнікі рэгіянальных газет.

Варта адзначыць высокую цікавасць моладзі да конкурсу, бо на суд журы свае работы прадставілі сто пяцьдзесят удзельнікаў. Трыццаць сем з іх вылучылі на абласны этап. Лепшыя матэрыялы вызначала кампетэнтнае прафесійнае журы, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі рэспубліканскіх і абласных маладзёжных сродкаў масавай інфармацыі і Інстытута журналістыкі БДУ.

Нядаўна Мінскі абласны камітэт БРСМ наладзіў творчую сустрэчу, на якой былі падведзены вынікі конкурсу. Былі арганізаваны майстар-класы. Адзін правяла спецыяльны карэспандэнт газеты "Пераходный возраст" Наталля Ярмошанка, а другі — спецыяльны карэспандэнт Белтэлерадыёкампаніі Таццяна Шахавец. Пачаткоўцы пачулі ад прафесіяналаў карысныя парады і падказкі, якія спатрэбяцца ў іх будучай працы, а таксама змаглі задаць свае пытанні. Падчас дыялога абмяркоўвалі пытанні развіцця аб'яднанняў юных карэспандэнтаў, дзяліліся вопытам і новымі планамі маладзёжных выданняў. Вядучыя майстар-класаў расказвалі пра сваю цікавую работу і акцэнтавалі ўвагу сваіх будучых калег на тым, што прафесія журналіста па праве лічыцца адной з самых цікавых. Але журналістамі не нараджаюцца, імі становяцца. І першая прыступка на гэтым доўгім, але цікавым шляху — аб'яднанні юных карэспандэнтаў і творчыя конкурсы для моладзі.

Самая ўрачыстая і прыемная частка — узнагароджанне пераможцаў. Усе госці, запрошаныя на сустрэчу, атрымалі граматы ўдзельнікаў конкурсу, а пераможцам, якіх было трынаццаць, былі ўручаны дыпломы і падарункі, якія, трэба адзначыць, вылучаліся сваёй крэатыўнасцю. Дыпламанты атрымалі магчымасць правесці выхадны дзень у горналыжным комплексе "Лагойскі", наведаць канцэрт і тэатр-студыю, бясплатна размясціць на плазменных экранах Мінскага метро віншаванні для сваіх блізкіх, зрабіць мастацкія фотаздымкі на прафесійнай фотасесіі і інш.

Яшчэ адным агульным падарункам для ўсіх удзельнікаў творчай сустрэчы стала экскурсійнае наведванне тэлеканала АНТ, дзе маладыя журналісты пазнаёміліся з карэспандэнтамі і вядучымі навін.

Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ



На здымку: першы сакратар Мінскай абласной арганізацыі БРСМ Руслан Трухан узнагароджвае вучня Ждановіцкай СШ Рамана Малькевіча.

Фота аўтара

# Шматграннасць захапленняў

У вядомай галерэі Тызенгаўза адкрылася выстаўка карцін студэнта другога курса Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы Канстанціна Плотнікава. Выкладчыкі, аднакурснікі і шматлікія госці выказалі непадробнае здзіўленне: як у галаве васемнаццацігадовага юнака маглі скласціся такія незвычайныя вобразы, адкуль ён чэрпае тэмы для сваіх палотнаў?

Адказы на ўсе пытанні даў сам аўтар. І, дарэчы, не толькі вусна. Менавіта да адкрыцця сваёй персанальнай выстаўкі Канстанцін выдаў аповесць "Скрозь час і прастору", у якую ўключыў ілюстрацыі са сваіх карцін. Прэзентацыя кнігі адбылася падчас адкрыцця выстаўкі. Гэты першы літаратурны твор аўтара заклікае нас у фантастычны свет нязведанага і неспазнанага касмізму — асноўнага кірунку мастака, дзеі ў якім адбываюцца на мяжы ўяўнасці і явы, на ўзроўні падсвядомасці. Зразумела, што гэта яшчэ не тая дасканаласць, да якой павінен імкнуцца кожны творца, але ў аповесці дакладна прасочваецца валоданне словам і ўменне канкрэтна і перакаанаўча выказаць гэтым словам сваю думку.

Кніга пачынаецца з апісання прыроды і таго адпаведнага стану душы чалавека, калі яна пераходзіць праз незаўважныя нябесныя дзверы і паглыбляецца ў стан непасрэднай творчасці.

Наведаўшы выстаўку, прачытаўшы аповесць, я ўзрадавалася за гэтага маладога чалавека, які рыхтуецца стаць прафесійным мастаком, справе сябе ў літаратуры і музыцы. Ёсць людзі, якія ў цэмры бачаць адно цэмру. Канстанцін Плотнікаў бачыць у ёй цёмнае радно для новай карціны, абсыпанае бліскучымі зоркамі.

Людміла КЕБІЧ

№ 10 12 сакавіка 2010 г. Ліm




Кніга Уладзіміра Чароты "Дантэ Аліг'еры і беларуская літаратура XX стагоддзя" (2009) мае несумненную актуальнасць і навуковую значнасць. У ёй на высокім прафесійным узроўні і ўпершыню ў беларускім літаратуразнаўстве праведзены комплексны аналіз узаемадзеяння творчасці Дантэ Аліг'еры і беларускай літаратуры XX стагоддзя.

# Дасведчана і грунтоўна

Апраўданай з'яўляецца структура кнігі. Змест "Прадмовы", трох раздзелаў, дадатку, у якім пададзены мастацкія творы італьянскіх пісьменнікаў пра Дантэ, "Заключэння" і спісу выкарыстанай літаратуры сведчыць пра шматграннасць і паўнату ахопу даследуемай праблемы.

У першым раздзеле "Дантэ Аліг'еры ў беларускім нацыянальным кантэксце (агульны погляд)" У. Чарота ўдумліва прасачыў, як, пачынаючы з XVI стагоддзя, складвалася, развівалася і чым прадвызначалася знаёмства жыхароў беларускіх земляў з творчасцю італьянскага пісьменніка. Аўтар паказаў, што італьянска-беларускія культурныя сувязі складаліся здаўна — дзякуючы ўраджэнцам Беларусі, якія навучаліся ці працавалі ў Італіі альбо падарожнічалі па ёй, і прадстаўнікам італьянскіх земляў, якія траплялі ў Беларусь па аналагічных прычынах. Даследчык засяродзіў увагу таксама на ўспрыманні спадчыны Дантэ праз арыгіналы і іншамоўныя пераклады, асабліва праз польскамоўныя і рускамоўныя.

Шэраг цікавых назіранняў і высноў зроблены ў другім раздзеле "Беларуская рэцэпцыя Дантэ ў XX стагоддзі". Перш чым прыступіць да факталогіі, У. Чарота вызначыўся з разуменнем у літаратуразнаўстве такіх асноўных тэарэтычных палажэнняў, як кантактныя, генетычныя і тыпалагічныя літаратурныя сувязі, з формамі рэцэпцыі, з тэрмінамі "алюзія", "рэмінісцэнцыя", "запазычанне", "стылізаванае пераймане", "плагіят", "адаптацыя", "пераклад". У падраздзелах "Дантэ ў беларускай крытыцы і літаратуразнаўстве", "Айчыннае дантазнаўства", "Рэцэпцыя Дантэ ў мастацкай літаратуры" сцвердзіў, што творчасць Дантэ з'яўляецца "дзейсным фактарам" беларускага літаратурнага працэсу. Паказана, што ў беларускай крытыцы XX стагоддзя Дантэ Аліг'еры прадстаўлены як тая асоба, што прадвызначыла запачаткаванне прафесійнага мастацкага слова і гісторыі мастацкай літаратуры, а таксама нацыянальных літаратур і культур наогул (М. Багдановіч), як той паэт-грамадзянін, што ў індывідуальным прадстаўляе універсальнае (М. Гарэцкі, А. Бабарэка) і можа быць сімвалам настойлівасці і мужнасці (У. Жылка), як прапаведнік гуманістычных ідэалаў (М. Тычына). Шматграннасць закранутай праблемы яскрава пацвердзіла і характарыстыка айчыннага дантазнаўства (публікацый Л. Баршчэўскага, Т. Ганчаровай-Цынкевіч, А. Данільчык, У. Конана).

У. Чарота грунтоўна разгледзеў рэцэпцыю Дантэ ў беларускай мастацкай літаратуры. З тых пісьменнікаў, чыя цікавасць да слыннага італьянца была не эпізадычнай, а ўстойлівай і шматпланавай, вылучыў М. Багдановіча, Язэпа Пушчу, Максіма Танка і У. Караткевіча.

Самыя розныя формы і аспекты мелі дачыненні М. Багдановіча з італьянскім паэтам. Гэта і траічнасць, якая выявілася як асноўны кампазіцыйны прынцып пабудовы твора па ўзоры "Боскай камедыі" Дантэ ў першаснай задуме паэтычнай кнігі "Вянок", і ўпершыню ўведзеная ім у беларускую паэзію праз Дантэ тэрцына і інш.

У кнізе паказаны шматгранныя сувязі Язэпа Пушчы і Дантэ Аліг'еры. Яны падрабязна разгледжаны пры дэталёвым аналізе санетаў беларускага паэта "Віно паэзіі" і "Дантэ Аліг'еры", а таксама верша "Красуйце вечна, кіпарысы". Іх разгляд дазволіў даследчыку гаварыць пра біяграфію і творчую спадчыну Дантэ Аліг'еры як пра "культурны субстрат" творчасці Язэпа Пушчы.

Калі для Язэпа Пушчы слынны фларэнтыец быў блізкі як асоба, найперш як паэт-выгнаннік, то Максім Танк высока цаніў аўтара "Боскай камедыі" як песняра Пекла, што адзначыў, напрыклад, у дзённікавых запісах за 6 ліпеня 1936 года: "Многаму маглі б мы навучыцца ў Дантэ, як пісаць пра сучаснае пекла..." Пазней гэту думку паэт увасобіў у такіх вершах, як "Парады" (1939), "Мы ў свой горад прыйшлі" (1944), "Аднойчы я ішоў з Дантэ..." (1971). Літаратуразнаўца згадвае, што ў Максіма Танка, акрамя санетаў, як таго карабля, што "калісьці збудаваў вялікі Дантэ", ёсць твор, напісаны тэрцынамі, — "Ля гэтых сосен", заўважае, што невыпадкова імя Дантэ Аліг'еры з'явілася ў вершы Максіма Танка "У Фларэнцыі" (1961), які быў напісаны пасля наведвання італьянскага горада, радзімы аўтара "Боскай камедыі".

Значны ўплыў Дантэ Аліг'еры зведаў і Уладзімір Караткевіч. Напрыклад, у аповесці "Дзікае паляванне караля Стаха" (1950, 1958) ад імя галоўнага героя Андрэя Беларэцкага лес вакол палаца Яноўскіх апісваецца так: "...Дрэвы, якім не менш як сотні год, зрабілі мясцовасць толькі трошкі больш прыемнай, ніж славуты пякельны лес у Дантэ". Паказальнай з'яўляецца ў гэтым творы і наступная згадка галоўнага героя: "На хаду я скінуў куртку, шапку, выкінуў з кішэняў залаты партабак і кішэнькавае выданне Дантэ, якое заўсёды насіў з сабою".

Сапраўды, цалкам верагодна, што захапленне У. Караткевіча спадчынай Дантэ яшчэ падчас вучобы ў Кіеўскім універсітэце ўзнікла пад уплывам вядомага літаратуразнаўцы, акадэміка А. Бялецкага (1884 — 1961). У. Чарота згадвае, што А. Бялецкі з'яўляўся аўтарам каментарыяў да выдання "Пекла" Дантэ ў перакладзе М. Лазінскага на рускую мову (1940), а таксама ўступнага артыкула (які лічыцца адной з самых значных прац ва ўкраінскай данталогіі) да першага перакладу "Пекла" на ўкраінскую мову, здзейсненага П. Карманскім і М. Рыльскім (1956).

У. Караткевіч неаднаразова называў А. Бялецкага сваім настаўнікам. У сярэдзіне 50-х гадоў напісаў верш "На паўстанках, засыпаных лісцем бярозавым", які прысвяціў А. Бялецкаму. У пачатковым варыянце гэтага верша згадвалася імя Дантэ.

Выяўляючы глыбокую дасведчанасць у творчасці як Дантэ, так і Караткевіча, У. Чарота асэнсаваў шматлікія алюзіі, эпіграфы, цытаты і вобразы з твораў італьянскага пісьменніка ў такіх творах беларускага пісьменніка, як драма "Млын на Сініх Вірах", верш "Апошняя песня Дантэ", аповесць "У снягах драмае вясна", містэрыя "Легенда аб бедным д'ябле і аб адвакатах Сатаны", раман "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" і інш., паказаў, што У. Караткевіч плённа выкарыстаў у сваёй творчасці мастацкія набыткі Дантэ.

У. Чарота разгледзеў таксама сувязі Дантэ з творчасцю іншых беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя, адзначыў, што ўздзеянне славутага фларэнтыйца на іх творчасць адбывалася на ўзроўнях як зместу, так і формы.

Абапіраючыся на досвед Максіма Танка, У. Караткевіча, В. Рагойшы, У. Чарота падкрэсліў значэнне перакладаў скарбаў сусветнай літаратуры (творчасці Дантэ, Шэкспіра, Гётэ) для развіцця беларускай літаратуры. У трэцім раздзеле "Пераклады спадчыны Дантэ на беларускую мову" прасачыў гісторыю беларускіх перакладаў твораў італьянскага паэта, прааналізаваў беларускамоўныя пераклады "Боскай камедыі". Згадаў, спасылаючыся на Язэпа Дылу, што ў XIX стагоддзі пісьменнік-дэмакрат Альгерд Абуховіч выканаў пераклады з "Фаўста" Гётэ, з "Разбойнікаў" Шылера, некаторых вершаў Віктора Гюго, Байрана, Дантэ. У кнізе высокапрафесійна прааналізаваны самы даўні захаваны беларускі пераклад з Дантэ, тэрцыны Песні IX "Пекла" "Боскай камедыі", якую М. Багдановіч скарыстаў як эпіграф да нізкі "У зачарованым царстве" паэтычнай кнігі "Вянок", а таксама пераклады Я. Семяжона (1965, фрагмент Песні III "Пекла" пад назвай "Прад апраметнай" і "На смерць Беатрычэ" — санет XXIV з кнігі "Новае жыццё"), А. Мінкіна (1993, Песня I "Пекла"), Л. Баршчэўскага і Я. Семяжона (1995, Песні I і III "Пекла", Песня XXX "Чыстца" і Песня XXXIII "Раю"), У. Скарынкіна (1997, першы поўны пераклад "Боскай камедыі") і некаторых санетаў з кнігі "Новае жыццё" (2000), Я. Міклашэўскага (2001, два санеты), А. Данільчык (2004, поўны пераклад трактата "Пра народнае красамоўства").

Канкрэтны аналіз перакладаў дазволіў даследчыку зрабіць і наступную выснову: "Першы поўны пераклад на беларускую мову паэмы Дантэ, які здзейснены ў 1997 г. Уладзімірам Скарынкіным з падрадкоўнікаў, передае ў пэўнай ступені паэтыку арыгінала, стыль Дантэ Аліг'еры. Але У. Скарынкін унёс шэраг змен, зрабіў адступленні ад арыгінала, увёў спецыфічныя параўнанні, беларускія фразеалагізмы і інш. Пры ўсім гэтым ёсць падставы лічыць пераклад "Боскай камедыі" У. Скарынкіна прыкметнай з'явай нацыянальнай культуры".

І нельга не прызнаць слушным сцвярджэнне У. Чароты, зробленае ў "Заключэнні", што ў кожнай нацыянальнай літаратуры спадчына фларэнтыйскага паэта атрымлівала і атрымлівае новае жыццё ў залежнасці ад існуючай літаратурнай сітуацыі і што беларуская літаратура ў гэтым плане — не выключэнне.

У. Чарота заўважыў, што беларускае дантазнаўства, якое запачаткавалася, па сутнасці, у 60-я гады XX стагоддзя, актывізавалася ў 1990-я гады і ў сувязі са з'яўленнем беларускамоўных перакладаў твораў італьянскага паэта, у пачатку XXI стагоддзя пашырыла дыяпазон даследавання творчасці італьянскага класіка. Так, А. Данільчык у артыкуле "Невядомы Дантэ" (2004) разгледзела слыннага фларэнтыйца ў новым для айчыннага літаратуразнаўстве ракурсе — як філолага, аўтара трактата "Пра народнае красамоўства".

Асобна варта ўхваліць (рэдкасць сярод маладых даследчыкаў) пошукі і знаходкі У. Чароты ў архівах. Дзякуючы ім упершыню былі ўведзены ў літаратурны ўжытак многія факты.

Кніга У. Чароты з'яўляецца значным набыткам айчыннай кампаратывістыкі. У ёй дасканала і ўсебакова раскрыты багацце і разнастайнасць сувязяў Дантэ Аліг'еры і беларускай літаратуры XX стагоддзя.

Анатоль ВЕРАБЕЙ

# «Плод» па прозвішчы Сліва




Перафразіруючы вядомае выказванне, часам, хочацца сказаць: прыгожа смяяцца не забароніш. Прынамсі, выслоўе гэтае прыгадваецца, калі знаёмішся з кнігай гумару Міхася Слівы "Віртуальнае каханне", якой рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва" распачала серыю "Бібліятэка "Вожыка". Правільней — аднавіла яе. Але гэта ўжо не тонкі зборнічак у мяккай вокладцы, як практыкавалася раней, а ладны томік. Тое, што гонар адкрыць вядомую серыю ў яе новым варыянце, выпала менавіта М. Сліву — па-свойму сімвалічна. Менавіта ён на сённяшні дзень з'яўляецца адным з самых таленавітых пісьменнікаў, якія выступаюць на старонках гэтага часопіса.

Дарэчы, М. Сліва лімаўскі сталы аўтар. Да ўсяго, на сваім творчым рахунку ён мае не адну кнігу. Пры гэтым нязменна застаецца верным свайму мастакоўскаму прынцыпу. А прынцып гэты ў тым, што М. Сліва перакананы: смяяцца не грэх, калі ёсць з чаго. Чалавек, які валодае талентам гумарыста, заўсёды здатны знайсці аб'ект, які можна выкарыстаць для гэтай мэты. Сапраўднае прозвішча М. Слівы — Кавалёў. Чаму ўзяў сабе менавіта гэты, а не іншы псеўданім, ён расказвае ў аўтабіяграфіі "Як я стаў Міхасём Слівай", якой кніга "Віртуальнае каханне" адкрываецца. А пачалося ўсё з таго, што падчас студэнцтва ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, М. Кавалёў часта друкаваўся ў часопісе "Вожык". Нярэдка ў адным нумары змяшчалася па некалькі ягоных твораў. Узнікла пытанне пра выбар псеўданіма.

Калі быў у бацькоў, ягоны позірк запыніўся "на вялізнай спелай сліве": "Тут жа мільгнула думка: а што калі — Сліва?.. На Украіне ёсць Астап Вішня (у той час яго творы ў перакладзе на беларускую мову часта друкаваліся ў "Вожыку", а ў маладыя гады хочацца на каго-небудзь са знакамітых быць хоць нечым падобным), хай будзе і ў Беларусі свой "плод" — Сліва! На смак яна бывае і кіславатая, і саладкаватая, вось табе сатыра і гумар".

Балазе, вожыкаўцы ўхвалілі гэты псеўданім. Ніводзін з іх не запярэчыў: маўляў, нічога сабе, яшчэ студэнт, а ўжо раўняецца на класіка гумару. Наадварот, пажадалі пісаць не горш за Вішню. А ён і старацца рады. Пісаў і дапісаўся да таго, што стаў тым, кім з'яўляецца сёння: чытаць — задавальненне, смяяцца — у радасць. Часам нават і добрая творчая зайздрасць з'яўляецца. Гэта ж трэба быць такім дасціпным, арыгінальным. У той жа час лаканічным.

Гэта аднак не значыць, што яму чужы жанр традыцыйнай гумарэскі, якая нагадвае сабой міні-апавяданне. Але найбольш яму ўдаюцца невялікія дыялогі-карацелькі, кшталту тых, якія можна напаткаць у народных жартах. Ды ў яго гэта не перайманне, а выключна ўласная творчасць, паводле якой, "не смяецца толькі лянівы".

Як правільна засведчана ў выдавецкай анатацыі, "смешнае ці вартае смеху Міхась Сліва ўмее знаходзіць і ў малым, і ў вялікім, і ў будным, і ў святочным. А гэта ўжо адзнака сапраўднага гумарыстычнага таленту". Аднак смех М. Слівы не толькі дзеля смеху. У сувязі з гэтым так і просіцца яшчэ адно народнае сведчанне: дурань і з пальца засмяецца.

Гумар жа аўтара "Віртуальнага кахання" такі, што ім дакладна прыкмячаецца сёе-тое з нашага паўсядзённага жыцця. Усё, што можна аднесці да людскіх заган — хутчэй за ўсё аб'ект выкрывальнай сатыры. Часцей М. Сліва заўважае тое, што сведчыць пра пэўныя чалавечыя слабасці. Адна з іх і раскрываецца ў мініманалогу "Не дурань...", персанаж якога з тых, хто лянуецца лішні раз і пальцам (зноў гэты палец!) паварушыць:

"—Эх, дзе б знайсці такую работу. — Уздыхае Іван Пятровіч. — Каб летам быць настаўнікам, а зімой — аграномам?"

З самога жыцця ўзята і тэма дыялога "Быць сведкай":

"— Адкуль Галя ведае, што ты храпеш? — пытае жонка ў мужа.

— А мы ў адной канторы працуем".

Хацелася б толькі пажадаць, каб М. Сліва заўсёды выразна расстаўляў акцэнты. Для прыкладу, узяць дыялог "Знаходлівы":

"— Мой муж ніколі не цікавіцца, каму я званю па тэлефоне.

— Што, ён такі абыякавы да цябе?

— Не, проста ў яго прыбор падслухоўвання".

Хочаш-не хочаш, а будзеш смяяцца, паколькі зроблена ўсё па-майстэрску. Ёсць, аднак, адно "але". Бо куды большы эфект ад твора атрымаўся б, калі б так сказала пра свайго раўнівага мужа не ягоная жонка, а паведаміў бы хто-небудзь, як кажуць, збоку.

Ды вучыць іншых заўсёды лягчэй, чым гэта рабіць самому. Асабліва, калі гаворка тычыцца такой далікатнай сферы, да якой адносіцца гумар. Таму лепш даверыцца прафесіяналу, якім з'яўляецца Міхась Сліва. Пра гэта лішні раз засведчыла яго новая кніга "Віртуальнае каханне". Калі ж хочаце даведацца, што гэта за "каханне" такое, то спяшайцеся яе набыць.

Алесь МАРЦІНОВІЧ



Найперш мэтазгодна заўважыць, што аўтар, які працуе ў галіне дзіцячай літаратуры, мусіць наблізіцца да разумення самога дзіцячага свету, да разумення тых праблем, якія хвалююць маленькага чытача. Паколькі ж дзіцячая драматургія апелюе да свайго адрасата са сцэны, аўтар драматургічнага твора змушаны мець на ўвазе шэраг дадатковых праблем. П'еса абавязкова павінна быць дынамічнай, як сёння кажуць, "відовішчнай", яна павінна ўздымаць актуальныя праблемы нашага быцця і скіроўваць маленькіх гледачоў да іх вырашэння. На маю думку, менавіта такімі творамі і з'яўляюцца п'есы-казкі Сяргея Кавалёва, якія выклікаюць шчырае і жывое захапленне дзяцей.

Зборнік п'ес "Шлях да Бэтлеема" ("Мастацкая літаратура", 2009) С. Кавалёва — спроба (і — адразу скажу — дастаткова ўдалая) стварыць захапляльныя творы для маленькіх гледачоў, здольныя паспрыяць іх развіццю і выхаванню.

# Дзіцячая драматургія Сяргея Кавалёва

У літаратуразнаўстве існуе падзел казак на фальклорныя і літаратурныя. Што тычыцца беларускай дзіцячай драматургіі, то тут вызначаюцца тры своеасаблівыя тэндэнцыі: 1) апрацоўка вядомых фальклорных і літаратурных сюжэтаў, пераасэнсаванне шматлікіх фальклорных матываў і вобразаў; 2) стварэнне ўласна літаратурных казак; 3) інсцэніроўкі — адаптацыя вядомых літаратурных і фальклорных твораў для пастаноўкі на сцэне.

У п'есе "Хохлік (Зімовая казка)" С. Кавалёва галоўным героем з'яўляецца лесавічок Хохлік. Як адзначыў С. Юркевіч, "гэты гарэзлівы і часам небяспечны для людзей лясны дух, чый вобраз паэтызаваўся яшчэ Я. Купалам, у п'есе С. Кавалёва выконвае ролю станоўчага персанажа". Галоўнае пытанне, якім тут задаецца аўтар, можна сфармуляваць такім чынам: "Як распазнаць дабро?" Аўтар сцвярджае, што знешняя прыгажосць бывае падманліваю. Так, ліслівы, Карузлік выклікае давер у наіўнай Дзяўчынкі, а несімпатычны, на першы погляд, Хохлік аказваецца клапатлівым і шчырым. П'еса мае выхаваўчае значэнне і тлумачыць сэнс прыказкі: "Не ўсё тое золата, што бліскае".

С. Кавалёў актыўна выкарыстоўвае і літаратурныя (паэтычныя і празаічныя) крыніцы для стварэння сцэнічных твораў для дзяцей. Так, напрыклад, драматычная казка "Заяц варыць піва (п'еса ў дзвюх дзеях па матывах вершаў і казак У. Караткевіча)" напісана на аснове казкі "Птушыны суд" і верша "Заяц варыць піва". Аўтар мадэрнізуе і адаптуе да сучаснасці літаратурны тэкст У. Караткевіча, спалучае ў п'есе паэтычныя і празаічныя фрагменты, "ажыўляе" вобразы казкі.

П'еса-казка ў дзвюх дзеях "Чарнакніжнік" напісана С. Кавалёвым з выкарыстаннем пэўных сюжэтных элементаў з твора Я. Баршчэўскага "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях". Персанажы, створаныя Я. Баршчэўскім, пачынаюць сябе паводзіць па-іншаму.

У дзіцячай драматургіі набываюць сучаснае гучанне шматлікія сюжэты Бібліі. Сярод п'ес такога кшталту — "Дарога да Бэтлеема (п'еса-апокрыф у 2-х дзеях)" С. Кавалёва. Твор разлічаны на сярэдні школьны ўзрост, у яго аснову пакладзена калядная гісторыя. Аднак тут мы бачым аўтарскую інтэрпрэтацыю вядомага біблейскага сюжэта. Драматург, здаецца, не адступае ад сутнасці біблейскага тэксту, але ў той жа час стварае арыгінальную і займальную гісторыю з напружаным сюжэтам, з развітай сістэмай вобразаў. У каляднай гісторыі С. Кавалёва ўвасоблены новыя вобразы: Асёл, Гаспадар, Зорка, Парсюк, Леў і інш. Па сутнасці, з біблейскага сюжэта тут застаюцца тыя героі (Марыя, Язэп, Жаўнеры цара Ірада), якія ў дадзенай п'есе з'яўляюцца эпізадычнымі. Падзеі, адлюстраваныя ў п'есе, ніякім чынам не супярэчаць біблейскаму сюжэту.

Дамінуючай формай для твораў, напісаных на аснове фальклорных сюжэтаў ці па матывах фальклорных твораў і абрадаў, з'яўляецца менавіта п'еса-казка, якая ў розных варыянтах захоўвае пазнавальнасць сюжэтных матываў, але разам з тым прыводзіць нас у свет новаўтвораных вобразаў, развівае ў дзіцяці вобразнае мысленне і фантазію. Думаецца, што роля і аўтараў, і тэатраў заключаецца менавіта ў тым, каб найбольш плённа выкарыстаць магутныя педагагічныя патэнцыял казкі.

Нельга абысці ўвагай цікавую п'есу-казку "Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага" П. Васючэнкі і С. Кавалёва. Яна распавядае пра авантурныя прыгоды збяднелых шляхціцаў, галоўная маёмасць якіх — гэта ўсведамленне свайёй шляхетнасці. Напачатку аповед чымсьці нагадвае вядомую казку М. Салтыкова-Шчадрына "Два генералы". Праўда, фанабэрыстыя шляхціцы знаходзяцца не на бязлюдным востраве, а ў звычайнай вёсцы, аднак галадаюць яны па той жа прычыне, што і генералы. Іх статус і ганарыстасць замінае ім не толькі працаваць, але нават звярнуцца з просьбай аб дапамозе да мужыкоў (у шляхціцаў ёсць гонар!). Але дыялогі паноў сведчаць аб тым, што гонар у іх выпадку – толькі гучнае слова: пан Заблоцкі выменьвае сваю шаблю ў сялян за два кубельцы сала, пан Кубліцкі — за "два кольцы кілбас", а зброя для шляхціца, як вядома, адзнака прыналежнасці да вышэйшага саслоўя. Далейшыя прыгоды гэтых паноў характарызуюць іх спачатку як наіўных летуценнікаў, няўрымслівых фантазёраў, якія ідуць на розныя авантуры, бо вераць у поспех сваёй справы: яны вараць боты, наседжваюць яйкі, мараць пра славутыя подзвігі, згадваюць сваё слаўнае мінулае, выхваляюцца адзін перад адным сваім былым уяўным багаццем. У дыялогах паноў выкрываюцца заганы, якія, як вядома з гісторыі, прывялі шляхту да збяднення, а потым да знікнення: ганарыстасць, прагнасць, хцівасць, празмерная самаўпэўненасць, сварлівасць, баязлівасць. Шляхціцы, нібы той заяц Хвалько, шукаюць якую-небудзь нагоду, каб пахваліцца, паказаць сваю перавагу над іншым і ўпікнуць адзін аднаго. Майстэрства аўтараў у тым, што яны вельмі ўдала, з гумарам і іроніяй апісваюць гэтыя выхваленні: "Хіба пан не ласаваўся ў мяне мядзведжаю шынкаю, калдунамі з зайчацінаю, пірагамі з дзічынаю? Уга! <...> Мой кухар кожны дзень гатаваў новую страву. Рабіў ён вужыную яечню, верашчаку з мышыных хвастоў, цёснуў чарвяковае мяса, засмажваў цэлага каня ды саліў на зіму апельсіны. Бывала, возьме чартапалоху ды ўсяго іншага патроху, змяшае з камарынымі лапкамі, пальне зверху жабурыннем — такая салата атрымаецца, што будзь здароў!" Баязлівасць паноў і адначасова мара пра вялікія подзвігі, пра неўміручую славу іранічна апісана ў эпізодзе з дзіўным "Кураняткам-Страшыдлам".

Між тым, не можа здзіўляць жыццёвы аптымізм галоўных герояў: нават у самых складаных сітуацыях яны знаходзяць штосьці станоўчае, нават у фінале п'есы-казкі, калі ім — шляхціцам — прызначана наглядаць за пчоламі, яны самі сабе ўпэўніваюць, што ўсё склалася найлепшым чынам, што яны самі так усё спланавалі (самі выбралі сабе справу, самі "перадумалі" сватацца да Дрыпы-Парскі і інш.): "А так — кожны пры сваім інтарэсе. Галоўнае — што? Галоўнае, каб кожны быў на сваім месцы". Ці не гэтыя рысы характару: жыццёвы аптымізм, памяркоўнасць, нават трываласць да таго, што адбываецца, — найбольш яскравыя ў характары беларуса?

Як антыпод шляхціцаў выступае Дрыпа-Парска — працавітая і кемлівая дзяўчына. Ваякія прыгоды, на якія зграджаюцца нашы шляхціцы, спакушаюць іх найперш магчымым прыбыткам. Але замест славы і трафеяў яны атрымліваюць ганаровы статус пастуха ў князя Дрыгайлы. Князь Дрыгайла, які валодае многімі рысамі "разумнага гаспадара", таксама паказаны некалькі іранічна: гэта рамантычны ўладар, галоўная справа якога — глядзець у падзорную трубу. Ён не можа зберагчы сваю гаспадарку, ён у пэўнай ступені адарваны ад рэальнага жыцця і таксама жыве сваімі летуценнямі, хіба што не такімі фантастычнымі, як у Кубліцкага ды Заблоцкага.

Па сутнасці, аўтары сцвярджаць думку, уласцівую многім народным казкам: аб перавазе прадстаўнікоў сялянства над сваімі ўладарамі. Між тым, паны Кубліцкі ды Заблоцкі не выклікаюць агіды, а хутчэй уяўляюць сабой беларускі варыянт барона Мюнхаўзена, які здзіўляў навакольных сваімі аповедамі-небыліцамі.

Яшчэ адным спосабам засваення класічных казачных сюжэтаў для дзяцей з'яўляюцца інсцэніроўкі. Інсцэніроўкі вядомых літаратурных і фальклорных твораў — папулярная аснова для сцэнічных п'ес. Яскравыя прыклады таму — п'есы С. Кавалёва "Жабкі і Чарапашкі" (паводле казак У. Караткевіча і дзіцячых гульняў) і "Пілiпка і Ведзьма" (паводле беларускай народнай казкі).

П'еса "Жабкі і Чарапашкі" цікавая не толькі ўласна сюжэтам, але і вялікай колькасцю выкарыстаных дзіцячых гульняў. Вобраз Чарапашкі, адкрытай і ў той жа час адзінокай, не можа не выклікаць спагады і жадання чым-небудзь ёй дапамагчы. Гарэзлівыя Жабкі з іх дынамічнымі гульнямі і захапленнем спевамі напачатку таксама выклікаюць сімпатыі, аднак іх пагардлівае стаўленне да шчырай Чарапашкі, абразы на адрас адзінокай істоты толькі за тое, што яна не падобная да іх, змяняюць стаўленне да Жабак. Няшчасная Чарапашка праз кпіны Жабак губляе пачуццё ўласнай годнасці, становіцца няўпэўненай у сабе і яшчэ больш няшчаснай. Калі з'яўляецца Салавей, яна словамі Жабак расказвае яму пра свае нібыта заганы, і Салавей, як сапраўдны маэстра, здолеў заўважыць у Чарапашцы іскрынку таленту і прапанаваць сябраваць і супрацоўнічаць. Жабкі, якія не разгледзелі талент Чарапашкі, цалкам давяраюць аўтарытэтнаму, прызнанаму патрабавальнымі слухачамі галоўнай паляны Салаўю, спяшаюцца да Чарапашкі і прапануюць ёй сваё сяброўства. Безумоўна, паводзіны Жабак у фінале п'есы здаюцца крыху няшчырымі. Адзінокая Чарапашка, якая ўсё жыццё марыла знайсці сяброў, апроч сваёй "травяной лялькі-ляляні" велікадушна ім дарує. Усе кропкі над "і" расстаўляе мудры Салавей: "І на што, калі ты зялёны і мяккі, лаяць таго, хто карычневы і цвёрды. Жывыя — усе прыгожыя". Гэтая кранальная гісторыя заканчылася перамогай творчага сяброўства Жабак, Чарапашкі і Салаўя. П'еса мае выразную выхаваўчую скіраванасць, пamастацку вытлумачвае, што кожная асоба мае свае станоўчыя якасці і таленты і нельга абражаць кагосьці і пагарджаць ім толькі таму, што ён не такі, як усе.

На адпаведнай аснове пабудавана гэтаксама п'еса С. Кавалёва "Пілiпка і Ведзьма". Твор з'яўляецца ўдалай інсцэніроўкай беларускай народнай казкі. Некаторыя даследчыкі адзначалі глыбокі сімвалічны сэнс п'есы — супрацьстаянне Жыцця і Смерці. Згодна з народнай казкай, дабро перамагае зло. А верыць у гэта, як вядома, не толькі важна, але і проста неабходна...

Творчасць С. Кавалёва ў галіне дзіцячай драматургіі характарызуецца шматстайнасцю форм узаемадзеяння жыццёвага і казачнага матэрыялу, шэрагам арыгінальных жанрава-стылёвых форм, праз якія актуалізуюцца праблемы сучаснага жыцця, вытлумачваюцца з'явы навакольнай рэчаіснасці, узаемадачыненняў чалавека і свету.

Фёдар ДРАБЕНЯ

## Калонка Міхася Южыка

# Літаратура для абыякавых



Часам складваецца ўражанне, што беларускія пісьменнікі і рэдактары тоўстых часопісаў пасылаюць літаратурныя мастацкія творы ў космас, у гэтую беспаветраную прастору, вакуум, адкуль не вяртаецца ніводнай жывой рэакцыі.

А інакш як растлумачыць, што большасць літаратурных тэкстаў застаюцца абсалютна не заўважанымі крытыкамі? Рэдкім жа шчаслівым творам, на якія з'яўляюцца грунтоўныя рэцэнзіі, зусім не гарантавана тое, што яны будуць прачытаны літаратурнай грамадскасцю. Бо тыражы нашых тоўстых часопісаў далёка не адпавядаюць рэальнай колькасці зацікаўленых чытачоў. Не сакрэт, што індывідуальных падпісчыкаў, тых, хто самохаць выпісвае літаратурную перыёдыку, на парадак менш ад велічыні тыражоў.

Ну, хай яшчэ сёй-той купляе літаратурныя часопісы і газеты ў кіёсках. Аднак пераважная большасць тыражу паступае ў бібліятэкі, якія, згодна з дзяржаўнай палітыкай, падпісваюць беларускую літаратурную перыёдыку. Гэта пахвальна. Вось толькі пракантралявацьь, ці існуе да яе жывы інтарэс сярод бібліятэчных наведвальнікаў — справа вельмі складаная. Працягля мае назіранні, роспыты тых людзей, хто рэгулярна наведвае бібліятэкі, несуцяшальныя. Яны наводзяць на думку, што большасць сучаснай беларускай літаратуры, той, якая яшчэ не стала класічнай і не ўвайшла ў школьныя праграмы, застаецца абыдзенай сучаснікамі.

Памятаю, як гадоў дванаццаць таму, калі зацікавіўся беларускай літаратурай, я браў у мінскай бібліятэцы кнігі ўсіх аўтараў, якія былі тады ў мяне на слыху, так бы мовіць, раскручаных... І ў бальшыні выпадкаў рабіўся першым чытачом іхніх кніг, якія праляжалі на бібліятэчных паліцах 5—10 гадоў. Кнігі былі гожа выдадзены яшчэ за савецкім часам, зайздросная паліграфія. Вось толькі некаторыя іхнія старонкі былі ўсё яшчэ прыклеены адна да адной па краях друкарскім клеем. Сумна, згадзіцеся, спадары. Гэта колькі ж дзяржаўных сродкаў пайшло намарна...

Можна, канечне, абвінавачваць некаторых бібліятэкараў за абыякавасць, што не праводзяць яны адпаведную працу сярод чытачоў, не накіроўваюць і г.д. І можна, напэўна, адначасова прывесці прыклады бібліятэчных дзеячаў, якія рупяцца за нацыянальную культуру і ў якіх чытачы загружаны кнігамі сучасных беларускіх аўтараў пад завязку. Аднак не баюся памыліцца, сцвярджаючы, што такіх узорных руплівцаў адзінкі. Бо прычыну трэба шукаць не ў чытачах і бібліятэкарах, а ў пісьменніках і рэдактарах.

Калі б кожны наш пісьменнік шчыра сябе спытаў, чым ён можа быць цікавы чытачу і за што яго любіць крытыкам, то, сумленна разважыўшы, большасць майстроў пяра ўбачылі б тое, што любіць і чытаць іх ні чытачам, ні крытыкам няма аніякіх падстаў. Таму што сучасная беларуская літаратура амаль не перадае подых сучаснасці, з нейкіх дзівосных і не зразумелых мне прычын абыходзіць злабадзённыя праблемы і тэмы, якімі жыве і дыхае цывілізаваны свет. Мы з вартай іншага ўжытку энергіяй працягваем пісаць і друкаваць творы пра вёску трыццатых–пяцідзесятых гадоў, пра Вялікую Айчынную вайну, пра Вялікае княства Літоўскае, пра часы блаславёнага брэжнеўскага застою, пра калектывізацыю дваццатых гадоў мінулага стагоддзя, пра Чарнобыльскую катастрофу — і толькі сучаснасць, вось гэтая трапяткая сучаснасць урбаністычнай цывілізацыі, з яе шырачэзным спектрам пытанняў і тэм, застаецца амаль не адлюстраванай у творах нашых пісьменнікаў. А час імкліва бяжыць наперад, і забытае, абыдзенае ў тэмах пісьменнікамі, летапісцамі сваёй эпохі, сыходзіць у нябыт і надалей будзе вывучацца гісторыкамі па чым заўгодна, толькі не па мастацкіх творах. Па мне, дык гэта кепска.

Літаратурныя творы пра сівую даўніну, пра векапомныя для народа падзеі, вядома ж, мусяць быць адлюстраваны ў творах і прадстаўлены на старонках літаратурных часопісаў. Але, падкрэсліваю, толькі не за кошт сучасной тэматыкі. Далёка хадзіць не трэба, звярніце ўвагу на змест часопісаў і тэматыку выдавецтваў суседняй Расіі. Ільвіная доля твораў — пра сучаснасць. І толькі невялікі працэнт — на іншыя тэмы. Гэта альфа і амега літаратуры, гэта неабходная (але, канечне ж, не дастатковая) умова не страціць повязь з чытачом і народам.

Ці не таму беларусы пагарджаюць нашымі сучаснымі аўтарамі, а чытаюць рускіх пісьменнікаў, што толькі там знаходзяць адказы на свае злабадзённыя, набалелыя пытанні і клопаты, толькі там бачаць адэкватны "законнай" рэчаіснасці свет?

№ 10 12 сакавіка 2010 г. ЛіМ



## Уладзімір МАРУК

Мінула сорак дзён як не стала таленавітага паэта, майго земляка і таварыша Уладзіміра Марука. Шчыра кажучы, яго фізічная адсутнасць не асабліва і адчуваецца… Мы сядзелі праз сталінскую сценку, і ён рэдка калі падаваў свой голас у вузкіх рэдакцыйных калідорах. Чужыя рукапісы, як ненатольныя мышы, з'ядалі яго зямны час, пакідаючы яму толькі начныя балючыя хвіліны. Але менавіта яны і засталіся ад усяго смяротнага. Як і ў гэтых вось арытмічных жыццянеспатольных імпульсах яго паэзіі.
Сябры і калегі, якія прысвяцілі яму вершы, таксама кажуць пра тое — вечнае, — што застаецца ад нашага духу.

Леанід ГАЛУБОВІЧ

* * *

Выйдзеш з люстэрка,
як з брамы,
З бляску на людную плошчу.
Самыя блізкія храмы
Дыхаюць светлай мілосцю.

Ты ўжо на волі,
здаецца,
Толькі ідзеш нетаропка,
Ззаду люстэрка смяецца,
Нібы ў яго ты ў
халопах,

І за яго патуранні
Зморана плачаш на людзях,
Што на трывожным змярканні
Плач твой надоўга разлюбяць.

Постаць сальецца з цямнотай,
Не пакланіўшыся храму...
Ты безаглядна і ўпотай
Вернешся ў цёмную браму.

* * *

Ля змучаных ветрам бяроз
І выпітай сцюжай вады
Я дзіцем,
што любіць хаос,
Хаджу ні туды,
ні сюды.

Іду паўз глухую сцяну.
Не ведаю,
што за сцяной.
Што ўбачу,
крану і міну,
Нібыта сустрэўся з маной.

І дзіўна,
балюча да слёз
Скрыпяць пад нагамі глыжы...
Дзіця,
што любіла хаос,
Паперадзе змянна бяжыць.

* * *

У попелцы тлуму тло
Перагарэла дазвання...
Ранішнее цяпло
Стане святлом змяркання.

Неба схавана ў грым
Сённяшняга падману,
Дзе цыгарэтны дым
Ужо не радня туману.

І дзе на зыходзе дня
Паволі сівеюць скроні
І цёмніца вышыня,
Як попел дня на далоні.

* * *

Знарокія сны
патрывожаць не часта, —
Пасля бліскавіцы і першага грому.
Яны неўтрапёнай душы
маёй каста
І ёй падуладны,
а болей нікому.

А болей — каму?..
Калі зманныя дзеі
Душа называе
няйначай крамолай,
А ў праведным гневе —
няйначай зладзеі,
Што выкрадуць веру
з рукі ў багамола.

А болей — каму?..
Ні дарозе,
ні полю,
Ні самаму поўнаму літасці дому
Не хочацца зведаць
душы маёй болю
Пасля бліскавіцы
і першага грому.

* * *

Іду па бруку пракаветным,
Па неразгаданым Сусвеце...
Звініць абсяг,
як двор манетны,
Бы раздае ўсім па манеце.

Сярод усіх і я,
нябога,
Увальюся ў гэты звон нясмела,
Каб спадзяваная дарога
Мяне паслухаць захацела.

І мне паведала пра тое,
Чаго не кажуць па сакрэту,
Каб я за ўсё яе святое
Аддаў адзіную манету.

* * *

Каўтаю горыч страты,
Нібы кілішак горкай,
За тое вінаваты,
Што жыў —
бы з агаворкай

На нейкі збег абставін,
На тое,
што не першы...
А час усіх праславіў:
Каго хацеў —
пацешыў,

А потым ніцма кінуў
У пыл зямны з аблокаў,
Каб на чыюсь правіну
Ты не глядзеў звысоку.

Таму і я змяюся,
Пяю сабе асанну, —
То ўгору падымуся,
То на калені стану...

Не першы,
не апошні,
Не бедны,
не багаты,
Не вернік,
не бязгрэшны, —
Каўтаю горыч страты.

Публікацыя Веранікі МАРУК

## Кастусь ЖУК

### Гаркота

(Дыпціх памяці)

…Але там на дзвярах — замок,
Але там на душы — гаркота.

Уладзімір Марук

1
Мы, хрышчаныя ўсе,
— душой набожныя,
Ды ўсё ж
— патэнцыяльныя нябожчыкі.
Хоць прысягнулі ў вернасці Хрысту,
А смерць не адчуваем за вярсту.

Балесна ўчуць,
што твой таварыш згінуў.
Яшчэ балесней — бачыць дамавіну,
Дзе ён ляжыць, заснуўшы,
— як жывы,
Між ружакветкаў, як між сон-травы.

2
У Бога — тайнаў многа.
Толькі Бог
Бывае й сам несправядлівы часам:
Адным — жыццё надвышвае парог,
Другім —
жыццё ўкарочвае няшчадна.

Бяднее сад зямны, не райскі сад, —
Хай райскі сад
— заўсёды будзе ветлым!
Там яблыкаў і душаў зарапад,
Хоць недаспелых самых
— самых светлых…

Мы рукі паціскаем сябрукам,
Не знаючы, хто першы кане ў Лету.

А зорка ў небе ўспыхне Марука,
Бо сапраўды ён быў
— святым паэтам.

## Казімір КАМЕЙША

### Завея

Памяці Уладзіміра Марука

Сцяжына згубілася недзе,
Як быццам яе не было.
Насыпана снегу пад неба,
І сябра майго замяло.

Як здані у белых кашулях,
Дні ў памяць радком паплылі.
Цяпер дакараю зязюлю,
Хоць некалі гэтак хваліў.

Як мала яна налічыла
Тых вёсен — скупая была.
Стрыжэ вінавата вачыма,
Самотна глядзіць з-пад крыла.

Цяпер і сябе дакараю,
А скрозь на знаёмай вярсце
Завея ад краю да краю,
Ад сэрца да сэрца мяце.

Душа, ты зімы не прымала
Ніколі, нідзе у жыцці.
Душа, што ў радку дагарала,
З радка да нябёс паляціць.

Душу не астудзіць завея.
Ты вернешся птушкай яшчэ.
Цярплівы, чакаць я умею.
Вяртайся, вяртайся хутчэй!..



## Аляксандр БЫКАЎ

### Нарач

Над высокім чаротам
Поўня тайнамі поўніцца.
Памаўчым мы, і потым
Мара даўняя ўспомніцца,
Што змалолася ў тло
За далёкімі далямі.
Вечных зорак святло
Разальецца над хвалямі.
У начной цішыні
Дрэмле Нарач насуплена.
Не вярнуць нам, ані,
Светлай мары, што згублена.
І не зведаць, адкуль
Тая сцежачка зорная.
Недзе плёсне акунь
Па-над хваляй азёрнаю...

### Паміраючай вёсцы

Па-над дахам прашумеў вятрыска
І зацiх за чарадою зім.
Можна жыць. Ды сонца ў небе нізка.
Можна спець застольную. А з кім?

Не гуляюць дзеці больш у жмуркі,
Выраслі. Ці вернуцца калі?
А на тых разбураных падмурках
Ладныя бярозы параслі.

І, бадай, тут непатрэбны словы.
Вёску час ператварае ў тло.
Вартавыя вечнасці — удовы —
Сцерагуць апошняе жытло.

Па-над дахам прашумеў вятрыска
І зацiх, ледзь зачапіўшы сны,
У якіх буслянка, як калыска,
Новай дачакаецца вясны.

* * *

Чорная зграя
Птушак пасела.
Хата старая
Асірацела.
Асірацела…
І на падворку
Ветрык нясмелы,
Роспачна-горкі,
Ціха гартае
Жоўтае лісце,
Быццам шукае
Нейкае выйсце...

### Кола дзён

На душы, як павук,
Дзірван,
Бессаромных прынук
Падман.

І туды паімчаў,
Як мог,
Дзе маленства люляў
Мурог.
Слёз пазбегнуць хацеў
І страт...
А прыбегшы, знямеў —
Асфальт.

Гвалт смуродных машын,
Бетон.
І пад шынамі —
Кола дзён.

### Маме, Ганне Нарцызаўне

Зноў памяць павяртае ў сны
Мне твару роднага абрысы...
А ты ў палоне той вясны,
Дзе вечна красаваць нарцысам.


Фота Аляксандра Вашчанкі

# Лазар Канцавейка з Пірачыч



Анэля ТУЛУПАВА

## Апавяданне

— Ну, бабы, давайце паздароўкаемся. Я — Лазар Канцавейка з Пірачыч. О, дык тут і дзяўчат, як апенек, ды якіх пекных! Паклон вам, паклон, каб ляцеў з вочак сон, каб ручкі рабілі, каб хлопцы любілі. А цяперака можна і са слабой палавінай паручкацца.

Мы глядзім, як няспешна "ручкаецца" з мужчынамі, з кожным паасобку, вёрткі, невялікага росту, чалавек.

— Чаму мы — слабая палавіна? — не вытрымлівае адзін з мужчын.

— Таму, што ось яны, — даволі бесцырымонна тыцкае пальцам убок жанчын Канцавейка, — ось яны давялі нас да ручкі…

— Шарыкавай, — падыгрывае Лазару брыгадзір.

— Вымярзаем ад іх лютасці, як маманты, — працягвае Лазар. — Не берагуць яны нас.

— А хто нас берагчы будзе? — пытаецца машыністка Раечка.

— Вас палоць трэба, — кіпяціцца Лазар, — нарасло, нібыта жыгучкі пад плотам. Куды ні сунься — абстрыкнешся. Ат! Што баба, што малпа — адна праява.Толькі малпа па ліянах гарцуе, а баба на нашым гарбе.

— То яно і бачна, як табе твоя Прося карак адтаптала, усе каўняры трашчаць, — ці то спачувальна, ці то асуджальна гаворыць брыгадзірава жонка Насця, — маладзян ты, маладзян!

І на нашых вачах Лазар Канцавейка ніякавее. Такое ўражанне, быццам з яго, як з мяча, паветра выпусцілі. Пасіпеў, пасіпеў і — вытхаўся.

— Што з вамі балакаць! — не падымаючы вачэй, гаворыць Лазар, — не перасакочаш. Пайшлі. Па хатах развяду шэфаў, на пастой размяркую.

Мы ідзём па вёсцы за Лазарам, а следам — басаногае "войска" вясковай дзятвы.

— Ты-ты-ты! Ту-ту-ту! Бух! — "абстрэльвае" нас дзятва.

Лазар Канцавейка нібыта і не звяртае на "абстрэл" аніякай увагі, ідзе, паплёўваючы. Але вось ён нечакана спыняецца, хапае з-пад плоту іржавую бляшанку і з крыкам "Граната!" кідае бляшанку ў праціўніка.

Дзятва з піскам і смехам разлятаецца па вуліцы, цвелячы Лазара:

— Ма-ла-дзян!

Я іду амаль побач з Лазарам, і мне добра бачна, як ён нервуецца, чуючы гэтыя, відаць, даўно абрыдлыя яму, крыкі. Яно і нам ніякавата, усё-ткі мужчына ў гадах… Я таўхаю лінатыпіста Рыгора, той паварочваецца да дзятвы і паказвае свой здаравенны кулак. "Войска" спыняецца, перастрэлка заціхае.

— Кажуць, яго сілком ажаніла на сабе адна баба, — шэпча мне машыністка Раечка. — А ты чула, як ён з "дурдома" баб грэбці сена вадзіў? Ой, ой, мамачка… — стогне, складваючыся папалам ад смеху, Рая.

Стрымацца немагчыма, і я таксама пачынаю смяяцца. Раісе гэтую байку расказалі відаць толькі што, а я яшчэ раніцай чула. Быццам на пачатку сенакоса Лазар Канцавейка паабяцаў свайму сябру-брыгадзіру, што ўправіцца за тыдзень. Брыгадзір пацікавіўся, дзе ён столькі памочнікаў возьме, на што Лазар аўтарытэтна заявіў: "Ёсць тутака… харчы пераводзяць… падключым".

І — "падключыў" баб з пажыццёвага пансіяната для слабанервовых, па-вясковаму, прыдуркаватых. Паабяцаў ім Канцавейка за работу па дзве капейкі на марожанае. Ну, сяк-так дзень бабы папрацавалі, пачаў Лазар з імі расплачвацца. Адной бабе не знайшлося дзвюхкапеечнай, дык ён паасобна, па капейцы даў. Бабы ўголас: "Нам па адной, а ёй дзве". Ды доўга не думаючы, з граблямі на Лазара. Добра, што "шэфы" падключыліся бараніць…

— Вы, сакатухі, — кідае нам цераз плячо Канцавейка, — да Лявоніхі пойдзеце. Вось яе хата, пад шыферам. Сёння адпачывайце, а заўтра падключыцеся…

Ну, як спецыяльна Канцавейка падкінуў нам сваё любімае слоўца напаследак. Раечка аж закашлялася ад смеху, мы таксама не ўтрывалі. Канцавейка разгублена пашкроб пазногцем бараду, потым і сам неяк хітравата ўсміхнуўся:

— Вы што, подмазку з'елі замест блінца?

Раечка ўчапілася , як і раней, у мой рукаў, і проста стогне ад смеху.

— Пайшлі! — цягну яе я да Лявоніхінай хаты.

І вось мы стаім каля веснічак, няўцямна разглядваючы на іх аб'яву: "ЗЛЫ ПЕВЕНЬ".

— Зл..злы…пев..ень… — ледзь выдыхае з сябе мая Раечка. — Не вёска, а цырк на дроце.

— Сама ты цырк.

Я бяру ў рукі дубец і рашуча таўхаю веснічкі. Яны адчыняюцца. Каля гародчыка, дзе квітнеюць жоўтыя вяргіні, стаіць высокая мажная кабеціна з кошыкам лебяды ў руках і разглядае нас.

— Мы з горада. Памагаць калгасу, — тлумачу я цётцы. — Дзядзька Лазар да вас паслаў.

— А ты яго пляменніца? — зацікаўлена пытаецца жанчына і ставіць кошык на зямлю.

— Ніякая не пляменніца, — уступаецца за мяне Рая. — Мы на кватэру да вас.

— Жывіце, — міласціва дазваляе старая.

— А певень? — баязліва выцягвае шыю дзяўчына, аглядаючы двор.

— У супе, — неахвотна тлумачыць жанчына, — надакучыла мне гэтая шыльда. Людзі смяюцца. А ўсё — Лазар. Загадаў, каб паперу начапіла. Певень неяк яго па двары паганяў… Хадзіце ў хату. Месца хопіць. Заходзьце, вечарам, калі не мужнія бабы, на скокі можаце хадзіць.

— Якія мужнія? — шчыра здзіўляецца Рая. — Ніхто не бярэ.

Пакуль мы ўладкоўваемся, мыемся, пераапранаемся, Лявоніха спраўляе сваю няхітрую гаспадарку: корміць падсвінка, аўдавелых курэй, кошку. Пасля запрашае паабедаць і нас. Мы з апетытам налягаем на фасолевы суп з пеўнем, на наліснікі. На трэцяе — узвар. Не паспелі мы зрабіць па глытку, як у хату без стуку, неяк бокам увайшла старэнькая хударлявая бабуля.

— Здароў'я вам! — даволі гучна вітаецца бабуля.

— Суседка, — ківае на жанчыну Лявоніха. — Садзіся з намі абедаць, Глушка.

Раечка папярхнулася. Я міргаю ёй, але маё мірганне яшчэ больш смяшыць сяброўку. А наша Лявоніха забыла і пра нас, і пра ўзвар, павярнулася да суседкі, завяла размову. Па тым, як крычыць Лявоніха і як напінае свой слых Глушка, мы здагадваемся, што суседка глухая, мабыць, зроду.

Спачатку ў старых размова ідзе пра тое, што ў вёсцы некаму працаваць, што ганяюць з гораду людзей, а ў іх жа свая там стаіць работа; пасля размова перабягае на нейкіх жукоў, потым Лявоніха клапоціцца, што ў яе сёлета не ўрадзілі гуркі.

— Пазыч мне мех гуркоў, — просіць Лявоніха Глушку.

— Навошта табе мех жукоў? — не дачуўшы, атарапела тарашчыць вочы на Лявоніху Глушка.

— Саліць буду, — таксама не ўчула Лявоніха.

— Саліць жукоў?! — жахаецца Глушка.

Даслухаць суседак мне не давялося. Рая пырхнула з-за стала, абліваючыся ўзварам, я — за ёй. На дворы, каля вяргінь, мы смяемся ўволю.

Тры дні, як мы ў вёсцы. Здымаем яблыкі. Маладзяна бачылі адзін раз, здалёк, і ўжо пачалі забываць смешныя байкі пра яго. Але неяк вечарам Лявоніха напомніла нам пра Канцавейку. Было гэта так.

Мы збіраліся на скокі, на вуліцы нас чакалі хлопцы. Лявоніха працадзіла малако, наліла нам па кубку, і крыкнула ў адчыненае акно:

— Ідзіце ў клуб, ухажоры! Сянні ж суд, а не скокі, Маладзяна судзіць будуць.

Рая тут жа адсунула кубак з малаком, цікаўна зірнула на мяне, і тады я папыталася ў Лявоніхі:

— А чаму яго Маладзянам клічуць?

Лявоніха няспешна села побач са мной на канапу, паважна склала "нажніцамі" рукі на каленях і пачала здалёк:

— Прыбірайцеся, а я вам расказваць буду. Сакрэту тут аніякага. Год назад завіталі да мяне з горада на некалькі дзён заяц з дачкой. Захацелася ім з вудай пабоўкацца на возеры, ну, дык і мяне, старую, выцягнулі. Заяц крыху адышоўся, дачка непадалёк ад мяне рыбаліць, а я вогнішча расклала, бульбы напякла, юшкі наварыла. Культурна адпачываем. Ведама, восень, дзень ветраны, пранізлівы. Улезла я ў зяцевы джынсы, на галаву — картуз яго, на нос — чорныя акуляры ад дыму і камароў. Гляджу, клыпае лугам Канцавейка. Цёпленькі-цёпленькі.

— Здароў, малец! — крычыць мне.

— Здароў, здароў, — кажу, — дзе ты так набраўся, Маладзян?

— І табе ўжо ў вушы ўвялі? — прысаджваецца каля вогнішча Лазар.

— Які я табе Маладзян. Лазар я. Канцавейка. З Пірачыч. От, боўтаецца ў галаве, як па-новаму Пірачычы, ну, ды, мухі з імі! Я табе так скажу, малец, яно і ў бабы душа цёплая. Як нашы з табой. Толькі вот язык у бабы — халодны, нібы пуза ў лігашкі. А ўсё таму, што рот без шнуркоў. Во, сядзім мы з табой на лузе, і ніхто нам галаву не дзяўбе, як Лявонішын певень. Была б тут мая Прося, скакалі б мы з табой, быццам бурбалкі ў кацялку. Я хоць ад вучонасці не трашчу, а бабу наскрозь бачу. Вазьмі маю Просю. Трэцяя яна ў мяне. Не паспела кінуць мяне другая, Прося вакол мяне ўюном заюшылася: Лазарка, Лазарка. І ўсё меціць, каб шыю абшчапіць. Так і свярбяць у яе рукі! Учэпіцца і звоніць, ну чыста парожны гляк. Здаўся я, малец. Прыцемкам гайсану цераз плот, нібы маладзян які, а назад, калі пеўні загалосяць. Яно і ладна, пахроп бабе ў плечы, і то ўцеха. А яна сваё мікіціла. Паўсотні ледзь не размяняла, пяткі ад старасці рэпаюцца, а яна мяне ў сельсавет задумала весці. Прычапілася, перапісвай на сваё прозвішча. Галосіць, навошта ты мяне, кветку, стаптаў пры дарозе?.. Яна, кветка! Смех. Я не цвіту, а яна дык і ў семнаццаць не красавала. Нос даўгі, твар рабы, і сама купіна купінай, пад паху ёй хаваюся. "Прося, адумайся, — прашу. — Нас жа засмяюць. Якія мы з табой маладыя?!" Не слухае. Зазлаваў я тады, ніхто яшчэ Лазара Канцавейку з Пірачыч на свой капыл не ставіў. "Будзеш скуголіць, — кажу, — падамся да Параскі." Вось на гэтым, малец, я і папаўся. Бабу бабай запалохаць захацеў. Яны ж, малец, дзеля прыліку, адна на адну касавурацца, а чапані адну, цэлай зграяй на цябе накінуцца. Ніяк з іх еты абшчынны дух не выйдзе. І што ты думаеш? Неяк пасля лазні сiгануў я цераз плот да Просі. Павячэралі. І чарка была, і шкварка. Скінуў боты, а ў самога вочы, быццам хто склеіў, ведама, нацягаўся за дзень з касой. Лёг, як праваліўся. Ды раптам чую праз сон Просін енк. Ядраны такі, быццам на кавалкі яе рэжуць. Хацеў ускочыць — аніяк! У коўдру, бытта немаўляці, скручаны. Не выблытацца. Лыпнуў вачыма па хаце — баб процьма. У, прусачынае насенне! А мая Прося вылузваецца перад імі, галосіць:

— Сястрыцы мае, бярозанькі! Жыла я, квітнела, нікому вока не засціла, сцежкі не замінала, дык знайшоўся супастат Лазарка, зламаў мяне, стаптаў, ссушыў. Хто цяперака на мяне зірне, хто прыгалубіць?

Рукі мае ажно зачасаліся, каб прыгалубіць гэтую квяцінaчку дзягай, але — як? "Кыш, — крычу, — вароны!" А яны мяне пад пахі, і ў сельсавет. З той пары ў маладзянах хаджу. Ад сораму сюды пераехаў, і тут празналі…

Лявоніха змоўкла, загледзелася некуды ў кут. Я зірнула на Раю, яна на здзіўленне, не засмяялася.

— Просю сваю Лазар не кінуў? — парушыла я маўчанне.

— А як жа, кіне! Яна яму малое прывяла.

— Вось дык маладзян! — ухваліла Канцавейку мая сяброўка.

— Не можа ён, каб людзей не смяшыць, — асуджальна сказала Лявоніха, — пайшлі ў ціятру.

…Людзей у калгасным клубе — не прасунуцца. Адчынены дзверы і вокны, страшэнная задуха, але людзі цярпліва сядзяць і чакаюць суда над Лазарам.

За сталом, накрытым чырвоным абрусам, — жанчына гадоў сарака і мужчына няпэўнага ўзросту са стомленым тварам і пакутлівымі вачамі. Ён раз-пораз выцірае лысіну хусцінай, ды глытае маленькімі глыткамі ваду са шклянкі.

— Хвядос! — крычаць з залы, — можа, бутэльку прынесці?

Хвядос у адказ нясмела ўсміхаецца, бачна, што прапанова гэтая яму больш даспадобы, чым таварыскі суд. Пашаптаўшыся з жанчынай, Хвядос узнімаецца:

— Суд параіўся, — ціха гаворыць ён, — параіўся, і…

— Уключы свой мікрафон! — здзекуецца той жа голас.

— А ты стань на маё месца, — зазлаваў Хвядос. — Алены няма, у бальніцы, пачнём без яе. Лазар Канцавейка, лезь на сцэну, калі ты такі артыст, няхай людзі на цябе паглядзяць.

Лазара прасіць доўга не трэба. Ён тут як тут, скочыў на сцэну і гопнуўся за стол суда побач з Хвядосам.

У зале дружна засмяяліся. Хвядос абурана адсунуўся.

— Падсудзімы, — пачуўся ўсё той жа, з'едлівы голас, — ведай сваё месца.

Лазар паслухаўся і разам з крэслам адсеў да самага акна, замахаў перад сваім носам картузом.

— Прыпекла, — пракаментаваў той жа голас.

Хвядос пашкроб пальцам па графіне з вадой, патрабуючы цішыні. Прысутныя сціхлі, слухаючы жанчын.

— Таварышы калгаснікі, таварышы шэфы! Вулкан усім знаёмы?

Па зале пракаціўся няроўны гул перасмешак.

— Якімі б ланцугамі яго не прывязвалі — зрываўся. Заатэхнік замучыўся з ім. На людзей кідаўся.

— Бугай ці заатэхнік? — зацікавіўся знаёмы ўжо голас.

— А тут каля канторы, — не звярнула ўвагі на кпіны жанчына, — якраз супраць акон туалет быў.

— Адны дзверы на дзве кабіны, — дадаў Лазар.

— Неяк пад вечар, — пайшоў па патрэбе старшыня калгаса, а Лазарка як сцярог таго часу, знайшоў бугая і прывёў яго да канторы.

— Хто каго знайшоў, — не згадзіўся Канцавейка.

Прысутныя зарагаталі.

— Ну, вось, — уздыхнула жанчына, — старшыня пык-мык, а тут — бугай. Рогі наставіў, пысу насупіў і капытом зямлю буксуе. Бедны Казіміравіч так да раніцы і праседзеў у туалеце. Страху набраўся! Ледзь варухнецца, Вулкан разгоніцца, ды як бабахне! Дзверы прыйшлося ўвесь час рукой трымаць.

— Слова мае сведка, — абвясціла жанчына.

На сцэне паявіўся, аднекуль з-за шырмы, малады канапаты хлапец. Ён адкашляўся, прыгладзіў чуб.

— Далей было так. Разбудзіў мяне маладзян — і кажа: "Бяжы хутчэй да канторы, старшыня кліча". Прыбег, а там — бугай. Ад страху — таксама туды, зачыніцца няма чым, адзіныя дзверы старшыня трымае і загадвае мне, каб людзей на паратунак клікаў. Няёмка ўспамінаць. На ўсю рэспубліку з нас Канцавейка анекдот зрабіў.

Зала стагнала ад смеху. Раечка — званчэй усіх. Лявоніха таксама, неяк падазрона прыгіналася і церла вочы.

— Лазар, — наставіў палец на Канцавейку Хвядос, — як на духу скажы, чаго ты дасягнуў сваёй нягеглай выхадкай?

Канцавейка паляпаў рукамі па каленях, устаў пакруціў сюды-туды востранькім носам:

— Не выхадка, а выхавальныя меры, — павярнуўся ён да Хвядоса. — Чаго дасягнуў! А то не дасягнуў?! Бугаю адразу ланцуг знайшлі — раз, — Лазар заклаў вялікі палец на левай руце. — Туалет з-пад акон у другое месца перанеслі і дзверы начапілі — два, — Лазар заклаў яшчэ адзін палец. — Заатэхнік у калгасе застаўся, а то быў намыліўся ў сталіцу, цяпер не бяруць — тры, — Лазар заклаў трэці палец і пераможна трасянуў левай рукой.

У зале наступіла напружаная цішыня. Маўчаў нават той чалавек, які дагэтуль столькі выскаляўся. Усім было ясна, што цяпер Лазарка ўліп дык уліп, і чакалі, якое пакаранне вынясе яму таварыскі суд. Суддзі, між тым, пашапталіся, і абвясціць прысуд устаў Хвядос. Ён раскрыў рот і нечакана для ўсіх заверашчаў нейкім непрыемным вісклівым голасам:

— Маладзян ты, маладзян, струк ты гарохавы! Засядаеш! Печ не топлена, карова не доена, дзіця не кормлена!..

Клуб на якую хвіліну анямеў. Сотні вачэй утаропіліся ў Хвядоса, здзіўляючыся неверагоднай перамене яго голасу і таму, як ён лыпае вачыма. Толькі-толькі ў нас накалупнулася здагадка, як раптам праз адчыненае акно чыесьці даволі моцныя рукі ляснулі Канцавейку па патыліцы, потым схапілі за плечы і выцягнулі з клуба.

— Просечка, кветачка, не выдзірай апошнія валасы! — данялося да нас.

Зала ледзь не раскалолася ад смеху. Знаёмы голас абвясціў:

— Прысуд выкананы!

Публікацыя
Алесі САРОТНІК

Працяг тэмы

# Не стары, ды забыты тэатр

Размова пра культурныя прыярытэты нашага грамадства, пра перспектывы эстэтычнага выхавання новых пакаленняў беларусаў, пра набалелыя праблемы ў стасунках музыкантаў, дзеячаў тэатра, педагогаў, бацькоў з дзіцячай і маладзёжнай аўдыторыяй распачалася на старонках "ЛіМа" яшчэ пазалетась — палемічным выступленнем дацэнта кафедры філасофіі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Наталлі Сцепанцовай (гл. артыкул "Ад еўрапейскіх «тусовак» да любаснай правінцыі" ў нумары за 19.09.2008 г.). І тэма не страчвае сваёй актуальнасці: мы адчуваем гэта па тэлефонных водгуках нашых чытачоў, па іх пісьмах, па новых матэрыялах няштатных аўтараў. Не так даўно пад рубрыкай "Працяг тэмы" быў змешчаны ліст чытачкі "ЛіМа" Аляксандры Браценнікавай ("Пажаданні ТЮГу", нумар за 15.01.2010 г.). На яго рэдакцыя атрымала два водгукі, якія мы змясцілі ў "ЛіМе" за 12.02.2010 г. А ў сённяшняй публікацыі наш аўтар-дэбютант закранае зусім іншыя праблемы, звязаныя са сферай тэатральнага выхавання.

Аддзел мастацтваў "ЛіМа"



Вуліца Данілы Сердзіча, дом 5. Што за гэтым, здавалася б, звычайным сталічным адрасам? Пасольства замежнай дзяржавы? Лёдавы палац? Кінатэатр?..

Скіраваўшыся ў арку непадалёк ад тралейбуснага прыпынку "Вуліца Д. Сердзіча", адразу ўбачым той дом і з першага погляду зразумеем, што нічога загадкавага тут няма, што бела-зялёна-жоўты будынак на ўзгорку — гэта школа. Але яна адрозніваецца ад многіх іншых не толькі нумарам. Мінская сярэдняя школа № 136 — тэатральная.

Ужо больш як 20 гадоў нароўні з агульнаадукацыйнымі прадметамі вучні спасцігаюць тут сакрэты акцёрскага майстэрства, сцэнічнай мовы і руху, вакалу і гісторыі тэатра. Імёны шматлікіх яе выпускнікоў ужо даўно, сур'ёзна і надоўга прапісаліся на афішах беларускіх і замежных тэатраў, таму што большасць ушчарашніх школьнікаў, не разважаючы, ідуць, а часам і едуць паступаць у такія знаныя ВНУ, як Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, БДУ культуры і мастацтваў, расійскі ГІТИС, маскоўскія вучылішчы імя Шчукіна, імя Шчэпкіна, Тэатральная акадэмія (Санкт-Пецярбург), Тэатральны каледж у Ізраілі.

Але для таго, каб вучыцца ў нашай тэатральнай школе, зусім не трэба быць вундэркіндам або проста ўжо вядомым талентам. Хаця пэўныя адбор і ўступныя іспыты ў 136-й школе ёсць, але яны не такія і строгія. Вядома, вітаюцца самыя элементарныя акцёрскія дадзеныя: добрая мова, знешняя абаяльнасць. Чым дзіця больш здольнае, мяркуюць педагогі, тым цікавей з ім працаваць, але гэта — зусім не галоўнае. Як і месца жыхарства: некаторыя дзеці жывуць даволі далёка ад школы, у розных раёнах Мінска і нават за горадам.

Тэатральную школу можна лічыць і школай жыцця. Тут усё робіцца па-сапраўднаму, без агляднкі на ўзрост. Штодзённая велізарная праца, бяссонныя ночы, доўгія знясільваючыя рэпетыцыі і пакутлівыя пошукі свайго акцёрскага "я" — вось малая частка таго, што чакае дзяцей у тэатральным класе. Да таго ж, ім даводзіцца нароўні з аднагодкамі засвойваць звычайную агульнаадукацыйную праграму, пісаць кантрольныя і тэсты, займацца на стадыёне, дзяжурыць па класе. Слушная прымаўка: "Мастацтва патрабуе ахвяр". Але, паверце, яно таго вартае!

За гады існавання школы тут было пастаўлена больш як дзесятак спектакляў. Сярод іх — "Заўтра была вайна" паводле аповесці Б. Васільева, "ОБЭЖ" паводле п'есы Браніслава Нушыча, "Птушыны рынак" паводле апавядання В. Токаравай "О том, чего не было", музычны спектакль "А ў нас у двары", музычна-паэтычны спектакль "У імя загінулых і жывых", прысвечаны 60-годдзю Вялікай Перамогі, "Іграем Валодзіна" паводле яго п'есы "С любимыми не расставайтесь", "Вельмі простая гісторыя" паводле М. Ладо…

Прэм'ера паэтычнага спектакля паводле твораў А. Пушкіна і пра А. Пушкіна "Встречи с Пушкиным" адбылася пры канцы снежня 2009 года. Рэжысёр і сцэнарыст — выкладчык акцёрскага майстэрства і сцэнічнай мовы Інеса Дубок. Інеса Якаўлеўна прыгадвае, як нарадзілася ідэя стварэння гэтага спектакля: "Напэўна, усе памятаюць, што летась з дня нараджэння Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна споўнілася 210 гадоў. Вядома, я не магла абмінуць такую дату і вырашыла, што наступная прэм'ера ў нашай школе будзе абавязкова пра Пушкіна. На форму спектакля паўплываў той факт, што дзеці вельмі мала ведаюць пра Пушкіна. Зразумеўшы, што яны не памятаюць элементарных рэчаў — хто такая Арына Радзівонаўна, Наталля Мікалаеўна Ганчарова, Дантэс, — падумала: спектакль павінен быць у першую чаргу інфарматыўны, дзе асвятляліся б нават хрэстаматыйныя факты, але пададзеныя вельмі прыгожа, па-мастацку і цікава. Спачатку з'явілася ідэя стварэння грандыёзнага агульнашкольнага спектакля з удзелам усіх тэатральных класаў і педагогаў па спецыяльных дысцыплінах. Але рэальна я змагла далучыць да гэтай працы два класы: 11 і 9, а ў далейшым усю нагрузку прынялі на сябе толькі выпускнікі".

Унікальнасць спектакля ў тым, што ён аб'ядноўвае ў сабе і публіцыстыку пра Пушкіна, і творы вялікага паэта. У пастаноўцы былі выкарыстаныя вершы і музыка, складзеныя юнымі артыстамі. Больш як тры з паловай гадзіны доўжылася прэм'ера, а цікавасць ды бурныя авацыі гледачоў сталіся лепшай узнагародай юным "пушкіністам".

Аднак, авацыі авацыямі, але прозу жыцця забываць не варта. А яна такая: за ўсё трэба плаціць. Рэквізіт, касцюмы — усё сваімі рукамі і за свае грошы. Мастацтва патрабуе ахвяр? Так. Але няўжо такіх?

А яшчэ для развіцця творчых навыкаў дзецям ніяк нельга варыцца ва ўласным соку. Трэба ўдзельнічаць у конкурсах, ездзіць на фэсты. На жаль, з-за вядомых фінансавых праблем атрымоўваецца гэта вельмі рэдка.

У школе ёсць утульны вучэбны тэатр. Але ў ім толькі 60 месцаў. А значыць, вынік працы, якой клас аддаў цэлы год, убачыла вельмі абмежаванае кола людзей. Дык чаму б ТЮГу, дзе неўзабаве будуць новая выдатная сцэна, добрая зала, або Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў не ўзяць шэфства над 136-й школай? Пакуль жа, на жаль, у педагогаў і вучняў часам узнікае зусім не творчае сумненне: "А ці трэба гэта наогул каму-небудзь?".

Безумоўна, усе разумеюць, што не ўсё ў нашым свеце вырашаецца проста. За кожную мару і жаданне трэба змагацца. Але якая карысць, калі ўсе будуць не займацца вырашэннем праблемы, а рабіць выгляд, што яе няма? Стварыць адметнае так нялроста, а вось разбурыць культурныя набыткі, страціць дасягнутае можна ў адно імгненне. Я шчыра спадзяюся, што сітуацыя і настрой у школьных тэатралаў неўзабаве зменяцца.

Кірыла ПУЧЫК,
вучань 11 «Т» класа
СШ № 136 г. Мінска

На здымку: сцэна спектакля "Встречи с Пушкиным".

Фота аўтара



# Сярод карцін і кніг

Увесь музычны свет адзначае сёлета 200-годдзе з дня нараджэння Фрыдэрыка Шапэна. Ушаноўваючы памяць вялікага музыканта, барысаўчане наладзілі ў памяшканні мастацкай галерэі "З'ява" Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Х. Каладзеева літаратурна-музычную вечарыну. У ёй узялі ўдзел выкладчыкі і навучэнцы дзіцячай музычнай школы горада, бібліятэкары залы мастацтваў і супрацоўнікі аддзела культуры Барысаўскага райвыканкама.

"Ёсць дзве рэчы, якія могуць выратаваць ад суму і адчаю: гэта літаратура і музыка, — з такіх слоў пачала вечарыну бібліятэкар Наталля Шацерка. — Сёння вы сустрэнецеся з тым, пра каго сучаснікі пісалі: "Шапкі долу — перад вамі геній" (Шуман); "Шапэн — гэта бард, рапсод, дух, душа фартэпіяна" (Рубінштэйн)". Аматары класічнай музыкі, якія прыйшлі ў галерэю паслухаць творы геніяльнага кампазітара і расповед пра яго, маглі набыць не толькі музыкай, але і ўражаннямі ад карцін барысаўскага мастака Барыса Цатурава, чыя выстаўка праходзіць там. Пра жыццё і творчасць Фрыдэрыка Шапэна распавяла выкладчык Барысаўскай ДМШ Наталля Гаўрылава, бессмяротныя мазуркі, вальсы, накцюрны, эцюды прагучалі ў выкананні магістра музыкі Вікторыі Басацкай і вучня ДМШ, удзельніка рэспубліканскіх алімпіяд Аліка Балагазяна.

Была разгорнута і кніжная экспазіцыя, прысвечаная выдатнаму кампазітару і піяністу. Усе гэтыя кнігі знаходзяцца ў зале мастацтваў бібліятэкі нашага горада.

Анатоль МАЗГОЎ
г. Барысаў

На здымку: іграе Вікторыя Басацкая.

Фота аўтара

Гліна, вада і агонь... Тры адвечныя і нязменныя складнікі традыцыйнага беларускага промыслу і традыцыйнага нацыянальнага мастацтва. Гліна, вада і агонь — тры стаўпы, жыццёвая аснова спрадвечнага для многіх народаў ганчарнага рамяства і сучаснай мастацкай керамікі. Ды ёсць яшчэ і няўгледны творчы складнік. Наколькі ён уплывовы? Вядома, да пачатку XXI стагоддзя "абагульненае аблічча" традыцыйнай беларускай керамікі мянялася, фантазіі мастакоў і развіццё новых тэхналогій пакідалі на ім гэтак званы крэатыўны адбітак. Але ці мажліва ў старажытнай галіне творчасці сказаць нешта прынцыпова новае сёння, ці здатны сучасны кераміст здзівіць спанатранага знаўцу мастацтва нейкім адкрыццём? Такое пытанне страчвае ўсялякі сэнс, калі гаворка ідзе пра мастакоў-керамістаў Калтыгіных: знакамітага бацьку, лаўрэата спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за 2009 год Валерыя Калтыгіна і яго паспяховага сына Максіма.





Валерый Калтыгін "Каін і Авель".

# Глінапіс

## Біблейская мудрасць мастацкай керамікі







Валерый Калтыгін — з керамічных серый "З правінцыйнага быцця" і "У кожнага свой крыж"; Максім Калтыгін "Ной і тры сыны".

### «Арт-Жыжаль»

Жыжаль, паводле беларускай міфалогіі, — бог агню ў хатняй печы, у горнах каваля ды ганчара, сімвал творчага полымя. Гэтая няўгледная істота з'яўляецца штолета ў маляўнічым кутку на Бабруйшчыне, паблізу ціхай Бярэзіны, і збірае вакол сябе мастакоў-керамістаў. Яны едуць сюды з Балгарыі, Латвіі, Малдовы, Польшчы, Расіі, Румыніі, Украіны... Працуюць поруч з беларускімі калегамі амаль месяц, апантаныя ідэяй яднання мастака з прыродай, захопленыя мажлівасцю папрацаваць з глінай на адкрытым паветры, у магічным коле жывога агню. Іх творчыя пошукі звязаныя з тэхналогіяй г. зв. перарванага абпалу, дзе ўсё трымаецца на невытлумачальным "ледзь-ледзь", што дае непаўторныя дэкаратыўныя эфекты. А потым лепшыя з гэтых многіх дзесяткаў унікальных рукатворных цудаў напаўняюць прыгажосцю і вобразнасцю, цеплынёй і магутнай энергіяй прастору выставачнай залы. І здзіўляюць невычэрпнасцю фантазіі, дасціпнасцю, майстэрствам керамістаў.

"Арт-Жыжаль", міжнародны пленэр па кераміцы, праводзіцца з 2003 г. дзякуючы ініцыятыве старшыні Бабруйскай гарадской арганізацыі Беларускага саюза мастакоў Валерыя Калтыгіна, пад яго кіраўніцтвам, пры яго чынным удзеле. Калі пяць гадоў таму сталічная мастацкая галерэя "Універсітэт культуры" зладкавала выстаўку работ удзельнікаў II міжнароднага пленэру "Арт-Жыжаль" (з паказам ілюстраванай насценгазеты — захапляльнай хронікі гарачага жыцця і амаль бесперапыннага, цяжкага фізічна, мастацкага працэсу ля полымя), імя гэтага выдатнага майстра, педагога, арганізатара было вядомае пераважна ў асяроддзі калег. Уражаныя прафесійным узроўнем і вынікамі творчых акцый на Бабруйшчыне наведнікі выстаўкі загаварылі пра тое, што ў мастацтвае не бывае перыферыі, што бабруйчанін Валерый Калтыгін вызначыўся як таленавіты і аўтарытэтны лідэр у сваёй сферы далёка за межамі Беларусі, што яго майстэрства перасягнула еўрапейскую вышыню...

Вынікі такіх пленэраў цяпер штогод экспануюцца ў розных выставачных залах сталіцы. Пры канцы 2009-га былі яны прадстаўленыя і на Першай трыенале беларускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, падчас абмеркавання якой В. Калтыгін пераканана гаварыў: "Пленэр пад Бабруйскам — гэта адхланне для керамістаў. Эгаістам і тым, хто асабліва не рызыкуе, прытрымліваецца аднастайных напрацовак (а значыць, паціху старэе), няма чаго рабіць на пленэры. "Арт-Жыжаль" — гэта экстрым, экспромт, эксперымент і эксклюзіў... Мы не прэтэндуем на высокі ўзровень, працуем у палявых умовах, бывае — пад залевай, у процістаянні мноству іншых праблем, да знясілення. Але ўсё мастацтва і развіваецца на аснове эксперыменту: калі няма спроб, памылак, рызыкі — нічога не будзе".

### Свой крыж Валерыя Калтыгіна

Падумаць толькі, якія метамарфозы зведала мяккая і крохкая гліна з таго часу, як аднойчы апынулася ў руках чалавека кемлівага і творчага! Міналі стагоддзі, тысячагоддзі, а падручны і паслухмяны прыродны матэрыял быў, як і раней, запатрабаваны ў вытворчасці функцыянальных рэчаў. Нават у нашага сучасніка словазлучэнне "мастацкая кераміка" выклікае асацыяцыі найперш з нейкай пасудзінай — гляком, дэкаратыўнай талеркай ці вазачкай. Або цацкай-сувенірам. Але бачыш творы Валерыя Калтыгіна — і забываешся на стэрэатыпы і ўмоўнасці відавых ці жанравых азначэнняў. Гэта Высокае Мастацтва, якое захапляе не толькі бясконца разнастайнай і віртуознай фарматворчасцю, вынаходлівай варыятыўнасцю дэкору, пазнавальнасцю аўтарскага почырку, але — найперш! — глыбінёй шматграннай індывідуальнасці самога творцы, спакроўленага з роднай глебай.

Кераміка можа быць інтэлектуальнай. Філасофскай. Вытанчана пачуццёвай. Легендарны міфатворца В. Калтыгін яшчэ раз пераканаў у гэтым, прадставіўшы на нядаўняй выстаўцы ў галерэі "Універсітэт культуры", сярод іншага, тэматычныя серыі "У кожнага свой крыж", "З правінцыйнага быцця", "Ню", "Скрыжаванні". Побач з гэтымі глінапіснымі карцінамі, якія ўражваюць назіральнасцю і гумарам, глыбінёй абагульнення, трапнасцю псіхалагічных характарыстык, пераканальным увасабленнем жыццёвых тыпажоў, экспанаваліся мудрыя, "незямныя", але чалавечныя, дасціпныя сюжэты з графічнай серыі "Анёлы ў горадзе".

З разваг В. Калтыгіна пра канцэпцыю гэтага выставачнага праекта: "У кожнага свой крыж. У кожнага свае жыццёвыя скрыжаванні. Той, хто нешта хоча выказаць у мастацтве, заўсёды імкнецца асэнсаваць працэс сваёй творчай працы, а значыць, здзейсніць аналітычны агляд, зразумець самога сябе як пачатак і канец суб'ектыўнага свету, таго спектакля, дзе ты і стваральнік, і дзейная асоба адначасова... Скрыжаванні. Мы аплеценыя і працятыя струменямі і рухамі сваіх і чужых жарсцяў, памкненняў, думак, пачуццяў, дзеянняў... Мы заўсёды на скрыжаваннях і ў спалучэннях роздуму пра жыццё сваё і чужое. Мы заўсёды перад прыняццем рашэнняў, перад выбарам напрамкаў шляху, змен, пераўтварэнняў... Крыж. Класічны прынцып скрыжавання, вось каардынат, сімвал узроўню еднасці хрысціяніна з Богам. Крыж — як сімвал чалавечага жыцця: гарызанталь нашага фізічнага існавання перасекнута вертыкаллю памкненняў душы да спасціжэння сэнсу быцця, асэнсавання нашага зямнога існавання... Скрыжаванне — повязь з навакольным светам, з прыродай, з жыццёвым асяроддзем, аднаго з адным, мужчыны з жанчынай, сучаснага з мінулым і будучыняй, з памяццю пра продкаў і гісторыю; гэта мы і наша сумленне.... Прааналізаваўшы неяк сваю творчасць, я прыйшоў да высновы, што ўвесь час знаходжуся на скрыжаваннях..."

### Запаветы паводле Максіма

Як ні дзіўна, праект Калтыгіна-старэйшага "Скрыжаванні" быў прадстаўлены ў межах першага вернісажа яго сына. Выстаўка дэкаратыўных скульптур маладога кераміста Максіма Калтыгіна. "Testamentum" (ад лацінскага "запавет") выклікала ў наведнікаў галерэі не меншае захапленне, чым работы яго знакамітага бацькі. Паводле слоў М. Калтыгіна, яго мэтай было стварэнне серыі керамічнай дэкаратыўнай пластыкі малых формаў пад назвай "Біблія: Стары і Новы Запаветы" з наступнай перадачай часткі работ Рэспубліканскай псіхіятрычнай бальніцы, дому-інтэрнату для дзяцей-інвалідаў, праваслаўнаму Свята-Елізавецінскаму манастыру. Працуючы над праектам, ён вывучаў літаратурныя крыніцы, тлумачэнні Святога Пісання; новая інфармацыя пашырыла ранейшыя веды. Досвед маладога мастака ўвасобіўся ў серыю работ, натхнёных паглыбленнем у падзеі Старога і Новага Запаветаў, у хрысціянскую сімволіку, вывучэннем жыцій святых. Сярод такіх твораў — "Дрэва", "Ной і трое сыноў", "Плод", "Стоўпатварэнне", "Гранат", "Св. Юрый — змеяборца". А побач — іншыя работы апошніх сямі гадоў...

Старэйшыя калегі шчыра віншавалі Максіма Калтыгіна з выстаўкай і прызнаваліся, што дасканаласці работ маладога мастака могуць пазайздросціць сталыя майстры, бо ён узняўся на творчую вышыню, дасягнуў манументальнасці ў стварэнні сваіх незвычайных скульптурных вобразаў. Мастацтвазнаўцы віталі М. Калтыгіна за тое, што ён, следам за бацькам, вывеў на першы план менавіта эстэтычную функцыю керамікі, але прытым здолеў спраўдзіцца як ні да кога не падобны, самастойны, самакаштоўны творца...

Днямі Нацыянальная бібліятэка Беларусі наладзіла міжнародны вернісаж нацюрморта "Ціхае жыццё". З мастацкімі фота, жывапісам, графічнымі аркушамі тут арганічна спалучыліся творы Валерыя ды Максіма Калтыгіных, іх замежных калег. "Як малеча пачынае спасцігаць свет праз тыя прадметы, што знаходзяцца побач, так і кожны мастак пачынае спасцігаць свет свайго рамяства праз простыя прадметы. Прынамсі, керамісты пачынаюць з таго, што лепяць сасуды. А потым пераходзяць да ўвасаблення нейкіх значных тэм і вобразаў, звяртаючы ўвагу на філасофскі аспект прадметнага свету, на магчымасць перадаць свае адносіны да існага, асэнсоўваючы "ціхае жыццё" навакольных рэчаў — з іх стасункамі, дыялогамі, дамінантамі. Колькі розных выяў у жыцці, і праз іх, праз гэты прадметны свет мы выходзім на бясконцы шлях пазнання", — так мяркуе Валерый Калтыгін.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

Фота аўтара







Валерый Калтыгін — з графічнай серыі "Анёлы ў горадзе", работа з серыі "Ню"; Максім Калтыгін "Гранат".

Нарадзіўся Валерый Калтыгін у мястэчку Антопаль Драгічынскага раёна. Скончыў аддзяленне керамікі мастацкага ГПТВ № 15 г. Бабруйска, Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (цяпер Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў). Больш як 30 гадоў выстаўляецца ў краіне і за мяжой. Удзельнік міжнародных сімпозіумаў па кераміцы на Украіне, арганізатар і кіраўнік пленэраў па кераміцы ў Беларусі. Работы захоўваюцца ў айчынных і замежных музеях, у прыватных калекцыях. Яго творчасць прадстаўлена ў кнізе І. Елатомцавай "Шэдэўры сусветнай керамікі". Спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь выкладчык Бабруйскай дзіцячай мастацкай школы імя У. Дамарада В. Калтыгін адзначаны за захаванне і развіццё традыцый народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, арганізацыю міжнародных пленэраў і актыўную выставачную дзейнасць.
Максім Калтыгін у 1993 г. набыў спецыяльнасць мастака-дэкаратара ў Бабруйскім вучылішчы, затым скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага дзяржаўнага універсітэта і Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў.
Член Беларускага саюза мастакоў. Жыве ў Мінску.

# Удалечыні, на мове сэрца

## Гутарка з беларускай пісьменніцай у Канадзе Ірынай Варабей

— Дзесяць гадоў таму вы пакінулі сімвалічнае радаводнае гняздоўе на Чэрвеньшчыне, цёплыя закуткі мінскага побыту. І вось выпускніца філалагічнага факультэта БДУ (аддзяленне беларускай і рускай мовы і літаратуры) піша ў канадскім горадзе Таронта: "Гэта ж трэба было апынуцца на іншым канцы свету, каб менавіта тут і загаварыць па-беларуску!" Якія ж асаблівасці вашага пераходу з мовы хлеба на мову сэрца?

— Беларуская мова ніводнага дня для мяне не была — і не ёсць цяпер — мовай хлеба. Тут такая справа: у юнацтве я актыўна займалася спортам (была нават неяк у зборнай Беларусі), і ўжо, пакуль вучылася на пятым курсе, пачала працаваць трэнерам. І пасля заканчэння так і працягнула трэнерства аж на 14 гадкоў. ...А там, ведаеце, быў далёка не беларускамоўны асяродак.

Свае стасункі з дзяржаўнай філалогіяй я апісала ва "Упартасці кветак".

— На сённяшні дзень, спадарыня Ірына, у Канадзе жыве ці не 100 тысяч з амаль 5 мільёнаў нашых суайчыннікаў, якія знаходзяцца па-за межамі Рэспублікі Беларусь. Нехта з паяздджанаў шчыльна зачыняе за сабой этнічныя дзверы, нехта пакутуе ад настальгіі. Чаму турботы пра надзённы хлеб не згасілі ў вас жадання знайсці тое "залатое вядзерца", у якім знайшлося б і натхненне, і выпраменьванне наканаванасці лёсу?

— Вы, здаецца, і самі разумееце, што ўжо далі адказ на гэтае пытанне. Варта адно яго перафразіраваць: менавіта "залатое вядзерца" й не дало турботам пра надзённы хлеб згасіць — а больш за тое распаліла — той творчы патэнцыял, які надзяліла мяне мая бацькаўшчына. Ведаеце, я тут, сярод "старой" эміграцыі пачула выраз, які мне падаецца найбольш блізкім: "Мне баліць Беларусь".

— Дзіўлюся вашай апантанасці. Што раней сыходзіла на вас з нябёсаў: уменне ствараць уражлівы фотакадр, вышываць, пісаць прозу і вершы?

— Гледзячы, пра які перыяд жыцця вы пытаецеся. У юнацтве я пісала і прозу, і вершы ("хто ж не піша ў дзевятнаццаць год?"), але ўсё пад падушку, яны і цяпер там ляжаць. Вышываць я пачала ў восем гадоў, нават спрабавала свае схемкі рабіць. Але потым усё зноў жа лягло пад падушку, бо ўсе мы кінуліся ў вязанне, гэта было больш практычна. Але вышываць марыла праз усе гады. Нават калі ў Канаду ехала, думала: вышываць буду, дызайны рабіць. А фатаграфія… Мой бацька быў прафесійным фатографам-журналістам, ён і даваў мне першыя ўрокі. І я вось была гордай уладальніцай славутай "Змены-8М". Далей сямейных альбомаў, праўда, не пайшло.

Ну, а ў Канадзе... Тут ужо ўсё неяк разам навалілася.

— Ацэнкай вашага прафесіяналізму можна лічыць і выданне арыгінальных кніг. Але адна справа выдаваць кнігі ўласных тэкстаў (згадаем кніжку "Там, дзе сэрца маё"). А ці не цяжэй займацца перакладамі, у вашым выпадку — на англійскую мову? Згучала ж у вас па-англійску і "Найвышэйшая песня Саламона". Зрабілі вы і пераклад кнігі Кастуся Акулы "Заўтра ёсць учора", якая лічылася бестселерам у англамоўных чытачоў. Дапамагло дабраславенне аўтара?



— Я, разумееце, лінгвіст па сваёй прыродзе. А пераклады — гэта такая гульня лінгвіста. Я ўвесь час у яе гуляю...

Ці дапамагло дабраславенне Кастуся? Напэўна. Я думаю, Гасподзь нездарма нас звёў разам і даў нам некалькі гадоў сумоў'я. Мы былі патрэбныя адно аднаму. Для мяне — ягоны добры літаратурны досвед. Яму – суразмоўца ды аднадумца. Я ўсцешваюся думкай, што, напэўна, дала яму такое неацэннае пачуццё несамотнасці ў апошнія гады ягонага доўгага жыцця.

— Сёлета выходзіць ваша новая кніга перакладаў — "Легенды Ванкувера" канадскай індзеянкі Паўлін Джонсан (Тэкеянўакей). Для беларусаў — экзотыка? А чым растлумачыць такую прыхільнасць: спачуваннем да рэзервацыйнага лёсу індзейцаў у Канадзе ці ўласнай гаркотай, што і родную літаратуру мала ведаюць у свеце?

— Для беларусаў індзейская літаратура — і экзотыка, і не. Нашае пакаленне выгадавалася на амерыканскіх ды дэфаўскіх вэстэрнах: і фільмах, і кнігах. Хто такія індзейцы, ведаем. Але мы ведаем тое, што пра іх расказалі белыя. А вось тое, што пра сябе ды пра свет расказваюць самі індзейцы — гэта, сапраўды, упершыню. А я з дзяцінства (зноў жа) была апантаная індзейцамі (некаторыя дзіцячыя малюнкі мае нават дасёння захаваліся), але мяне страшэнна засмучала, што нідзе не магла знайсці кніжкі, дзе можна было б даведацца пра іх лад жыцця ды светапогляд да таго часу, як з'явіліся белыя. Вось цяпер у Канадзе знайшла. Хочацца падзяліцца з суайчыннікамі.

А наконт спачування "рэзервацыйнаму лёсу" — гэта, як моладзь кажа, крута. Бо крыху перакручана. Калі вы прачытаеце біяграфію аўтаркі "Легендаў Ванкувера" Паўліны Джонсан — дык, бадай, і пазайздросціце гэтаму лёсу. "Рэзервацыя" — гэта ад англійскага "reserve" — "захаваць", "зберагчы", "назапасіць на будучыню" — нешта кшталту запаведніка.

— Вы супрацоўнічаеце з канадскімі дызайнерамі, у таронтаўскай гільдыі вышывальніц займаецеся і вышыўкай, і аднаўленнем старажытнага беларускага арнамента, даследуеце яго семантыку. Ці ёсць сугучча ў канадскіх і нашых "мацерыковых" узорах? Растлумачце мне, калі ласка, даляглядыі памяці продкаў на маіх асабістых рэліквіях. Так на ручніку-абярэгу Парaскі Белавус з-пад Дзісны бачу выявы Берагіні, Вясны-Лады — памяць русалляў з XI — XII стагоддзяў. Ніжэй — ідыяграма вады, знак з эпохі неаліту. А на палавіку (ходніку), які выткала Ядзвіння з той жа гістарычнай Дзісеншчыны, — ромб, унутры якога ўтканы белы чатырохкутнік як замова: поле маё будзе засеяна. Па баках ромба знакі, якія гітлераўцы ставілі на свае танкі і самалёты. Вось вам арыйская тэма ў палярных выяўленнях. А як вам падабаюцца "палёты" выявы ўзору "дзянніца" з вострава Кіпр на нашы саматканых посцілкі? У Латвіі гэты ж узор называюць так: аўсэкліс (ранішняя зорка).



— Сугуччы ва ўзорах і сімвалах можна знайсці па ўсёй планеце. Так, наш узор "Грамабою" вельмі пашыраны і ў канадыйскіх індзейцаў, і ў штатаўскіх. І ён у іх азначае стралу. Але вельмі шмат аднолькавых з беларускімі я знайшла ўзораў у народаў Цэнтральнай Амерыкі.

Тое, што нашыя беларускія ўзоры узыходзяць да эпохі арыяў, — гэта ўжо, здаецца, відавочна.

— Пратуберанцы вашых зацікаўленняў сягаюць і да Беларускага Інстытута навукі і мастацтва (БІНіМ), дзе вы выконваеце абавязкі сакратара. Відаць, частка грамадскай працы аддаецца і на Згуртаванне беларусаў Канады. …А ёсць жа яшчэ Грамадска-рэлігійны цэнтр пры царкве св. Кірылы Тураўскага. Ёсць гурт "Яваровыя людзі", Цэнтр адпачынку "Слуцак"... Без напаўнення творчай энергіяй, у тым ліку і вашай, ніводны асяродак працаваць не будзе. Не шкадуеце часу?

— Шкадую. Менавіта таму канчаткова і адышла ад усіх грамадскіх спраў. Шкадую часу нават на побыт, на сяброў, нават цяпер ужо, на жаль, і на кнігі.

— Вычытаў у вашых тэкстах: "Любоў у абдымках Хлусні становіцца ільдом". Шматзначны афарызм. Прыходзілася змагацца з такім абледзяненнем?

— Не ведаю, як змагацца, а ўжо ж мець справу з "Хлуснёй" ды абледзяненнем даводзілася кожнаму. Гэты афарызм спарадзіўся ў мяне адмыслова ў кантэксце майго апавядання "Брат родны. Брат малочны". Там шмат такіх вобразаў, ілюзій.

— Якая тэмпература зносін між рознымі групоўкамі суайчыннікаў? Ці даюць пра сябе знаць паэты Ірына Лойка, Фелікс Аксёнцаў? Хто з сяброў трымаецца за вашае "залатое вядзерца"?

— Літаратурны асяродак у мяне невялікі, то праўда. Быў Кастусь Акула. Мая сяброўка Ірына Аксёнава (мы разам прыехалі ў Канаду). Сын. Але багата натхнення маю ад сваіх сяброўак у Таронтаўскай гільдыі вышывальніц. Яны шмат дапамагаюць мне знайсці свой шлях. З фатографамі стасуюся выключна ў Інтэрнеце.

— Калісьці магіляўчанін Мікалай Судзілоўскі-Русель выступаў у абарону індзейцаў Новага Свету, пры яго дапамозе былі створаны калоніі палітэмігрантаў у знаёмым вам Ванкуверы. Люблю згадваць паралелі і мерыдыяны, на якіх вісяць званочкі беларускай прысутнасці. Зычу і вам, спадарыня Ірына, прадаўжаць дыфузію культур, ствараць свой непераўзыдзены ўзор на палатне жыцця. І хай залатое вядзерца не перакуліцца: ні там, дзе сэрца ваша, ні там, дзе гняздзечка выраю.

Гутарыў Сяргей ПАНІЗНІК

На здымках: вышыванкі Ірыны Варабей.

Фота аўтара






# Дыяспара яркіх асоб

**Не так даўно завітаў да мяне Хведар Апанасавіч Барсукоў, які жыве ў сталіцы Рэспублікі Комі — горадзе Сыктыўкары. Карэнны беларус нарэшце змог наведаць родныя мясціны, прыехаць да родзічаў у вёску Баркалабава на Быхаўшчыне, дзе ў старажытнасці быў напісаны славуты Баркалабаўскі летапіс. З гэтай вёскі ў 1960-м Барсукоў і адправіўся на Поўнач, да цёткі па бацькоўскай лініі, шукаць сваё шчасце. Беларусаў там хапала, асабліва з тых жахлівых 1930-х гадоў, з пары палітычных рэпрэсій.**

Юнаку, дзякуй Богу, гэтага паспытаць не давялося і ягоны лёс складваўся даволі ўдала. Папрацаваўшы трактарыстам на авіяцыйным прадпрыемстве, пайшоў служыць у Савецкую Армію, а пасля дэмабілізацыі, як толькі скончыў курсы авіямеханікаў, парэкамендаваў працоўны калектыў свайго маладога механіка ў органы ўнутраных спраў. Але гэтаму патрэбна было вучыцца, таму і паступіў у Ленінградскую сярэднюю школу міліцыі. Пасля яе паспяховага заканчэння атрымаў прызначэнне на пасаду старшага оперупаўнаважанага крымінальнага вышуку Кайгародскага раёна, дзе адслужыў пяць гадоў. Пра яго тады пісалі газеты, яго ўзнагароджвалі. За што?

За мужнасць і сумленнасць, якія праяўляў маёр міліцыі Барсукоў, як падчас службы ў райаддзеле, так і ў Міністэрстве ўнутраных спраў, адкуль і пайшоў на заслужаны адпачынак. Але не змог сядзець без справы: прыняў актыўны ўдзел у грамадскай рабоце, якую вяла нацыянальна-культурная аўтаномія "Беларусь" у Рэспубліцы Комі.

Беларуская дыяспара ў Рэспубліцы Комі — адна з самых шматлікіх.

— Згодна з перапісам насельніцтва рэспублікі, у Комі АССР напярэдадні развалу Савецкага Саюза пражывала каля 27 тысяч беларусаў, а па перапісе 2002 года засталося ўжо крыху болей як 15 тысяч маіх суайчыннікаў, — удакладняе Хведар Апанасавіч. — Цяпер, напэўна, яшчэ меней, але кажуць, што ўсё роўна беларусы па колькасці — на пятым месцы пасля расіян, комі, украінцаў, татараў. І на першым месцы — па колькасці людзей з вышэйшай адукацыяй сярод іншых нацыянальнасцей, — з гонарам дадае ён.

Пра многія цікавыя факты з жыцця беларускай дыяспары ў Рэспубліцы Комі можна прачытаць у даволі аб'ёмнай кнізе "След на северной земле", якую мой суразмоўца пакінуў у цэнтральнай раённай бібліятэцы з надпісам: "Любімаму раёну ад ураджэнца вёскі Баркалабава Барсукова Фёдара Афанасьевіча — пра беларусаў Поўначы".

Дакладней, пра беларусаў, якія ўнеслі найбольш важкі ўклад у развіццё эканомікі, культуры і адукацыі Рэспублікі Комі. У ліку яркіх асоб — Героі Савецкага Саюза М. Байкоў і М. Давідовіч, Герой Сацыялістычнай Працы І. Сямёнаў, кампазітар М. Клаус, народны артыст рэспублікі А. Ізмалкаў, многія іншыя беларусы.

Узначальвае беларускую дыяспару ўраджэнец Шклоўскага раёна А. Крупенька, які разам з ураджэнцам Крычаўшыны журналістам і пісьменнікам М. Курачкіным з'яўляюцца складальнікамі вышэйназванай кнігі, аўтарамі большасці апублікаванага ў ёй.

У гэтым па-свойму унікальным выданні, якое цяпер ёсць не толькі ў раённай бібліятэцы, а і ў Баркалабаўскіх сельскай і школьнай бібліятэках, можна з задавальненнем таксама пачытаць паэзію, прозу, гумар і сатыру беларусаў паўночнага краю братняй нам Расіі. Ёсць там і вершы магіляўчаніна, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі І. Пехцерава, які доўгі час жыў і працаваў журналістам на той далёкай зямлі.

Мой госць цікава, але з непадробным смуткам распавядае пра жыццё беларускай дыяспары, пра тое, што з яе актывам некалькі год таму сустракаўся Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка, пра тое, што беларусы Поўначы заўсёды памятаюць сваю Радзіму, берагуць яе гонар, шануюць нацыянальную культуру, традыцыі. І я выдатна разумею свайго земляка.

Мікола ЛЕЎЧАНКА

Паласу падрыхтавалі доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Адам Мальдзіс і кандыдат філалагічных навук Жанна Запартыка.

Паэт, пісьменнік на дыпламатычнай службе — гэта заўсёды выклікае пэўныя параўнанні, штурхае да многіх развагі. Калі нават не зазіраць у далёкія — і часава, і па адлегласці — прыклады, а ўзгадаць толькі імёны літаратараў постсавецкай прасторы ў "пасольскіх мундзірах" — і гэта падштурхне да многіх асацыяцый… Чынгіз Айтматаў, Алжас Сулейменаў, Раман Лубкіўскі…

У выпадку з паэтам, перакладчыкам, публіцыстам, літаратуразнаўцам, доктарам філалагічных навук Раулем Чылачава дык і ўвогуле ўсё шмат цікавей: грузінскі пісьменнік, які даўно жыве ва Украіне, з'яўляецца Паўнамоцным і Надзвычайным Паслом Украіны ў Латвійскай Рэспубліцы… Але ж пра тое, як усё гэтае шматаблічча ўмяшчаецца ў адной асобе, і пойдзе наша размова.

# Нашы галовы — на нашых плячах!..

— Некалькі гадоў назад, спадар Рауль, вы прадставілі сваё бачанне паэзіі і асобы Яніса Райніса ў кнізе "Трохкаляровае сонца" на трох мовах — латышскай, украінскай, грузінскай. Чаму выбар выпаў менавіта на Райніса? Наколькі яго паэзія болей выразная ў такім моўным трыадзінстве? Для якога чытача вы стваралі гэтую кнігу?

— Пра гэта я напісаў у прадмове да выдання. Ёсць там наступныя радкі: "Для мяне Райніс быў увасабленнем Латвіі яшчэ са студэнцкіх гадоў, калі ўпершыню прачытаў грузінскія пераклады гэтага выдатнага паэта. Пасля было знаёмства з украінскімі і рускімі перакладамі яго вершаў, дзякуючы якім у маіх вачах паступова сфарміраваўся вобраз выкшталцонага еўрапейскага паэта-інтэлектуала, які ў сваёй творчасці наўздзіў дакладна і яскрава ўвасобіў духоўную энергію і своеасаблівае светабачанне латышскага народа.

Так здарылася, што апошнім часам лёс рэзка павярнуў маё жыццё, і зусім нечакана для сябе я аказаўся на службе ў Латвіі. Першай творчай задумай, якая ўзнікла тут, натуральна, і стала жаданне глыбей спасцігнуць і перакласці на грузінскую мову творы Райніса. Пасля, дакрануўшыся да жыццяпісу геніяльнага мастака, даведаўся, што ён не быў адзінокі і што жыццё яго ўпрыгожвала вялікая паэтэса Аспазія...

Як амбасадар Украіны ў Латвіі, я не мог абысці ўкраінскую мову (якой, між іншым, як літаратар, карыстаюся вось ужо сорак гадоў), а як грузінскі паэт і перакладчык — не мог зняважыць, занядбаць родную мову. Так нарадзілася ідэя трохмоўнага зборніка слаўнай латышскай пары…"

Моўнае суседства ў кнізе на самай справе выявілася нечаканкай, але, мяркую, было ў галоўным і натуральным, бо пераклады на грузінскую і ўкраінскую былі выкананы адным і тым жа паэтам. Шкада толькі, што ўсе гэтыя тэксты на ўсіх мовах адразу мала хто зможа прачытаць. І тым не менеш, па маіх назіраннях, кнігу Райніса і Аспазіі "Трохкаляровае сонца" ахвотна чытаюць як грузіны і ўкраінцы, так і латышы. Дарэчы, так склалася, што вершы Яніса і яго спадарожніцы, двух геніяльных паэтаў, ўпершыню сустрэліся пад вокладкай адной кнігі. Трэба ўлічыць і той момант, што зборнік выдадзены альбомным фарматам, дзе надрукавана шмат цікавых фатаграфічных выяў, у тым ліку — і тых, што ўпершыню атрыманы з латвійскіх архіваў, што выклікае дадатковую чытацкую цікаўнасць.

— Поруч з Пасольствам Украіны ў Латвіі, на бульвары Калпака, знаходзяцца пасольствы Фінляндыі і Расіі. Ці не выклікае ў вас такая блізкасць пэўныя асацыяцыі, што, маўляў, усе краіны — "сёстры" па старой Расійскай імперыі да 1917 году?

— Хаця гэта і факт, але не хацелася б у такім суседстве бачыць нейкі злы сімвал, здольны азмрочыць нашу будучыню. Імперыя — дабро толькі для метраполіі, для астатніх яна — зло, таму падобныя паралелі насцярожваюць. Украіне яшчэ вельмі многа трэба зрабіць для аддалення ад імперскага мінулага, як гэта паспяхова, скажам так, зрабіла тая ж Фінляндыя.

— Латвія ўзнагародзіла вас Ордэнам Трох зорак. З беларусаў такой узнагародай адзначаны, калі не памыляюся, тры пісьменнікі — паэты Васіль Сёмуха і Сяргей Панізнік, народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін… Што значыць для вас такая дзяржаўная ацэнка? Вы адзначаны ёю як дыпламат ці як пісьменнік?

— Для мяне вялікі гонар быць кавалерам вышэйшага ордэна краіны, дзе я знаходжуся некалькі гадоў. Думаю, тут былі ўлічаны два складнікі: і дыпламатычны, і творчы. Дарэчы, я быў адзначаны яшчэ і прызам Цыцэрона, як лепшы пасол, акрэдытаваны ў Латвіі (гэта здарылася ў 2008 годзе).

— Вы шмат перакладаеце латышоў: Чак, Ваеціс, Скуеніекс, Аузіньш і іншыя… Што шукаеце ў гэтай перакладчыцкай рабоце?

— Пры выбары мастацкага матэрыялу для перакладу кіруюся выпрабаваным метадам: вылучаю тыя тэксты, якія хацелася б напісаць самому. У выдатных паэтаў, як вы самі разумееце, такіх тэкстаў нямала…

— Вы неяк сказалі, што перш-наперш вы – грузінскі пісьменнік… Ці не цяжка ў такім разе выконваць абавязкі ўкраінскага пасла ў Латвіі і пры гэтым заставацца ў душы грузінам?

— Гэта на самай справе няпростая задача, але тут варта ўлічыць некалькі момантаў: па-першае, я — грамадзянін Украіны і знаходжуся на дзяржаўнай службе краіны майго грамадзянства.

Беларуская літаратура для прафесара філалогіі, які яшчэ і вучыўся ў Кіеўскім універсітэце і жыве ва Украіне болей як сорак гадоў, безумоўна ж, не можа быць "тэра інкогніта". Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Пімен Панчанка, Іван Мележ, Аркадзь Куляшоў, Андрэй Макаёнак, Максім Танк, Васіль Быкаў, Еўдакія Лось, Уладзімір Караткевіч, Генадзь Бураўкін, Алесь Адамовіч, Святлана Алексіевіч — імёны, якія адразу падказвае памяць пры згадванні літаратуры брацкай краіны.

Па-другое, Украіна — сяброўская Грузіі краіна, што ўласна і пацвярджаецца маім знаходжаннем на дадзенай пасадзе. Патрэцяе, мне дапамагае шматгадовы вопыт, набыты ў Кіеве. Я да гэтага часу на працягу болей як дзесяць гадоў быў ва ўкраінскім урадзе намеснікам міністра па справах нацыянальнасцяў і міграцыі, доўгі час выкладаў ва ўкраінскіх ВНУ. А з 1974 года з'яўляюся членам Саюза пісьменнікаў Украіны. Адным словам, мне і раней удавалася спалучаць грузінскага пісьменніка і ўкраінскага службоўца. Так ужо склалася маё жыццё.

— У творчасці вы часта звяртаецеся да унікальнага лёсу паэта Давіда Гурамішвілі, жыццём і творчасцю параднёнага з Украінай. Гэтыя звароты – свайго роду сардэчныя лекі для вас?

— Можна і так сказаць. Але самае галоўнае, пра што мне гаворыць лёс Давіда Гурамішвілі, — гэта тое, што магчыма жыць удалечыні ад роднай зямлі, сэрцам і душой застаючыся яе сынам. Літаратар, галоўная зброя якога — слова, здольны тварыць для свайго народа, знаходзячыся ў любым месцы планеты.

— З'яўляючыся амбасадарам, вы актыўна прасоўваеце ўкраінскую літаратуру ў Латвіі. Ці не перашкаджала гэта ў вашых палітычных і эканамічных клопатах?

— Усё, што датычыць маёй творчай работы ў Латвіі, праходзіць выключна за межамі пасольства і ў нерабочы час. На шчасце, на берагах Даўгавы доўгія зімнія ночы, а летам доўгія дні, якія пераходзяць у дзіўныя белыя ночы. У іх, начных трывогах, я і знаходжу раздолле для ажыццяўлення ўсіх сваіх паэтычных задум.

— На пачатку 90-х мінулага стагоддзя вялікім чытацкім попытам карысталася ваша кніга "Сын Лаўрэнція Берыя расказвае". Цяжка было гутарыць з вядомым вучоным, ужо шмат што ведаючы пра яго бацьку? Ці памянялі вы пасля работы над гэтай кнігай свой погляд на сталінізм, на першага памагатага Сталіна? І хто ён усё ж такі — Лаўрэнцій Берыя?



— Работа над дыялогамі з сынам Берыя — гэта вельмі і вельмі запамінальны эпізод у маім жыцці. Я даўно ведаў, што жывём мы ў адным горадзе, але адважыўся пазнаёміцца з ім толькі ў 1992 годзе, пасля развалу Савецкага Саюза. На той час "прарабы перабудовы" столькі бруду выплілі на ўсіх і ўся, што захацелася пагутарыць з чалавекам, які няхай сабе і суб'ектыўна, але ўсё ж мог нешта распавесці пра сыходзячы час з убачанага на ўласныя вочы. Сярго Лаўрэнцьевіч Берыя (якога ўлады перахрысцілі як Сярго Аляксеевіч Гегечкоры) быў на дзіва цікавым суразмоўцам, вельмі разумным і шырока эрудзіраваным чалавекам. У працэсе зносін з ім я перачытаў шмат рознай літаратуры, якая так ці інакш датычылася яго бацькі. І прыйшоў да нечаканай высновы: Лаўрэнцій Берыя быў выдатным кіраўніком, як сёння сказалі б — менеджэрам, але, знаходзячыся на службе бесчалавечнай сістэмы, стаў тым, кім стаў. Ён сваімі арганізатарскімі здольнасцямі пераўзыходзіў ўсіх членаў Палітбюро, быў паспяховым кіраўніком савецкай разведкі і, самае галоўнае, "бацькам" савецкай атамнай бомбы. Так званыя паплечнікі яго моцна баяліся. Менавіта страх перад фіяска штурхнуў Хрушчова і яго таварышаў па долі на змову супраць усясільнага тады Берыя, на якога змоўшчыкі спісалі ўсе грахі савецкай улады, у тым ліку і свае ўласныя.

Хацелася б верыць, што друкаваную кнігу не зможа знішчыць Інтэрнет, як кіно не змагло знішчыць тэатр, а тэлебачанне — кіно. І нават гіпатэтычна знікненне друкаванай кнігі стала б для мяне вялікай трагедыяй. Спадзяюся, не для аднаго толькі мяне…

Сталінізм, як працяг ленінізму, безумоўна, быў з'явай антыгуманнай, крывавай, пра што так і варта гаварыць.

— Што вы ведаеце пра беларускую літаратуру?

— Беларуская літаратура для прафесара філалогіі, які яшчэ і вучыўся ў Кіеўскім універсітэце і жыве ва Украіне болей як сорак гадоў, безумоўна ж, не можа быць "тэра інкогніта". Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Пімен Панчанка, Іван Мележ, Аркадзь Куляшоў, Андрэй Макаёнак, Максім Танк, Васіль Быкаў, Еўдакія Лось, Уладзімір Караткевіч, Генадзь Бураўкін, Алесь Адамовіч, Святлана Алексіевіч — імёны, якія адразу падказвае памяць пры згадванні літаратуры брацкай краіны. Іх творы я чытаў і на ўкраінскай, і на рускай мовах, а іх кнігі ў арыгінале набываў у беларускіх кнігарнях, калі ездзіў праведваць свайго брата ў беларускі Жлобін, дзе ён служыў у Савецкай Арміі.

Я асабіста знаёмы з Нілам Гілевічам і Рыгорам Барадуліным, з якімі разам удзельнічаў у святкаванні Шаўчэнкаўскіх дзён ва Украіне. Тады Барадулін падараваў мне свой зборнік вершаў "Абсяг" з цёплым аўтографам. А яшчэ сачыніў каламбур, звернуты да калегі: "Ты иди пока к Раулю, а я тут покараулю". Справа была ў фае гасцініцы, дзе ляжалі нашы рэчы. У Тбілісі на з'ездзе грузінскіх пісьменнікаў пазнаёміўся з Васілём Зуёнкам, які прысутнічаў там у якасці госця. Цэлы месяц чарнобыльскага 1986 года правёў у Доме адпачынку ў Гаграх па суседстве з Уладзімірам Някляевым. Усё жыццё сябраваў з выдатным беларускім паэтам, які, на жаль, рана пакінуў гэты свет, Васілём Сідарэнкам. Ён, як і я, свой лёс назаўсёды звязаў з Украінай. З беларускімі сябрамі і знаёмымі я размаўляю па-ўкраінску, яны адказваюць на роднай мове. І мы цудоўна разумеем адзін аднаго.

— Ці ведаць з Латвіі сучасная беларуская літаратура?

— У тым, што нямала беларускіх аўтараў перакладзена на латышскую мову, я пераканаўся, калі наведаў выстаўку беларускай кнігі ў Латвійскай акадэмічнай бібліятэцы, якая адбылася пры падтрымцы майго калегі і сябра, пасла Беларусі ў Латвіі Аляксандра Герасіменкі. Аднак гэта былі кнігі, у асноўным, класікаў, перакладзеныя раней. Цяпер, па маіх назіраннях, латышы болей перакладаюць пісьменнікаў скандынаўскіх краін, ЗША і старой Еўропы.

— Невялікае бліц-апытанне… …Назавіце кнігу, якую вы гатовы былі б узяць як адзіную на бязлюдны востраў…

— З практычнага пункта гледжання, як дапаможнік па выжыванні, відаць, "Рабінзона Круза", а калі для душы — "Віцязя ў тыгравай скуры" Шата Руставелі, у якой, дарэчы, таксама шмат парад для чалавека, які патрапіў у бяду. А ўвогуле не хацелася б трапляць на бязлюдны востраў, там будзе ўжо не да кніг. Нават і адна, галоўная, непатрэбнай падаса…

— Якую кнігу, на ваш погляд трэба абавязкова прачытаць кожнаму?

— Несумненна, Біблію.

— Колькі жыцця яшчэ адведзена друкаванай кнізе?

— Столькі, колькі будзе існаваць цывілізацыя. Дзіця Гутэнберга — адно з велізарнейшых вынаходніцтваў чалавецтва. Значэнне такога вынаходніцтва вечнае. Хацелася б верыць, што друкаваную кнігу не зможа знішчыць Інтэрнет, як кіно не змагло знішчыць тэатр, а тэлебачанне — кіно. І нават гіпатэтычна знікненне друкаванай кнігі стала б для мяне вялікай трагедыяй. Спадзяюся, не для аднаго толькі мяне…

— Ці прачыталі вы серыял пра Гары Потэра?

— Не. Сыны ў мяне ўжо дарослыя, а сам падобнага кшталту літаратурай не цікаўлюся.

— Галоўная кніга ўкраінскай літаратуры…

— Галоўнай украінскай кнігай на ўсе часы з'яўляецца "Кабзар" Тараса Шаўчэнкі.

— Ці чыталі вы "Начны дазор"?

— Не. Калі размова заходзіць пра такія рэчы, я адразу ўспамінаю, колькі класічных твораў яшчэ не прачытаў і ліхаманкава пачынаю шукаць менавіта іх, каб ліквідаваць прабел.

— Як вы лічыце, ці сталі ўжо постсавецкія дзяржавы па-сапраўднаму нацыянальнымі краінамі? І чаго ў гэтым болей — станоўчага ці адмоўнага?

— Некалі маладому Ілью Чаўчавадзе, будучаму вялікаму пісьменніку і "бацьку нацыі", які вяртаўся з вучобы ў Санкт-Пецярбургу, просты грузінскі горац сказаў: "Наша галава павінна трымацца на нашых плячах! Так будзе лепей!" Народы, якія ўваходзяць у імперыю, і пра якія вы ўжо згадалі, былі абезгалоўлены, пазбаўлены дзяржаўнасці і знаходзіліся пад падвойным гнётам: і нацыянальным, і сацыяльным. Не прайшло яшчэ два дзесяцігоддзі, як мы набылі свабоду, сталі на шлях стварэння (а часам — і вяртання) незалежных дзяржаў. Працэс, па розных прычынах, аказаўся архіскладаным, і пакуль, мне здаецца, ніводная з былых савецкіх рэспублік не можа сцвярджаць, што яна па-сапраўднаму ўжо адбылася як паўнакроўная нацыянальная дзяржава. Але галоўны "плюс" ужо ёсць: мы сталі гаспадарамі свайго лёсу. І нашы галовы — на нашых плячах! І гэта самае галоўнае!

Гутарыў
Мікола БЕРЛЕЖ
Рыга-Мінск

## Гусіным пяром



Леанід ТРУБАЧ. Нарадзіўся ў вёсцы Гута Пастаўскага раёна. Скончыў Пастаўскую СШ № 1 і філалагічны факультэт БДУ (1985). Працаваў настаўнікам у вясковых школах роднага раёна, а пасля выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Пастаўскай школе, дзе калісьці вучыўся сам. Яго вершы змяшчаліся ў калектыўных зборніках універсітэцкага літаб'яднання "Узлёт", якім кіраваў Алег Лойка ("Вусны", "Квадра"). Памёр у 2009 годзе.

Зборнік "ПАМІЖ ПЕСНЯЙ І БОЛЕМ" выдадзены пры фінансавай падтрымцы аднакурснікаў, выпускнікоў-філолагаў БДУ 1985 года. Укладанне і прадмова Сяргея Чыгрына.



# «Каб не даць тым пачуццям памерці»

Калі мне кажуць, як, дарэчы, многія ў гэтай пасмяротнай кніжцы, што той ці іншы паэт не спраўдзіў свой талент, то гэта падаецца мне дзіўным. Зрэшты такая высНова несправядлівая нават да таго чалавека, які ўсё сваё жыццё толькі і займаўся тым, што пісаў вершы. Бо тады вынікае, што, насамрэч аніякага таленту ў такога чалавека і не было. А вось у дачыненні да людзей, для якіх паэзія была не прызваннем, а захапленнем і насалодай, суб'ектыўны вердыкт будзе зусім іншым. Бо такія людзі не толькі нешта пісалі для душы, але пры гэтым яшчэ і выяўлялі сябе ў іншай жыццёвай сферы. Колькі ў нас "прафесійных пісьменнікаў", "творчасць" якіх прайшла міма грамадскага і духоўнага жыцця нацыі (пагартайце шасцітомны біябібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменнікі") ды ўзгадайце яшчэ столькі ж сучасных працаўнікоў сціла?!.

Але ж і колькі тых, хто ўласнай "літаратурнай творчасцю" не адцаніў плёну сваёй асноўнай прафесійнай дзейнасці: сярод іх мы заўважым і шматлікіх аўтараў вершаваных зборнікаў і публікацый, і выдатных педагогаў, і вучоных, і службоўцаў, і рабочых, і калгаснікаў…

А ўвогуле, калі раздумацца, то для паўнавартаснага літаратурнага працэсу якраз і неабходна менавіта такая шырокая калялітаратурная аўдыторыя — і іерархія захоўваецца, і сам працэс не перапыняецца, пры гэтым як бы (такая рэмарка міжволі напрасілася) не страчваюцы сваёй важкасці і запатрабаванасці. У пісьменнікаў і чытачоў захоўваецца іх амплуа, але сціраецца іх абсалютнае размежаванне, г.зн., у пэўных выпадках яны могуць мяняцца месцамі…

Да прыкладу, чытаючы сёння "незакамплексаваныя" опусы Альгерда Бахарэвіча, я не да канца ўпэўнены, што праз якіх дваццаць гадоў менавіта яго творамі будуць захапляцца нашы інтэлектуалы і нашчадкі-інтэлігенты. Як, пэўна, не ведаў Васіль Гадулька, запісваючы ў агульных сшытках побач з чарнавікамі вершаў дату сваіх выхадаў на палявыя работы ў калгасе (найчасцей, асабліва зімою, гэта было выкідванне гною з кароўніка), што праз пятнаццаць гадоў пасля яго смерці ён стане вядомым хрэстаматыйным паэтам у беларускай літаратуры… Можна прывесці і адваротныя прыклады. Адно трэба прызнаць бясспрэчна: літаратура ствараецца не толькі пяром канкрэтных аўтараў, але духоўнымі і часцей за ўсё трагедыйнымі высілкамі ўсёй нацыі.

Ну вось і наш Трубач Леанід. З гарадской Пастаўскай школы падаўся ён на самым пачатку 1980-х на філалагічны факультэт беларускай мовы і літаратуры адзінага тады сталічнага універсітэта. Што яго вяло – пакліканне душы ці прагматычны пошук свайго месца ў соцыуме? Але ж, пагодзімся, быць настаўнікам беларушчыны не надта забаўная і спрыяльная грамадская ніша для мужчыны. Нават без уліку спадарожных гэтаму своеасаблівых палітычных і нацыянальных рэалій. Аднак ён (і не ён адзін) на такі крок рашыўся. Можа, гэта спрацоўвае нейкі ўнутраны нацыянальны ген, які адказвае за яе ратавальную жыццядзейнасць? Як бы там ні было, але ў беларускай годнасці такім людзям не адмовіш. Часта ў такіх выпадках да нашай добра вядомай ментальнасці чалавеку дадаецца (прыдаецца) і… літаратура (творчы падыход да жыцця), як метад больш глыбокага самапазнання. Чалавек пачынае выгранькаць сваю натуру да яе асабовай значнасці. Пісанне вершаў, мастацкая творчасць для гэтага найбольш прыдатны занятак. Пачаў спрабаваць свае літаратурныя сілы і Л. Трубач. А параўноўваць свой юначы апломб тут было з чым і з кім.

Шукаю між багацця лёсаў чалавечых  
Крышталь крынічны  
прыгажэйшых ў свеце росаў-зор,  
І непакоюся:  
як мала засталося ісцін вечных,  
Як многа паміж намі  
стала межаў і разор…

Ва ўспамінах пра Л. Трубача яго былы аднакурснік М. Хаўстовіч піша, што "ўчарашнія выпускнікі вясковых школ (а іх у нас была большасць) паступова авалодвалі "единым і могучим", каб утульней пачувацца ў грамадстве. Беларускамоўнымі заставаліся хіба толькі паэты, што бачылі сваю будучыню ў літаратуры. Ты быў чалавекам з гарадской, г.зв. расійскай школы, але быў беларускамоўным. Меў паэтычныя здольнасці, але пэўныя рысы характару не дазвалялі на поўную сілу заявіць пра сябе як пра паэта". Якія то былі рысы, ён не ўдакладняе. Мажліва, прасталінейнасць і нягнуткасць (не характэрныя для беларусаў рысы), на што намякае ў гэтай жа кніжцы пастаўскі паэт і былы калега па працы Ігар Пракаповіч: "І яшчэ адна якасьць вылучала яго сярод іншых, рабіла прыкметным у настаўніцкім асяродку — гэта яго беларускасць. Не штучная, не фальшывая, як гэта часам здараецца, а натуральная, глыбінная. Паўсюль і з усімі Лёня размаўляў па-беларуску, тым самым працягваючы традыцыі высакароднай нацыянальнай інтэлігенцыі, сваімі падзінамі і характарам даводзячы знаёмым і калегам, што быць беларусам у Беларусі — гэта ганарова і пачэсна". Хоць, шчыра кажучы, для мяне гэта нонсенс, так як быць беларусам у Беларусі — гэта ж натуральна. Па ўсім, так лічыў і сам Л. Трубач. І, заўважна, наўпрост ці ўскосна, меў з гэтай прычыны пэўныя непрыемнасці (што не выключана, ад сваіх жа празмерна зрусіфікаваных беларусаў). Наступныя строфы могуць пра тое сведчыць:

Нам засціць вочы пыл стагоддзяў:  
Чужых прымаем за сваіх.  
Не бачым вёснаў і разводдзяў,  
Нібыта ўвесь Сусвет аціх.  
Як той трыпутнік пры дарозе,  
Мой край знявечаны ляжыць.  
Крумкач пячэцца аб народзе:  
Ну, колькі ты шчэ будзеш жыць?

Ну, а як даражыў ён усім родным і блізкім, памятае кожны, хто яго ведаў. Укладальнік кніжкі С. Чыгрын такім прыпамінае яго ў часы студэнцтва: "Калі Лёнька даставаў з сумкі матуліны пачастункі, то казаў: "Частуйцеся, гэта з радзімы Уладзіміра Дубоўкі!" Радзіму сваю, Пастаўшчыну, ён дужа любіў". Пра сябе і ўсіх нас, беларусаў, пісаў, як чалавек з балючым нацыянальным вычуваннем, мо трохі і "перагінаючы палку", але з метафарычнай усёдазволенасцю:

І рэкі поўняцца тугою —  
З іх смагу нам не наталіць.  
Гаворым моваю другою,  
Хоць ёсць душа, ды — не баліць.  
У роднай хаце — быццам госці —  
На лавы селі і глядзім.  
Чужынец-кухар кіне косці,  
А мы, удзячныя, з'ядзім.

Сам зборнік мне падаецца цэльным і прадуманым, як фармальна так і змястоўна. Можа, толькі адчувальна прыцягнутым падаецца раздзел "Сцэнары". Усё ж гэта чыста літаратурная работа для школьных ранішнікаў ды самадзейных калектываў (своеасаблівая тэкставая "салянка" на зададзеную тэму). А да ўсяго, як не надта агалошваючы кажуць (прынамсі пра гэта мяне папярэдзіў, пабачыўшы на маім працоўным стале кніжку Л. Трубача, паэт С. Панізнік), у апублікаваных вершаваных сцэнарыях, што знойдзены ў рукапісах Л. Трубача, сям-там сустракаюцца вытрымкі з твораў беларускіх паэтаў, аўтарства якіх па недаглядзе, як мне думаецца, складальніка кніжкі не пазначана.

Гэта што да крытычнага боку. Але ўсё ж аснова кніжкі прыцягвае ўвагу чытача сваім прафесійным літаратурным узроўнем. Асабліва ўражваюць лірычныя старонкі паэтычнай творчасці Л. Трубача.

Няма цяпла, зіма ідзе,  
Цяжэй знаходзіцца дарога…  
І памяць светлая ўпадзе  
На снег бялюткі ля парога.

Альбо такая страфа, хіба пакіне чытача абыякавым:

Вятрыска шумне,  
расштурхае асіны,  
Ажно здрыгануцца спрасонна камлі…  
Радзіма! Твой колас я не адзіны  
І не апошні на гэтай зямлі.

І яшчэ вельмі важная пазнака літаратурнага таленту чалавека — гэта яго шчымлівае прадчуванне свайго выраку. Тут, зазвычай, памылак не бывае, а хлусня і ўвогуле немагчымая. Як вось у гэтых радках Л. Трубача:

Нас лёс не песціў аніколі,  
Хто мог бы выжыць — ён не жыве.  
І цяжка верыць, што ўжо болей  
Не прыйдзе ранак да цябе.

Гэтая тэма такая датклівая, што на яе пасягаць мае права толькі пазначаны "перстом" Божым. Калі ты разумееш усю незваротнасць свайго скону, але лічыш патрэбным папярэдзіць пра гэта яшчэ пры жыцці, тым самым паўстаўшы духоўна нязломным над лёзавызначальна сілай…

Не чапайце апалае лісце,  
Не кранайце ягоных вы сноў.  
Ці было гэтак з вамі калісьці:  
Хочаш жыць — паміраеш ізноў…

Думаецца, што Л. Трубач, як чалавек творчы, пакінуў па сабе добрую і помную беларускую спадчыну, якая і яго дзецям і дзецям, якіх ён вучыў у школе, і людзям, з якімі ён таварышаваў прыдасца, бо, па сутнасці, вось гэтая кніжка і ёсць яго літаратурным плёнам і, адначасна, іх удзячнасцю яму за годна пражытае жыццё. Калі Леанід Трубач пісаў гэтыя радкі, ён, пэўна, ведаў альбо ўжо здагадваўся пра ўсё, што я тут напісаў:

Адшчыміць, адпакутуе сэрца,  
Але будзе адлігу чакаць,  
Каб не даць  
тым пачуццям памерці,  
Каб хоць нешта, але захаваць…

ЛеГАЛ

## Розгалас

# А дзе аб'ектыўнасць?

**Даўно збіралася напісаць у "ЛіМ". Пачалося з таго, што калісьці прачытала водгук-рэцэнзію на кнігу Лявона Валасюка "Сцежка да сядзібы".**

Прызнаюся, калі чытала рэцэнзію, самой кнігі і не бачыла нават. Але ж настолькі "разгромной" была крытыка, што якраз гэта і падштурхнула знайсці яе і прачытаць: няўжо ж такую "дрэнь" могуць выдаць? Ды — не, нармальная проза. Разам з аўтарам перанеслася ў сваё дзяцінства. Нават і сёння помняцца раздзелы пра буслянку, пра кінаперасоўку… Хай просценька, немудрагеліста апавядае аўтар, але ж прачытала ад пачатку да канца. Аўтар жа крытычнага артыкула чамусьці кніжку спрэс зганіў.

Мне падаецца, што крытык, яшчэ толькі прыступаючы да аналізу твора, павінен паважаць аўтара, як чалавека, нават таго, творы якога яму не падабаюцца.

Карацей, "Сцежку…" прачытала з ахвотаю. Другое, што прымусіла мяне, радавога правінцыйнага чытача, засумнявацца ў літаратурнай крытыцы, гэта два погляды на адну кнігу ("ЛіМ", 24 кастрычніка, 2008. Ю. Фатнеў "Даражэй за ўсё — святло вячэрняе…" і Л. Алейнік — "Пушкін плача").

Як жа такое можа быць: адзін і той жа паэт, адзін і той жа яго паэтычны зборнік, а погляды крытыкаў — палярныя?! Што тут: суцэльны суб'ектывізм? Адзін цвердзіць: Аўруцін амаль на "нобелеўку" цягне, другі — "Пушкін плача" ад такой паэзіі.

А мне хацелася б ад крытыка іншага. Мне хацелася б, каб крытык як спецыяліст-літаратуразнаўца, дапамог мне, звычайнаму чытачу, разабрацца ў творы, дзе, можа, я сама ў чымсьці не змагу разабрацца. Вучыў мяне разумець мастацкае слова. Гэта з аднаго боку. А з другога — дапамагчы аўтару больш аб'ектыўна паглядзець на сябе і свой твор, улічыць нешта на будучае. Аб'ектыўна ацаніць вартасці і недахопы твора. І ў першую чаргу вартасці (я, да прыкладу, у сваёй працы старалася хоць зрэдку нават у самага няўдалага вучня знайсці нешта, за што яго можна было б пахваліць).

Тут мне хацелася б прывесці ў прыклад словы вядомага літаратуразнаўцы з Брэстчыны Веры Ляшук: "Я пішу рэцэнзіі з надзеяй, што яны некаму дапамогуць у працы, а можа, хтосьці прачытае самі кнігі. Таму я не акцэнтую ўвагу на недахопах, а імкнуся ўлюбіць у кнігу".

І вось нарэшце матэрыял "ЛіМа" за 22 студзеня 2010 г., рубрыка "Абмеркаванне".

Прачытала "Дзеда" У. Сціпана ў дзень паступлення "Полымя" ў вясковую бібліятэку. Сваё захапленне не выказала на старонках газеты ("ЛіМ", 9 снежня 2009 г., "Замова за мову"), не чакаючы ацэнкі крытыкаў. "Абмеркаванне" мяне зноў азадачыла. Згодна з ацэнкай "Дзеда" Ірынай Шаўляковай, Алесем Грыбоўскім, Ладай Алейнік.

А вось Сяргей Грышкевіч… Я ўсумнілася ў ім як у крытыку. Бо як не бачыць тых якасцей у творы, якія бачны радавому чытачу? А яго ж задача — бачыць глыбей і шырэй, чым бачу я, жывучы ў правінцыі, удалечыні ад сталічнага літаратурнага жыцця.

З літаратурнай крытыкі я давяраю больш за ўсё І. Шаўляковай і Ц. Чарнякевіч. Іх тактоўнасць, інтэлігентнасць, добразычлівасць імпануюць мне.

Ірына РУДКОЎСКАЯ  
в. Хатынічы,  
Ганцавіцкі раён

Калектыў супрацоўнікаў РВУ «Літаратура і Мастацтва» выказвае шчырыя спачуванні намесніку міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэушу Іванавічу Стружэцкаму з прычыны смерці яго БРАТА Альберта.

Калектыў Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці пісьменніка МІХАЙЛАВА Альберта Аляксеевіча і выказвае шчырае спачуванне яго родным і блізкім.

# Пялёсткі вершаў у сэрцы маім

Яго першая паэтычная кніжка выйшла 45 гадоў таму, праз 18 гадоў пасля таго, як ён загінуў на фронце. А я ў далёкім 1963-м толькі з'явіўся на свет, нарадзіўся на той зямлі, што і ён, натуральна таму не мог яшчэ ведаць, што і за мае народзіны пад мірным небам ахвяраваў сваім жыццём гэты таленавіты хлопец. Як і кожны малады творца, ён марыў пра сваю кніжку, прыдумаў яе назву. Яму хацелася пабачыць вянок вершаў, дзе кожная старонка, нібы пялёстак дзівоснай кветкі, будзе чараваць чысцінёй і хараством.



Здавалася, лёс абяцаў маладому беларускаму паэту светлую і шчаслівую будучыню. Крытык Рыгор Бярозкін, які ў 1939—1941 гадах працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва», прыгадваў: «Хлопец прыносіў вершы, і гэтыя вершы падабаліся ўсім: "Аляксей Коршак? Цікава… Далёка пойдзе паэт…"». Шлях Аляксея Коршака ў літаратуру перапыніла Вялікая Айчынная вайна, якая паклікала гэтага хлопца, як і тысячы яго аднагодкаў, на фронт, дзе сутыкнуліся ў сваёй непрымірымасці жыццё і смерць.

Аляксей Коршак — сялянскі сын з вёскі Вуглы, што на Капыльшчыне. Нарадзіўся ён 22 лютага 1920 года. З дзяцінства яго рука пацягнулася да кнігі, а не да сахі ці плуга. Хлапчук адчуў смак і асалоду ад чытання. Паводле згадак сястры паэта Соф'і Спясівых, Аляксей здзіўляў сваёй адоранасцю: «Паглядзіць на які малюнак і складае пра ім "гісторыю", а ўжо калі кніжка ў руکі трапіцца — не адабраць» («Слова пра брата»). Цяга да чытання, асабліва паэзіі цалкам завалодала ім у школьныя гады. Пасля Доктаравіцкай сямігодкі хлопец вучыцца ў Капыльскай сярэдняй школе (цяпер гэта гімназія, якая носіць імя Аляксея Коршака). Неяк ён завітаў у хату да свайго аднакласніка Ісмаіла Александровіча, дзе ягоны брат Сцяпан падвёў Аляксея да паліц з кнігамі. С. Александровіч згадваў: «Сарамяжы і скупы на слова хлопец узяў тады ў нас добры дзесятак кніг, і — о, дзівак! — усё гэта былі зборнікі вершаў. Праз некалькі дзён ён зноў выбіраў кнігі, а праз які месяц-два стаў у нашым доме сваім чалавекам» («Варушачы памяць»). І пазней, калі Аляксей ужо вучыўся ў Мінскім педінстытуце, ён пастаянна чытаў паэзію, жыва цікавіўся літаратурным працэсам, пра што сведчаць яго лісты да Сцяпана Александровіча.

Напэўна, чытачу цікава, якім быў Аляксей Коршак, як складваўся яго лёс у тыя даваенныя гады. «Высокі, стройны, светлавалосы, сарамлівы хлапец», — так піша ва ўспамінах пра свайго аднакласніка Ніна Бялковіч («Маладосць, апаленая вайной»). Гэтая прыроджаная сарамлівасць не дазволіла яму ў дзень выпускнога вечара прачытаць перад прысутнымі ў зале верш «Дзяўчыне ў белай сукенцы». У школе доўгі час не ведалі, што Аляксей піша вершы. Паэтам ён паўстаў у вачах аднакласнікаў пасля таго, як высветлілася, што яму належыць аўтарства вясёлага жартоўнага твора «Капрызы фартуны» пра школьнае жыццё, сяброў і настаўнікаў. «Капыль, Капыль! Мой любы дружа…» — так пачыналася тая паэма. У хуткім часе свае вершы Аляксей змясціў у рукапісным часопісе «Юнае племя». Зрэдку ён друкаваўся ў раённай газеце. Пабачылі свет яго вершы на старонках рэспубліканскіх выданняў «Піянер Беларусі» і «Чырвоная змена». А неўзабаве пасля выпускнога вечара, які адбыўся 22 чэрвеня 1938 года, яго вершы надрукавала газета «Літаратура і мастацтва». Для маладога аўтара, безумоўна, гэта была выключная падзея.

Аднак да пачатку вайны заставалася чатыры гады. Ды пра тое паэт не ведаў, хаця прадчуванне бяды выявілася ў яго творах. Ён хадзіў на лекцыі ў інстытут, адначасова працаваў літкансультантам у газеце «Чырвоная змена», быў апантаны паэтычнай творчасцю. Ілья Клаз, аднакурснік паэта па Мінскім педінстытуце, згадвае той перыяд: «Уласна кажучы, за два гады я не памятаю выпадку, каб Аляксей стаяў адзін на калідоры. Ён заўсёды быў у акружэнні сяброў і, здаецца, без іх не мог жыць ніводнай мінуты. А магчыма, было і так, што сябры не маглі абыходзіцца без Аляксея. Сяброў у яго было шмат. Сыходзіўся ён з хлопцамі лёгка, проста і неяк адразу станавіўся неабходным у простай і вясёлай студэнцкай кампаніі» («Чую голас яго»). Незадоўга да пачатку вайны А. Коршак падрыхтаваў першы зборнік вершаў "Пялёсткі", якому было наканавана пабачыць свет больш чым праз дваццаць гадоў пад удакладненай сябрамі паэта назвай — «Апаленыя пялёсткі». «Віруе ў сэрцы маладосць», «…песню я спяваю аб жыцці, аб шчасці», — так выказваў свой унутраны стан паэт у вершах. У 1944 годзе А. Коршак быў мабілізаваны на фронт, удзельнічаў у цяжкіх баях. У лісце да свайго сябра Сцяпана Александровіча паэт пісаў: «Зараз я знаходжуся на фронце ва Усходняй Прусіі. Пішу табе ліст у бліндажы пад гром артылерыйскай кананады. <…> Праслаў бы табе сваіх вершаў, але не маю больш паперы. Іншым разам напішу больш і прышлю вершы…». Гэты салдацкі трохкутнік быў адпраўлены незадоўга да гібелі паэта. 27 лютага 1945 года А. Коршака не стала: яго скасіла куля фашысцкага аўтаматчыка. Пякучым болем працяла сэрца маці вестка пра смерць сына, яна праз усё жыццё журылася і аплаквала роднага Алёшачку, Аляксея…

Лірыка А. Коршака ў беларускай паэзіі даваеннай і ваеннай пары — прыкметная эстэтычная з'ява. Напэўна, яна і па сёння яшчэ недаацэненая. Мяркую пра гэта па тым, якое месца займае імя А. Коршака ў акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя»: у другім томе (1921—1941) няма ніводнай (!) згадкі, у трэцім (1941—1965) ён называецца толькі аднойчы ў пераліку тых, хто загінуў у змаганні з гітлераўскімі захопнікамі (с. 12). Вось, уласна кажучы, і ўсё, што, на жаль, заслужыў таленавіты аўтар. І гэты недагляд здарыўся пасля бліскучага прачытання творчасці паэта Рыгорам Бярозкіным, тонкага аналізу яго вершаў Варлаамам Бечыкам, удумлівага, разважлівага слова пра асобу і паэзію Коршака, якое належыць таму глыбокаму даследчыку літаратуры, як Сцяпан Александровіч.

Шэдэўральна гучыць лірычны верш А. Коршака «Кляновы ліст». У ім чуецца мелодыя восеньскага смутку, песня зажуранага і пяшчотнага чалавечага сэрца. Смутак гэты — светлы і шчымлівы, прасякнуты верай у бясконцасць дабрыні і непераможнасць жыцця. Паэт стварыў па сутнасці філасофскую элегію:

Паслана золата кляновае ўдалі…
І вось апошні ліст плыве агнёвы,
І лёг ля ног маіх на стомленай зямлі
Асенні ліст, асенні ліст кляновы.
………………………
І ў сэрцы ты завянеш назаўжды,
Адзенецца жыццё зялёным лістам,
І толькі ў песні гэтай будзеш ты
Звінець заўсёды звонам залацістым.

Вершы А. Коршака «Сонца», «У лесе», «Вечар», «Возера ночку», «Восень», «Журавіны», «Мелодыя», «Павуцінне», «Просты свет», «Захоча сэрца смеху чалавека…» — такія ж цудоўныя, вобразныя і мелодычныя. Чытаць іх — раскоша і асалода для душы. Гэтыя вершы можна паставіць у перадваеннай паэзіі ўпоравень з лепшымі лірычнымі творамі П. Броўкі са зборніка «Шляхамі баравымі» (1940). А. Коршак уражвае музыкай верша, яркай метафорыкай. Як жа доўга пасля не будзе хапаць нашай паэзіі гэтай непасрэднасці пачуцця, імпрэсіяністычнай вытанчанасці, жывапіснасці слова!

Паэзія А. Коршака часу вайны — сапраўдная падзея ў нашай нацыянальнай літаратуры. Яго лірычныя маналогі поўныя драматызму і пакутлівых перажыванняў. Паэт выявіў тое сапраўднае і праўдзівае, што жыло ў чалавечай душы. У 1942 годзе ён напісаў выдатны верш «Паранены», у якім лірычны герой з шчымлівым болем развітваецца з родным краем:

От і ўсё.
За светлы край азёрны,
За вясну ў палёх,
Неба сіняе у кроплях зорных
Я навек тут лёг.

Трэба заўважыць, што верш «Паранены» шматразова перадрукоўваўся, уключаны ў анталогіі і многія паэтычныя зборнікі.

Вершы ваеннай пары «Расстрэл», «Гарачынь», «О бедны народ мой! О край мой радзімы!..», «Няхай паціскаюць плячамі…» — гэта таксама творы высокай мастацкай вартасці. «Час вымагаў і канкрэтна-асабовай лірыкі, чуйнай да болю, гневу, трывог чалавека», пішучы пра паэзію Вялікай Айчыннай вайны, адзначае А. Майсейчык. А. Коршак — адзін з тых беларускіх паэтаў, хто даў яскравыя ўзоры такой лірыкі.

Памяць пра паэта А. Коршака аднавілася дзякуючы сабранай сябрамі і выдадзенай пасмяротна творчай спадчыне.

І яшчэ вось пра што. Вернасць свайму сяброўству з паэтам С. Александровіч захоўваў праз усё жыццё. Памятаю, як прафесар, чытаючы нам, студэнтам філфака БДУ лекцыю па гісторыі беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя, знайшоў колькі хвілін, каб распавесці пра паэта Аляксея Коршака. Сцяпан Хусейнавіч паказаў невялічкі зборнік «Апаленыя пялёсткі», а затым прамовіў пранікнёныя, вельмі дакладныя словы пра яго лёс і паэзію. Расказаў, каб мы ведалі пра таленавітага творцу, які меў усе падставы, стаць у будучым адным з самых выдатных паэтаў Беларусі. Нягледзячы на кароткі зямны век, у свае 25 гадоў ён адбыўся як цудоўны лірык слова. Менавіта такой жа мэтай, як і калісьці С. Александровіч, я кіраваўся, калі ўключыў верш А. Коршака «Кляновы ліст» у вучэбны дапаможнік для 5 класа сярэдняй школы, па якім пазней у сувязі з пераходам на 12-гадовае навучанне пачалі вучыцца шасцікласнікі. Хацелася б, каб вучні яшчэ ў школе пачулі імя паэта Аляксея Коршака, які пісаў прыгожыя вершы і загінуў на вайне дзеля будучыні новых пакаленняў. Каб ведалі і помнілі…

Алесь БЕЛЬСКІ

# З ліку пачынальнікаў



Беларуская проза пачала спакваля складвацца з даўніх часоў у летапісах, прадмовах і пасляслоўях Ф. Скарыны, у дзённіках-успамінах вядомых людзей XVI—XVIII стагоддзяў, у польска- і рускамоўнай літаратуры XIX стагоддзя, калі не адзін дзесятак аўтараў не мог карыстацца забароненай пасля 1840 года беларускай мовай, а пісалі на матэрыяле Беларусі па-польску альбо па-руску. Ядвігін Ш. (Лявіцкі Антон) — народжаны 140 гадоў таму, адзін з першых нашых літаратараў, які пачаў выпрацоўваць ідэі, змест, стыль новай беларускай прозы ў яе сапраўдным жанравым азначэнні.

Нарадзіўся ён 4 студзеня 1869 года ў былым маёнтку Добасня Кіраўскага раёна. Пасля сям'я перабралася ў фальварак Карпілаўка на Лагойшчыне. Прыкладна ў 1877 годзе бацька завёз яго вучыцца ў Люцінку, дзе жыла сям'я В. Дуніна-Марцінкевіча і дбала пра адукацыю сялянскіх дзяцей (пазней былы вучань наракаў, што пісьменнік не заўсёды быў з імі, вучнямі, даверлівы, не пасвячаў іх у свае беларускамоўныя творы. Безумоўна ж, нараканні тыя не мелі падставы: гаспадар і ягоная сям'я былі пад наглядам паліцыі і, канечне, асцерагаліся, каб з-за іхняй шчырасці, г.зн. на той час неабачлівасці, не зачынілі школку).

Пасля першых крокаў у свет навукі ў Люцінцы Антон працягнуў вучобу ў Мінскай гімназіі і паступіў вучыцца на медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта. Ды ў 1890 годзе за вальнадумства быў выключаны адтуль, нават яго з найбольш "небяспечнымі" арыштавалі і некалькі месяцаў пратрымалі ў Бутырцы сярод палітычна зняволеных. Але малады дух яго не зламаўся. Ён далучыўся да землякоў, якія мелі намер утварыць першы беларускі гурток дзеля ажыўлення беларускага друкаванага слова. Значыць, фактычна забароненая беларускамоўная творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча ды іншых зрабілі на ўсіх іх вялікае ўражанне, значыць, пасеянае тымі ўзыходнае зерне трапляла не толькі на камень...

У турме будучы пісьменнік пачаў набірацца вопыту ў напісанні прозы з перакладу на беларускую мову папулярнага тады апавядання "Сігнал" рускага пісьменніка У. Гаршына. Пасля выхаду на волю і вяртання ў Карпілаўку яго чакалі навіны і вельмі горасныя: хутка памёр бацька і згарэла бацькоўская хата. Каб выжыць, ён пачаў шукаць заробку, найперш у аптэках. У 1892-м напісаў п'есу, але ахранка не дазволіла яе паставіць: убачыла ў ёй антыдзяржаўныя змест і ідэю. На некаторы час ён пакідае службу, літаратурны занятак і адбудоўваецца. Затым шукае шчасця ў рускім і польскім друку, пішучы на самыя розныя "падзаробкавыя", але ўжо свядома нацыянальныя тэмы — нарысы пра этнічны побыт беларусаў, пра іхні фальклор, культуру. Шчыра, натхнёна ўзрадаваўся, калі пачала выходзіць нарэшце афіцыйная беларускамоўная газета "Наша доля". Там змяшчаюць яго апавяданне "Суд", якое належна заклала падмурак новай, рэалістычнай беларускай прозы. У 1909—1910-х жыве ў Вільні, працуе ў "Нашай ніве", дзе часта друкуецца сам і спрыяе змяшчаць першыя беларускамоўныя творы пачаткоўцам (у ліку тых, каму ён творча дапамагаў, і Максім Багдановіч). Пры першай жа магчымасці ажыццяўляе сваю даўнюю задуму пешшу падарожнічаць па Беларусі (ідзе з Віленшчыны праз сённяшнія Гродзенскую і Мінскую вобласці, на Стаўбцоўшчыне праходзіць блізкія да маёй вёскі Налібокі, Пруды).

Пасля заканчэння падарожжа піша эсэ "Лісты з дарогі". Гэта — не проста пісьменніцкія нарысныя нататкі: выключна жывапісныя карціны, удумны аналіз былога і тагачаснага вясковага жыцця, густоўная беларуская мова. Таму эсэ цікава чытаць, нават перачытваць і сёння. Пасля гэтага акрыялы духам празаік піша новыя апавяданні. У 1912-м старонавіцца аўтарам зборніка апавяданняў "Бярозка", у 1914-м — "Васількоў". Ды ўсплёск радасці і шчасця аглушаюцца новай бядою — захворваннем лёгкіх і нырак. Яно прыносіць фізічную і душэўную пакуту, адрывае ад любай працы, але ён намагаецца пераадолець хваробу, супрацоўнічае ў беларускамоўных выданнях "Беларусь", "Саха", "Лучынка", а ў 1916-м, як самому не было цяжка, на бескарысным парыве памагае тым, хто пацярпеў ад Першай сусветнай вайны, застаўшыся без кала і двара, без бацькоў. Ды хвароба не адступае і адольвае пісьменніка. Памёр ён 24 лютага 1920 года.

Змагаючыся за жыццё, знясілены ад пакут, Ядвігін Ш. верыў у вялікую сілу гумару і сатыры, таму намагаўся і іншых лячыць імі ("Сакатушка", "Павук", "Падласенькі" і інш.). Надаваў вялікае значэнне лірызму ("Дуб-дзядуля", "Бярозка"). Не абмяжоўваў сябе малымі формамі прозы, марыў стварыць першы беларускі раман з псіхалагізмам і напружаным драматычным сюжэтам (раман "Золата" застаўся няскончаным). Свае творчыя высілкі ацэньваў сціпла, але і ў той жа час глыбока ўсвядомлена. У адным з твораў зазначыў, што яго лёс, як і іншых, — "сцежка, якую назначыў нам час". Яшчэ пры жыцці яму за рэалізм, за ўвагу да жыцця працоўнага чалавека і пратэст супраць сацыяльнай несправядлівасці, за высокамастацкую прозу з яркімі дэталямі і сакавітай мовай высокую ацэнку далі Янка Купала і Максім Багдановіч. І сёння Ядвігін Ш. не толькі наша гісторыя, лепшыя яго творы — у залатой скарбонцы беларускай літаратуры.

Генрых ДАЛІДОВІЧ

На здымку: Ядвігін Ш.

Малюнак Анатоля Крывенкі (1942 г.)



З выступлення дырэктара НГМ Беларусі Сяргея Вечара: “Музей — важны сацыяльны арганізм нашай дзяржавы, а любы арганізм павінен развівацца, і ён жыве, пакуль расце і развіваецца. Таму музей і павінен камплектавацца, займацца пошукам, зборам экспанатаў. Гэта ў далейшым дасць магчымасць сучасным і будучым даследчыкам, наведвальнікам глыбей адчуць усю адметнасць нашай гісторыі, культуры, яе знітаванасць з агульнаеўрапейскім кантэкстам”.

Цёплую, сапраўды ўзнёсла-веснавую атмасферу стварыў ансамбль віяланчэлістаў “Дамінанта” дзіцячай музычнай школы № 17 горада Мінска перад урачыстым адкрыццём у Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі адмысловай выстаўкі “Экспануецца ўпершыню.
З паступленняў 2009 года ў збор Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь”.
Справа ў тым, што за прамінулы год фонды гэтай установы культуры папоўніліся больш як на 15 тысяч, кажучы сухімі афіцыйнымі словамі, адзінак захоўвання. А за кожнай такой “адзінкай” — падзея, спадзевы, гонар, гісторыя, само жыццё.



# Рабіць гісторыю сёння







“Экспануецца ўпершыню” — другая выстаўка з серыі доўгатэрміновага праекта. Увазе наведвальнікаў — плён руплівай працы калектыву музея за апошні год у галіне камплектавання фондавых калекцый. Дакладней, невялікай яе часткі — 146 прадметаў, якія даюць уяўленне пра вынікі работы ўстановы ў гэтым кірунку, — бо, пагадзіцеся, цяжка нават уявіць, колькі плошчы заняла б экспазіцыя з 15 тысяч экспанатаў, нават без той часткі “набыткаў”, што знаходзіцца на рэстаўрацыі і ў навуковай апрацоўцы.

Больш за ўсё павялічыліся калекцыі фарфору, фотаздымкаў, нумізматыкі, дакументаў. Крыніцы новых паступленняў розныя: набываліся на сродкі Міністэрства культуры Беларусі, спонсараў і музея, у тым ліку заробленыя ўстановай, а таксама паступалі па выніках археалагічных раскопак, прыкладам, курганнага могільніка вёскі Пагошчы Браслаўскага раёна, і ў якасці падарункаў.

Выстаўка прываблівае разнастайнасцю экспанатаў як па тэматыцы і жанрах, так і па часавай адлегласці. Упершыню за ўвесь перыяд існавання музея ў яго збор прыняты сучасныя прадметы культавага прызначэння Пратрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта і Арцыбіскупа Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага Тадэвуша Кандрусевіча: літургічнае адзенне, ружанец, піуска, панагія, поручы, пояс, ордэны, пасведчанні, дыпломы, граматы… А таксама форма ўдзельнікаў дэлегацыі на XXIX летніх Алімпійскіх гульнях 2008 года ў Пекіне.

У экспазіцыі — вытанчаныя скульптурныя экспазіцыі Сяргея Бандарэнкі “Парад Перамогі. Маршал Г. Жукаў”, “Князь Усяслаў Брачыслававіч (Чарадзей)”, карціна Леаніда Шчамялёва “Музыканты 1941 г. Памяці Г.Свірыдава”, набытыя на сродкі Міністэрства культуры нашай краіны. Фірма “Інтэрсервіс” і Белзнешэканомбанк спансіравалі набыццё, адпаведна, антыкварных рэчаў і унікальных старадрукаў — выданняў, характэрных для каталіцкіх бібліятэк Беларусі XVII — XVIII стагоддзяў. Гэта ўзоры літургічнай, прапаведніцкай і прыкладной (для навучання) літаратуры. Дзве з прадстаўленых кніг — Евангелічная норма (1698) і Тэалагічная бібліятэка прапаведнікаў (1764) — паходзяць з былога кнігазбору Будслаўскага бернардзінскага манастыра.

Людміла Сідорская перадала ў дарунак музею лічбавыя копіі карцін невядомых мастакоў XVII — XVIII стагоддзяў — “Партрэт Яна Сапегі”, “Баль у польскім замку”, “Партрэт Казіміра Паца”, арыгіналы якіх знаходзяцца ў зборы Смаленскага дзяржаўнага музея-запаведніка. Мінчанка Галіна Кунц — франтавыя паштоўкі свайго бацькі Івана Зуева, які загінуў у 1943-м. Вольга Вярыга, сваячка вядомага мастака-графіка Віктара Сташчанюка, — творы і матэрыялы з яго архіва.

Прываблівають пяшчотай, лірычным настроем і выразнасцю работы смаргонскага і барысаўскага цыклаў — “Старыя яблыні”, “Партрэт студэнткі (Таня Міхневіч)”, “Партрэт лесніка Кацярыныча”, “Лужок у лесе”, “Партрэт маці”, “Смаргонскі хлопчык (Міхась Саўчук)”, “Аўтапартрэт” — майстра пейзажу і партрэта Міхаіла Горшмана, перададзеныя сынам Аляксандрам. Сярод іншых экспанатаў — аўтарскія работы мастачак Марыты Голубевай, Галіны Бараноўскай-Плотнікавай, прадметы з архіва знакамітага тэлежурналіста Аляксандра Чуланава, лепшыя ўзоры прадукцыі шырокага попыту і аўтарскія работы майстроў Мінскага фарфоравага завода. З дапамогай вучонага, пісьменніка Адама Мальдзіса ў фонды музея патрапілі семдзесят экспанатаў, прысвечаных жыццю беларусаў у замежжы, з былога Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францыска Скарыны.

Супрацоўнікі НГМ Беларусі падрыхтавалі своеасаблівы сюрпрыз: вырашылі адзначыць сваіх спонсараў і сяброў-руплівцаў. Выдрукавалі спецыяльнае ганаровае пасведчанне з наступным зместам: “Надаецца за асабісты ўнёсак у справу захавання айчыннай гісторыка-культурнай спадчыны, бескарыслівую дапамогу Нацыянальнаму гістарычнаму музею Рэспублікі Беларусь”. А на адваротным баку зазначана, што яно бестэрміновае і, так бы мовіць, дае права пажыццёва-бясплатнага наведвання музея і ўдзелу ў яго справах.

Першымі такімі пасведчаннямі былі ўганараваныя Л. Сідорская, А. Мальдзіс, Г. Кунц, В. Вярыга, М. Горшман, прадстаўнікі каталіцкай і праваслаўнай цэркваў, фірмы “Інтэрсервіс” і Белзнешэканомбанка. Для усіх жадаючых азнаёміцца з выстаўкай “Экспануецца ўпершыню” напярэдадзе цэлая каляндарная вясна — менавіта столькі будзе працаваць дадзеная кампазіцыя.

Віктар КАВАЛЁЎ

Фота аўтара

Каментарый намесніка міністра культуры Тадэуша Стружэцкага: “Было б выдатна, каб іншыя ўстановы культуры падхапілі ініцыятыву дэманстравання сваіх новых паступленняў і зрабілі гэта сваёй добрай традыцыяй. Музейшчыкі, можа, не заўсёды звяртаюць належную ўвагу менавіта паступленням сучасным. Мы прызвычаіліся працаваць на ўчарашні дзень, на нашу гісторыю. Але сённяшні дзень праз колькі гадоў стане таксама гісторыяй, і сённяшні звычайны прадмет нейкага вядомага чалавека ці, звязаны з нейкай важнай падзеяй, творы мастацтва заўтра стануць вельмі важнымі, каштоўнымі экспанатамі музея для будучых пакаленняў.

Калі зазірнуць у гісторыю, то можна прывесці шмат прыкладаў, калі сусветна вядомыя музеі фарміраваліся перш за ўсё за кошт ініцыятывы канкрэтных людзей: хто меў да гэтага адпаведную цікавасць, сродкі і жаданне. Пажадана, каб музей сфарміраваў аўтарытэтны апякунскі савет, які павінен клапаціцца, спрыяць яго справам”.

## У наступным нумары

Віталь Воранаў нарадзіўся ў Мінску, узгадаваўся на Глыбоччыне, вучыўся ў Польшчы, жыве ў чэшскім горадзе Брно і не будуе планаў наконт таго, у якой геаграфічнай кропцы можа апынуцца праз некалькі месяцаў. Ён вывучае англійскую і амерыканскую літаратуры, марыць авалодаць венгерскай мовай, уласныя творы піша па-беларуску, прызнаецца, што ўлюбёны ў мілагучнасць чэшскай мовы. Паспрабаваўшы ўсяго патроху, Віталь пакуль да канца не вызначыўся, кім хоча быць — перакладчыкам выдаўцом, навукоўцам, празаікам ці драматургам. У інтэрв’ю “ЛіМу” перакладчык “Віня-Пыха” і “У чаканні Гадо” распавядае пра ўсе свае творчыя скіраванасці і пошукі.

З глыбінкі

## У спадчыну — землякам

У міні-галерэі “Імгненне” Навагрудскай цэнтральнай раённай бібліятэкі адбылася прэзентацыя выставы карцін нашага земляка Віктара Сташчанюка “Улюбёны ў Беларусь”. Кажуць, пакуль жыве памяць аб чалавеку, датуль жыве і сам чалавек. А мастак заўсёды жыве ў сваіх работах. Так і Віктар Сташчанюк гаворыць з намі з дапамогай фарбаў і колеру, штрыхоў і гульні ўяўлення, высокай думкі аб Навагрудчыне і Беларусі. На выставе прадстаўлена дваццаць адна карціна з фондаў Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея. Гэта ў асноўным акварэльныя і графічныя работы, ёсць карціны напісаныя маслам.

Сташчанюк захапляўся гісторыяй, збіраў чарцяжы старажытных замкаў, паселішчаў, займаўся іх рэканструкцыяй. Аб тым, якім прадстаўляўся аўтару Навагрудскі замак, яскрава сведчыць карціна “Навагрудскі замак у зімнім пейзажы. XVI ст.”. З палотнаў паўстаюць велічныя фігуры князей-абаронцаў Навагрудка — Міндоўга і Давыда Гарадзенскага. Імчыцца на бой Гражына, гераіня аднайменнай паэмы Адама Міцкевіча, пяе песню-паданне сівы гусляр, а летапісец складае гісторыю краю. Жывую цікавасць наведвальнікаў выставы выклікаюць работы майстра, на якіх адлюстраваныя вуліцы нашага горада “На Замкавай вуліцы”, “Былая рынкавая плошча” ды іншыя. Многія з захапленнем, гледзячы на карціны, расказвалі, што менавіта такімі былі будынкі, плошча, і нават людзі. А яшчэ мастак — аўтар шматлікіх марак, канвертаў і паштовак. Іх таксама можна ўбачыць на выставе.

Калі музею ў спадчыну засталіся карціны, цэнтру рамёстваў — рэпрадукцыі, то цэнтральнай раённай бібліятэцы — кнігі. Работнікі бібліятэкі падрыхтавалі выставу-прагляд літаратуры “Рамантычная ўзнёсласць”, дзе прадстаўлены кнігі, ілюстраваныя мастаком, артыкулы пра яго творчасць. Зацікавіў прысутных зборнік вершаў мастака “У прасторы часу”.

Шмат добрых слоў у адрас таленту Віктара Пятровіча сказалі дырэктар гісторыка-краязнаўчага музея Тамара Вяршыцкая, мастак-графік Аляксандр Тамко і супрацоўнік музея Таццяна Наумовіч.

Ірына ЦАРУК,
намеснік дырэктара Навагрудскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”
РВУ “Літаратура і Мастацтва”





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп’ютэрнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку” г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3072
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 11.03.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 1135
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686